бібліятэка Свабоды

XXI стагодзьдзе

Дзьмітры Гурневіч

# забойства ў цэнтры Эўропы

Радыё Свабода

Дзьмітры Гурневіч

# забойства ў цэнтры Эўропы

„Банальнасьць зла“
ў транзытным горадзе Стоўпцы

Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода

**Дзьмітры Гурневіч. ЗАБОЙСТВА Ў ЦЭНТРЫ ЭЎРОПЫ. „Банальнасьць зла“ ў транзытным горадзе Стоўпцы.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2020. – 248 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Сяргей Дубавец*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

11 лютага 2019 году ў школе № 2 гораду Стоўпцы адбылося падвойнае забойства. Вучань 10 клясы Вадзім М. зарэзаў сваю настаўніцу і іншага вучня. Праз гісторыю гораду, мясцовыя легенды, меркаваньні стаўпецкіх людзей, з дапамогай філязофіі таталітарызму Ганны Арэнт аўтар вывучае прычыны і матывы злачынства, якое скаланула Беларусь.

Здымкі для кнігі зрабіў Уладзь Грыдзін.


FOL

ISBN 978-0-929849-54-6

# Зьмест

## Ганна Арэнт у Стоўпцах

Забівалі заўсёды і ўсюды, гэта не навіна.

Забівалі сваіх і чужых, гэта не навіна.

Забівалі малых і старых, гэта не навіна.

Забівалі ў дарозе і на парозе, гэта не навіна.

Забівалі апоўначы і апоўдні, гэта не навіна.

Забівалі разам і паасобку, гэта не навіна.

Забівалі адразу і пакрысе, гэта не навіна.

Забівалі наўмысна і выпадкова, гэта не навіна.

Забівалі за нешта і за нішто, гэта не навіна.

Навіна — што мая віна…

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

## Першае слова

11 лютага 2019 году ў школе №2 гораду Стоўпцы ўпершыню ў сучаснай Беларусі адбылося падвойнае забойства ў навучальнай установе. 15-гадовы школьнік зарэзаў сваю настаўніцу і вучня 11-ай клясы. Яшчэ двух аднаклясьнікаў нападнік цяжка параніў.

Забойцу затрымалі. Забітых пахавалі. Кіраўнік краіны сказаў, што вінаватыя ўсе. Жалоба скончылася, і горад вярнуўся да ранейшага жыцьця.

Я ведаю гэты горад і яго жыхароў. Я нарадзіўся і вырас побач зь ім. Там жывуць мае сваякі і сябры. Любы мой шлях з роднай вёскі амаль заўсёды вёў праз Стоўпцы. На другі дзень пасьля забойства я вярнуўся туды, каб пачуць адказы на свае пытаньні ад людзей, якія сталі сьведкамі здарэньня, сярод якіх жылі забойца і ягоныя ахвяры.

Я ня сьледчы і нават не судовы журналіст. Я распавядаю пра тое, што ўбачыў, пачуў і адчуў у Стоўпцах пасьля забойства. Яно на доўгія гады павісьне траўмай на „сонным горадзе“, як кажуць пра яго мясцовыя жыхары. А можа гэта проста ілюзія? Што калі яны жорстка памыляюцца і зусім ня ведаюць месца, дзе жывуць, і горад насамрэч зусім не такі…

## Пытаньні Ганны Арэнт жыхарам Стоўпцаў

Вучань Вадзім М. падчас забойства быў абсалютна здаровым і ўсьведамляў свае дзеяньні, як вынікае з афіцыйнай інфармацыі сьледзтва. Калі б ён быў псыхічна хворым або знаходзіўся пад уплывам алькаголю ці наркотыкаў, патлумачыць ягоны ўчынак было б проста. Але гэты аспэкт — нармальнасьць — робіць справу складанай.

У першыя дні пасьля забойства пытаньні — чаму і за што? — задавалі ня толькі жыхары Стоўпцаў, а ўся краіна. Стаўпецкая трагедыя стала самым частым запытам у інтэрнэт-пошукавіках. Хто вінаваты апрача забойцы: бацькі, школа, а можа мы ўсе? І ці выпадкова тое, што гэты крывавы панядзелак адбыўся менавіта ў Стоўпцах? Адкуль зло?

Філёзафы шукаюць адказ на гэтае пытаньне тысячы гадоў.

У нашым часе самае, верагодна, дакладнае тлумачэньне дала жанчына, якая памерла за некалькі гадоў да майго нараджэньня, ніколі не была ў Стоўпцах, але якая, я думаю, з поўным разуменьнем прачытала б маю беларускую гісторыю. Яе кніга „Айхман у Ерусаліме. Банальнасьць зла“ дапамагала мне ў працы над гэтай кнігай. Жанчыну звалі Ганна Арэнт.

У 1960 годзе ізраільскія спэцслужбы выкралі ў Аргентыне нацысцкага злачынцу Адольфа Айхмана. Суд над ім адбываўся ў Ерусаліме. Ганна Арэнт апісвала працэс для амэрыканскага часопі-



The Hannah Arendt Center, Public domain

Ганна Арэнт. Архіўнае фота

са The New Yorker. Назіраньні за судом і ўласныя разважаньні Арэнт сталі асновай для адной з найважнейшых кніг у гісторыі — „Банальнасьць зла“.

Аўтарка шукае і знаходзіць свой адказ на пытаньне: як Адольф Айхман, адукаваны чалавек, бяз расавых забабонаў, стаў адным з самых страшных у гісторыі забойцаў мільёнаў габрэяў? Як культурны і адукаваны нямецкі народ мог прывесьці да ўлады нацыстаў, а потым заплюшчваць вочы на іх злачынствы і ў выніку стаць іх саўдзельнікам?

Паводле Арэнт, каб учыняць зло, ня трэба быць дэгенэратам, чалавекам бяз этыкі і маралі. Зло, на яе думку, учыняюць самыя звычайныя людзі, якія прымаюць за норму пэўны парадак і правілы ў грамадзтве. Мы можам прыняць і трымацца самых абсурдных правілаў, нават калі яны наскрозь паталягічныя. І мы будзем кіравацца імі ў сваім жыцьці, пакуль не пачнём задаваць сабе пытаньні пра іх сутнасьць.

Здарэньне ў Стоўпцах ня мае ніякага дачыненьня да матываў Айхмана. Яно несувымернае зь мільёнамі ахвяраў сыстэмы, часткай якой быў Айхман. Але калі зло банальнае і нават самы сумленны чалавек можа стаць монстрам, то што стала імпульсам для трагедыі ў Стоўпцах? Якія парадкі або правілы?

На гэтыя пытаньні Ганны Арэнт адказваюць героі гэтай кнігі. Ананімныя і пад уласнымі імёнамі. Жывыя і мёртвыя.

## Вяртаньне ў транзытны горад

Серада, другая раніца пасьля забойства. Толькі разьвіднела. Холад працінае наскрозь, на вуліцах ні душы. Каля школьнай брамы ані кветачкі, ані зьніча, як быццам тут пачынаецца звычайны навучальны дзень. Кветкі сюды прыносілі яшчэ ў панядзелак, але іх тут жа прыбіралі. У горадзе ўсё мае быць ціха і спакойна.

У школьных вокнах дзе-нідзе гарыць сьвятло. Спрабую ўявіць, за якімі зь іх разыгралася гэтая драма. І намагаюся ўзгадаць тое акно, праз якое я некалі сам глядзеў на гэтую браму, калі ўпершыню быў па іншы бок акна, у гэтай школе.

Гэта было 20 гадоў таму. Была падобная пара, зіма, халадэча і шэрасьць. У розных клясах школы №2 дзеці спаборнічалі за званьне самых разумных. Я сядзеў за партай і тросься падчас раённай алімпіяды па гісторыі. Мы, вясковыя вучні, якіх прывезьлі ў гарадзкую школу на спа-



Чыгунка ў Стоўпцах

борніцтва, жалосна паглядалі адзін на аднаго і кідалі зьдзіўленыя позіркі на мясцовых вучняў. Як толькі нам усім раздалі заданьні, яны пішуць, пішуць і пішуць. А што тут робім мы, чаго мы тут ганьбімся? Гэта ў сваіх вясковых школах мы знаўцы гісторыі, а тут мы проста статысты, бо рэй вядуць гарадзкія. Нам — каровы, сьвіньні, хлявы, гной, якая яшчэ алімпіяда?

Жывучы ў вёсцы, я зайздросьціў гарадзкім аднагодкам, іхнаму побыту і вольнаму ад вучобы часу. Вёска прапаноўвала зусім іншае. А горад пачынаўся ў Стоўпцах, дзе апрача звыклых вясковых будынкаў былі і мураваныя дамы, пяці- і дзевяціпавярховікі, без хлявоў за імі.

Хачу злавіць позірк стаўпецкай дзяўчыны, якая ўжо пятую хвіліну піша і піша. Але як, калі

яна нават не ўздымае галавы? Маім суцяшэньнем за стрэс было 4-е месца, зь якім мяне празь некаторы час павіншавалі. Сумняваюся, што такое месца існуе ў прыродзе. Але хтосьці ў той школе зьвярнуў увагу на маю пісаніну, і неўзабаве ў мяне зьявілася другая нагода, каб туды прыехаць.

Некалькі месяцаў я сур'ёзна думаў над тым, каб кінуць сваю вясковую школу і давучыцца два апошнія гады ў школе №2. Увесну я ізноў шпацыраваў па калідоры гэтай школы, разам з настаўнікам гісторыі. Ён заахвочваў мяне кінуць Налібакі і атрымаць атэстат саліднай гарадзкой школы, каб потым лёгка паступіць у ВНУ.

— Адсюль будзе прасьцей, успрымай гэта як транзыт, — заахвочваў мяне настаўнік. Тады я ўспрымаў гэта як скачок зь вёскі адразу ў Гарвард, але нічога ня выйшла. Я спалохаўся жыцьця без бацькоў і побыту, хай сабе і ў невялікім, але горадзе.

Гэты стрэс і страх я прыгадаў праз 20 гадоў, калі 13 лютага адчыняў браму той самай школы. Скупыя купкі вучняў выходзяць праз галоўны ўваход, ідуць за школу і праз пару хвілінаў вяртаюцца.

— Добры дзень, можа вы ведаеце, а якой гадзіне і ў якой царкве будуць адпяваць Сашу Раманава, — гучна запытваюся ў дзяцей праз агароджу.

Маё пытаньне немагчыма не пачуць, але паўтузіна дзяцей з кветкамі, з пахіленымі галовамі, няўмела спрабуюць паказаць, што яны нічога не заўважаюць, і заходзяць у школу. З гэтай

школай мне не шанцуе, зноў, як і 20 гадоў таму, пахіленыя галовы.

Празь некалькі хвілінаў у браму заходзіць жанчына. Задаю ёй тое самае пытаньне. Нават ня гледзячы на мяне, яна адказвае, што ня ведае. Ведае, і ведаюць дзеці. Я разумею, што маўчаць — гэта ня іх уласны выбар. Гэта выбар і загад дарослых, каб яны не размаўлялі з чужымі, сярод якіх могуць быць журналісты. Бо тыя ўчэпяцца за нейкія дэталі і, ня дай Бог, раскапаюць нешта раней за сьледчых. А раскапаць можна што заўгодна. Горад кішыць плёткамі. Але на што яны разьлічваюць гэтым маўчаньнем? Што я разьвярнуся і пайду адсюль?

У мяне няма да іх прэтэнзій. Сёньня я сапраўды адчуваю сябе тут чужаком, які замінае людзям перажываць жалобу.

— Вы ж са Стоўпцаў, вы ж там свой, вы шмат каго ведаеце? — спытала мяне рэдакцыйнае начальства ў Празе, калі навіна пра забойства ў школе ўспарола інфармацыйную прастору ад Беларусі да Чэхіі.

І праз пару гадзінаў я ўжо ехаў у аэрапорт. Прамога рэйсу не было і давялося ляцець праз Маскву. Пакуль я чакаў перасадкі ў Менск, мне напісаў маскоўскі знаёмец. Калі ён дазнаўся пра прычыну паездкі на радзіму, вельмі зьдзівіўся:

— А што тут надзвычайнага? У нас, у Расеі такое часта здараецца.

Але ў нас не. Я спадзяваўся, што свайму сярод сваіх пра гэта будзе гаварыць прасьцей. Але ўжо падыходзячы да брамы школы адчуў, што гэта

ня так. Свайму ў разы цяжэй. Ён ведае тых, хто плача, і хоча перажываць гэты смутак разам зь імі. Мяне адправілі на пахаваньне сваякоў і папрасілі зрабіць рэпартаж з хаўтураў. Я хачу проста ісьці ў жалобным шэсьці, не намацваючы ў кішэні дыктафон.

Адчыняю браму і іду энэргічным крокам, а ў самога круціць у жываце. За акном у дзьвярах бачу сталага сівога мужчыну, які спакойна глядзіць мне ў вочы. Рыхтуюся да таго, што дзьверы будуць зачыненыя і што гэты позірк праз сэкунду правядзе мяне назад да брамы. Не, усё адчынена. Заходжу, пытаюся пра тое самае. Ахоўнік абяцае вярнуцца праз хвіліну і зьнікае за чарговымі дзьвярыма. За імі, у цэнтры фае, два партрэты. Настаўніцы і яе вучня. На мяне глядзяць сур'ёзныя твары са здымкаў, быццам яны ведалі, што гэтае фота робіцца менавіта для такой нагоды. Перад здымкамі гараць зьнічы, ляжаць кветкі. Навокал дзеці ў куртках і з букетамі, гатовыя рушыць на разьвітаньне з забітымі. Сівы мужчына вяртаецца і тлумачыць мне ўсё, пра што я пытаўся.

— А вы тут былі ў панядзелак? — пытаюся ў яго.

— Так, быў.

— Памятаеце, як яны заходзілі ў школу?

— А вы чаму пытаецеся, вы хто?

— Я свой, з Налібак, працую журналістам. Уся краіна абмяркоўвае гэтую бяду, і мы хочам расказаць, што было насамрэч.

— Не, з журналістамі мы не размаўляем. Вы напішаце, спашляцеся на ахоўніка, а навошта мне гэта? — спакойна адказвае мужчына.

Ён бачыў забойцу і ахвяраў за некалькі хвілінаў да трагедыі. Ён быў адным з апошніх, хто пажадаў Вадзіму М., Сашу Раманаву і Марыне Пархімовіч добрай раніцы. Дзякую і сыходжу. У мяне з гэтай школай ізноў не атрымалася.

## Пахаваньне настаўніцы

Стаю праз дарогу ад дома і назіраю, як заледзянелы газон каля пад'езду настаўніцы паволі запаўняецца людзьмі. Спрабую ўявіць, што бачыла Марына Пархімовіч, выходзячы з дому на працу апошні раз. Шэрыя дамы навокал, шырокую вуліцу бяз дрэваў, недабудаваны шмат гадоў касьцёл. А побач дом, дзе пасьля забойства хаваўся яе вучань. Дом стаіць літаральна за 200 мэтраў ад дзевяціпавярховіка настаўніцы. За 30 гадоў яе жыцьця тут гарадзкі краявід амаль не зьмяніўся.

Уся вуліца Цэнтральная, дзе стаіць дзевяціпавярховік, мае ў будучыні стаць візытоўкай радзімы Якуба Коласа. Графіці з радкамі „Новай зямлі“ тут амаль на кожным жылым будынку. А неўзабаве ў сквэры, акурат насупраць дома настаўніцы, абяцаюць паставіць першы ў Стоўпцах помнік песьняру. У гэтым месцы я пераходжу дарогу і іду ў бок людзей з кветкамі і вянкамі. Цікава, ці любіла яна гэты горад? Адказ я атрымаю трохі пазьней. Пакуль жа, ідучы па заледзянелай



Марына Пархімовіч

сьцежцы, думаю пра стаўпецкіх камунальнікаў. І ня я адзін.

— Божа, хаця каб з труною тут нармальна прайшлі, — кажа жанчына з кветкамі ў руках.

Амаль усе ў натоўпе — жанчыны. Яны размаўляюць паўшэптам. Падыходжу да мужчыны, які самотна чакае таго, што і ўсе. Пачынаем размаўляць, таксама паўшэптам. Негаваркі напачатку дзядзька праз пару хвілін амаль не пакідае мне магчымасьці ўставіць слова.

— Я ведаў яе 30 гадоў. Нашыя жонкі былі вельмі блізкімі сяброўкамі. Настолькі блізкімі, што нават нашыя дзеці нарадзіліся ў тыя самыя гады. Яе дачцэ 24, і маёй таксама. Майму сыну 30, і яе сыну 30. І мужык яе вельмі харошы. Спакойны, разважлівы. І яна. Яна такі чалавек, што проста ну не магла яна пакрыўдзіць таго хлопца. Бессэнсоўная сьмерць. Таму Вадзіму 15 гадоў, гэта ж ужо не дзіця. Я ў 12 гадоў ужо працаваў на заводзе, цэглу цягаў. Чаму ён пайшоў забіваць? І чаму ме-

навіта таго Сашу? Магчыма ўсё, любая вэрсія. Вы ведаеце школу? Кляса Вадзіма на адным канцы. А ён пайшоў у клясу да настаўніцы Ірыны Гарэлік па калідоры ў самую дальнюю клясу. Там жа бегалі дзеці, і ён на нікога ня кідаўся. Ён пайшоў мэтанакіравана ў тую клясу. І Саша ж сядзеў не за першай партай. Значыць, гэта ня проста нейкі маньяк, наркаман ці шызафрэнік. У яго быў плян. Але навошта, чаму? Хаця, якая цяпер розьніца.

Розьніца ёсьць. Прычына — гэта ня толькі ключ да разгадкі. Гэта ключ да таго, каб такое не адбылося ізноў.

— А што, калі нешта ня так было ў школе? — пытаюся ў свайго незнаёмага суразмоўцы.

— Лукашэнка вот казаў учора, што вінаватая школа, — працягвае ён. — П...ж гэта ўсё. Аснова закладаецца дома. А якая можа быць аснова, якое можа быць выхаваньне, калі бацькі ад раніцы да позьняга вечара на працы? Бацька забойцы кажа, што зьдзівіўся пачку цыгарэт у ягонай торбе. Дык пра што мы кажам? Як ты глядзеў свайго сына? А пра што ты яшчэ ня ведаеш?

— Немагчыма быць зь дзіцем 24 гадзіны ў суткі. Гэта ні для бацькоў нядобра, ні для дзіцяці.

— У мяне таксама сын у маладзейшым узросьце пацягваў. Я нічога не адчуваў і ня ведаў, а жонка заўважыла. Мы яму сказалі: пачаць лёгка, а кінуць — не. Мне ўжо за 60, я быў п’яны 4–5 разоў за ўсё жыцьцё, так, каб ажно ногі падкошваліся. Мой жыцьцёвы прынцып — у жыцьці трэба паспрабаваць усё, хаця б адзін раз. Я калі іду на вясельле, то першы дзень гуляю, што пыл ідзе. На

другі дзень менш, а на трэці я глядзець на стол не магу, да чаркі мяне і сілаю не падцягнеш. Мы сваім дзецям не казалі — ня пі. Гэта само па сабе ня зло. Ёсьць жа вінаграднікі, вінаробства, ёсьць традыцыі. Усё павінна быць культурна, прыгожа.

— Але ня кожны падлетак у стане гэта зразумець, калі ў галаве шуміць ад гармонаў.

— А калі катэгарычна падыходзіць да выхаваньня дзяцей і пытаньня, напрыклад, алькаголю, то будзе яшчэ горш. Сарвецца, і канец. Выхаваньне павінна быць у комплексе. Раней жа ня толькі бацькі выхоўвалі. Усе выхоўвалі, грамадзтва выхоўвала. А дзе ў нас у Стоўпцах танцы, дзе дыскатэка? Куды тут пайсьці маладым?

Нашу гутарку перабівае мітусьня ў натоўпе. З пад'езду чуваць шум.

— Выносяць, — кажа нехта.

Людзі шыхтуюцца ў шэрагі, робячы дарогу для труны. Жалобны плач у імгненьне перадаецца ўсім прысутным. Мой суразмоўца, які ў 12 гадоў працаваў на цагельні, заплюшчвае вочы на даўжэй, каб стрымліваць сьлёзы.

— Марыына, Марыынка, — галосіць нехта ў пад'езьдзе.

Нясуць адкрытую труну. Наперадзе з крыжам ідзе сталы мужчына з мокрымі вачыма, побач жанчына з партрэтам настаўніцы. Нехта пачынае званіць школьным званочкам, які нагадвае пра той фатальны ўрок.

— Маамааа, — плача дачка Насьця.

Яе абдымае старэйшы брат, за руку вядзе бацька, які намагаецца стрымаць свае эмоцыі. Ад



Анастасія Пархімовіч з бацькам і братам

зьбялелага і спалоханага твару дачкі на фоне чорнай вопраткі хочацца адвярнуць вочы, каб не сустрэцца позіркам.

У дзяцінстве я быў міністрантам, прыслужваў у касьцёле падчас імшы і ўдзельнічаў, пэўна, у сотні пахаваньняў. Такога жаху ў вачах я ня бачыў ніколі. Ад спробы ўявіць, як нехта тэлефануе дачцэ і пераказвае страшную вестку, што яе маці больш няма, робіцца вусьцішна.

— Каб ты здох, падла. Каб ты згніў у той цюрме, — галосіць старая жанчына.

За ёй моўчкі ідзе маці Марыны Пархімовіч, якую трымае за руку пляменьніца. 80-гадовая маці другі дзень на моцных заспакаяльных леках.

— Што за гора, ня вытрываць. Маці хавае самую малодшую дачку. Мая ж ты жанчынка, — кажа нехта з працэсіі прыцішаным голасам.




Шэсьце выліваецца на ўсю праезную частку. Некалькі сотняў чалавек праводзяць забітую настаўніцу ў напрамку яе роднай вёскі Шашкі. Наперадзе сям’я і былыя калегі. Гэтыя жанчыны могуць ведаць, чаму ўсё здарылася. Чаму вучань, якога Марына Пархімовіч вучыла і выхоўвала, прыйшоў у школу з нажом, каб яе забіць. Але натоўп ідзе моўчкі. Спачатку трэба пахаваць нябожчыкаў.

Азіраюся назад, каб убачыць канец шэсьця, і зрок чапляецца за тэкст на мурале, што на доме Марыны Пархімовіч. Гэты самы вядомы радок беларускай літаратуры праводзіў настаўніцу на апошні ўрок 11 лютага, за паўгадзіны да забойства: „Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе ня маю сілы“.

## Дочкі-мацеры

Вадзім забіў сваю настаўніцу гісторыі сьвядома. Так ён сказаў на допыце. Што магло прымусіць падлетка пайсьці на такі крок супраць чалавека, якога ўсе ў школе, і настаўнікі, і вучні, называюць адным з найлепшых пэдагогаў?

Праз дзень пасьля пахаваньня я патэлефанаваў роднай сястры Марыны Пархімовіч. Тая не хацела размаўляць. Настойваць я ня стаў. Ужо сама размова праз тэлефон з чалавекам, які ўчора пахаваў малодшую сястру, была для мне катаваньнем. А што казаць пра яе.

Праз дарогу ад школы, дзе вучыла Марына Міхайлаўна, — вэтэрынарная аптэка. Там працуе яе сястра ў другой стрэчы Раіса. Вокны яе працоўнага месца выходзяць акурат на вокны школы. На стале ляжыць сьвежы нумар газэты з цэлым разваротам пра ўчорашняе пахаваньне. Жанчына кажа, што ўжо каторы раз намагаецца дачытаць, але ня можа. І падчас нашай размовы ў яе на вачах раз-пораз зьяўляюцца сьлёзы.

Яны выраслі ў адной вёсцы. Маці Марыны Пархімовіч — хросная маці спадарыні Раісы.

— У панядзелак я во толькі прыйшла на працу, распаліла печку, звоніць тэлефон. І пытаюцца, ці ведаю я нешта. Называюць прозьвішча Пархімовіч. А я ведаю, што ў школе тры настаўніцы з такім прозьвішчам. Я зачыніла дзьверы і сама пабегла пад школу. Хаджу, распытваю людзей там. Як сказалі мне, што па бацьку Міхайлаўна, то я ўсё зразумела, што гэта наш род, наша бяда. Шко-

да дзетак Марынкі, яны вельмі харошыя. Мама яшчэ ж жывая, хавала ўчора дачушку сваю. Яна ж, бедная, ледзьве трывала гэтыя дні. Я была дома ў іх за дзень перад пахаваньнем. Ёй дактары лекаў надавалі, яна выйсьці не магла. Я на пахаваньні вяла яе пад руку, бедная цёця Марыя. Марынка ж да мамкі часта езьдзіла. Мамачка, кажа, я цябе дагледжу. Памагала ёй агарод садзіць, дбала, каб хораша было. Усё зіхацела ў яе. І суседкі плакалі ўчора, узгадваючы. Яна прыедзе ад маці і пытаецца ў суседак: „Мо ў цябе гурочкі не ўрадзілі, ці памідоры? Я дам“. Яна ўсім хацела памагаць.

Шлях Марыны з дому на працу вядзе акурат каля вокнаў аптэкі, дзе працуе сястра.

— Яна ж кожны дзень бегла па гэтай во вуліцы. Я яе бачыла праз вакно кожны дзень. Перагаворымся зь ёй, як там мамка, як дзеткі. Перадавай, кажа, маме прывет. Яна была настолькі добры чалавек. Я ўзімку працую пры зачыненых дзьвярах, а з красавіка па восень дзьверы ў мяне адчыненыя. Яна ў школу бегам-бегам. Да яе вучні самі ішлі натоўпамі. Як нейкае сьвята, дык дзеці самі ідуць. Нядаўна быў вечар сустрэчы. Яна ж убраньне сабе купіла. Такая задаволеная пайшла сустракацца з вучнямі.

Пра прычыны забойства Раіса нават не здагадваецца. Але калі сьледчыя ня выявілі ў крыві хлопца-нападніка ніякіх рэчываў, дык тое, што змусіла яго пайсьці на такі ўчынак, павінна было быць вельмі сур’ёзным.

— Я сёньня прачнулася ў 3 гадзіны ночы і малілася. Прашу, Божачка, дай рассудзіць па

справядлівасьці. Дай нам праўду. Чаму гэтае дзіцё так нарабіла? Людзі ж гавораць рознае. Што яго прымусіла? І яго ж хваляць многія, што добры, спакойны быў. Божачка, дай розум, каб справядліва рассудзіць. Чаму гэта ўсё так жорстка? А ўсіх жа шкода. Але Марынкі нашай ужо ўсё роўна ніхто ня верне.

Дачку Марыны Пархімовіч Насьцю я знайшоў праз сацыяльныя сеткі за некалькі сэкундаў. І хоць карыстальнікаў з такім імем было некалькі, ключом стала чорная сьвечка на аватарцы і апошні допіс:

„Прыедзьце да сваёй мамы і скажыце, што вы яе любіце. 15 фатальных сэкундаў, і такога шанцу больш няма. І няма больш на сьвеце той бязьмежнай любові, і ніхто проста не абдыме цёпла-цёпла, ніхто ня скажа «мой мюлюлік», ніхто не патэлефануе і ня дасьць часьцінку свайго цяпла. Адно імгненьне і поўная пустата, і душу вырвалі, і яе не вярнуць, і няма цяпла. Столькі слоў не сказана. Я не пасьпела сказаць табе, не пасьпела папрасіць прабачэньня, прыехаць, і цяпер ніколі не змагу мець прабачэньня. У вас ёсьць час і самы дарагі чалавек, абдыміце яго цёпла і скажыце, што любіце, і папрасіце прабачэньня, пакуль ёсьць магчымасьць.

Мама, я цябе бязьмежна люблю.

І буду вечна прасіць прабачэньня“.

Насьця пагадзілася паразмаўляць адразу. Але з адной умовай — што я ня буду пытацца пра забойства.




Анастасія Пархімовіч

— Мама была неверагодна добрым і сьветлым чалавекам. Яе філязофіяй заўсёды было не адказваць на зло злом, толькі дабро можа выправіць зло. Мама часта ўзгадвала фразу Сакрата: „Калі цябе ўбрыкнуў асёл, ці будзеш ты падаваць на яго ў суд?“ Мама заўсёды ўмела выслухаць, зразумець і даць мудрую параду. Гэта чалавек тонкай душэўнай арганізацыі, з гарачым сэрцам. Яна ніколі не адмаўляла ў дапамозе, была гатовая ўшчаміць свае патрэбы, але дапамагчы іншаму чалавеку.

У маім дзяцінстве не было пакараньняў, а былі мудрыя гутаркі, яны заклалі ўва мне асновы маральнасьці. Яна вельмі любіла прыроду, жывёл, любіла хадзіць у грыбы, сьпявала песьні. Мне

нават складана падабраць словы, наколькі мама сьветлы чалавек. Гэта пацьвердзіць кожны, хто зь ёй быў больш-менш знаёмы.

Працавітая і адданая сваёй справе, яна рыхтавалася да кожнага ўроку, нягледзячы на свой вопыт, таму што заўсёды хацела зацікавіць вучняў і данесьці гісторыю, а не сухі матэрыял. У гісторыі яе цікавіла ўсё, я заслухоўвалася, калі мама распавядала якія-небудзь гістарычныя факты. Са мной яна больш гаварыла на мае любімыя тэмы па гісторыі: ВКЛ, Рэч Паспалітая, гісторыя Раманавых, СССР.

Лагодная гаспадыня, ад яе нельга было сысьці хоць бы без гарбаты са смачным пачастункам, а лепш шчыльнай вячэры. Мама была верніцай, мы праваслаўнага веравызнаньня.

Плянавала гадаваць унучку, клапаціцца пра сям'ю і проста жыць, несучы толькі дабро ў гэты сьвет. Мама была зачараваная ўнучкай. Яна проста сьвяцілася, калі малая прыяжджала.

Нягледзячы на тое, што мы з братам дарослыя, пасьля наведаньня мамы ў Стоўпцах мы заўсёды зьяжджалі ў Менск з ссабойкамі як студэнты. Яе клопат быў бязьмежны і саграваальны. Мама тэлефанавала нам кожны дзень. У мяне з мамай ніколі не было сакрэтаў, ёй можна было расказаць любую праўду, няправільны крок, а ў адказ заўсёды было разуменьне і мудрая навука.

Мама заўсёды вучыла, што трэба дапамагаць людзям, не зацыкліваца на крыўдах, ня памятаць зла. Мне яна заўсёды паўтарала фразу: „Трэба шукаць радасьць і пазытыў у дробязях“.

Да Стоўпцаў яна ставілася спакойна, без нэгатыву або вялікай любові. У маладосьці, расказвала, вельмі любіла Менск, але з узростам казала, што ў вялікіх гарадах жыць цяжка, цісьне мэгаполіс.

Цяпер я зноў і зноў перабіраю мамчыны рэчы, і кожны раз душа разрываецца на кавалачкі ад невыноснай тугі і пачуцьця віны. У кожнай яе рэчы, запісе, адлюстроўваецца бязьмежная душа, якая была гатовая аддаць сябе без астатку дзеля шчасьця іншага чалавека. Малітоўнік аб дзецях, які яна перачытвала кожны дзень, нататнік з днямі нараджэньня ўсіх сяброў і знаёмых, выведзены прыгожым почыркам, і мора кніг, часопісаў, нататак, бо гісторыю трэба данесьці, а ня суха выкласьці.

Чамусьці наш сьвет заўсёды імкнецца зламаць такіх людзей, быццам іх сьвятло не дае яму спакойна жыць. Я ўспамінаю сваё раньняе дзяцінства, калі ў мамін адпачынак мы ўсе адпраўляліся на лета да бабулі ў вёску — мы з братам і яшчэ чацьвёра нашых стрыечных братоў і сясьцёр. Для старэйшых хлопчыкаў і дзяўчатак мама была проста Марынка, для малодшых жартам мама Марына. Цяпер я зьдзіўляюся, як мама з намі спраўлялася і колькі пяшчоты магла даць кожнаму.

А цяпер жыцьцё ідзе далей, гэтак жа адпраўляюцца цягнікі, ідуць дзеці ў школу, кіпіць праца і г. д, а вось толькі ў мяне штосьці зьмянілася ўнутры. Зламаўся ўвесь уклад жыцьця нашай сям'і,

толькі цяпер усе зразумелі, на кім усё трымалася і будавалася. Цела ёсьць, але няма душы...

Вольны час мама любіла праводзіць у роднай хаце ў сваёй мамы. У нас дом на краі вёскі, амаль хутар. Мама вельмі любіла гэтае месца, яе вельмі цягнула туды, яна любіла прыроду, лес, адзіноту… — завяршае свой роспавед Насьця.

Марыну Пархімовіч пахавалі ў роднай вёсцы Шашкі. На могілках, побач зь лесам.

## Пахаваньне вучня

За шэсьць тыдняў да пахаваньня Сашы Раманава я выпадкова ішоў маршрутам ягонага традыцыйнага вяртаньня са школы.

Ідучы на Івянецкую дарогу, каб злавіць аўтаспын у Налібакі, я прамінуў школу № 2, царкву



Сьвятой Ганны і пайшоў далей па Гагарына. Вуліцу перацінае менская траса, якую пільнуе самы вялікі ў Беларусі помнік Фэліксу Дзяржынскаму, ураджэнцу гэтых мясьцін. Каменная галава ў памяць аб стваральніку адной з самых крывавых у гісторыі чалавецтва арганізацый стаіць на пагорку ў тым самым месцы, дзе падчас апошняй вайны разьмяшчалася стаўпецкае гета. З пагорка за помнікам тады весела на санках і мяшках зьяжджалі дзеці. Сёньня тут цішыня. Адсюль 10 хвілін пехатою да Сашавага дому.

У Стоўпцах гэтую мясьціну на выезьдзе з гораду ў бок Івянца называюць кар'ерам. Парадны ўваход у дом Раманавых глядзіць на той самы былы кар'ер, які ўжо даўно аброс рэдкім ляском. Для адных тут заканчваюцца, а для іншых пачынаюцца Стоўпцы.

Вялікі стылёвы будынак лімоннага колеру, у якім вырас Саша, не пасуе да навакольнага пэйзажу — шэрых цагляных хатаў за драўлянымі платамі. У Сяргея і Ірыны сын быў другім дзіцём пасьля дачкі Наташы.

Для некаторых жыхароў гораду прыгожы дом стане ледзь не тлумачэньнем забойства. Але цяпер, у жалобным шэсьці, ніхто пра гэта ўголас ня кажа. Пра гэта, і ня раз, скажуць пазьней. Цішыню сярод прысутных парушаюць толькі журналісты сваёй мітусьнёй з камэрамі і мікрафонамі, роспытамі суседзяў пра забітага хлопца.

У натоўпе заўважаю адзіны вянок па-беларуску. Ён ад старшыні Таварыства беларускай мовы Алены Анісім, дэпутаткі ад Стаўпецкай акругі.

Саша паўсюль і заўсёды стараўся размаўляць па-беларуску.

— Ён цікавіўся грамадзкім жыцьцём, пачаў весьці суполкі ў сацсетках па-беларуску, у тым ліку ад Стаўпецкага ТБМ. Харошы быў хлопец, неканфліктны. У панядзелак, калі ўсё гэта здарылася, спачатку казалі, што ахвяра з 10-й клясы. Я пазваніў да Сашы, каб запытацца, як там і што. Але падняў ягоны бацька і сказаў: „Сашы з намі больш няма“, — кажа актывіст Таварыства беларускай мовы Міхаіл Мацкевіч, які прынёс вянок.

Шэсьце паволі сунецца па знаёмым для Сашы шляху, у бок ягонай школы. Увесь гэты час труну нясуць на руках.

— Саша быў не па ўзросьце сур'ёзны і мэтанакіраваны. Зьбіраўся паступаць у Польшчы на палітоляга-журналіста. Па панядзелках і серадах я езьдзіў разам зь ім зь Менску ў Стоўпцы. Вялі сур'ёзныя і цікавыя размовы пра культуру, гісторыю і мову. Абмяркоўвалі жыцьцёвыя пытаньні. Саша амаль заўжды размаўляў па-беларуску. І, наколькі я ведаю, зацікаўліваў і заахвочваў да вывучэньня мовы сваіх аднаклясьнікаў. Захапляўся відэамантажом. Заўжды праяўляў ініцыятыву і гатовы быў дапамагчы. Да гэтага часу мы ня можам паверыць, што такае адбылося, — кажа яго знаёмы Павал Савіцкі.

Бліжэй да хаты стаяць суседкі Раманавых.

— Саша тут нарадзіўся, заўсёды быў вельмі добрым і ветлівым хлопчыкам. Вось на гэтую лаўку да нас прыходзіў яшчэ дзіцём. Пытаюся: „Ну што, нешта здарылася?“ Сьмяецца ў адказ: „Нічога ня



Сястра і бацькі Сашы Раманава

здарылася, проста так прыйшоў. А як здарыцца, высьветлю і тады ўсё вам раскажу“. Заўсёды вітаўся і са сьвятамі віншаваў. Як падрос, дык езьдзіў тут на квадрацыкле, але потым забаранілі яму гэты квадрацыкл, дык перасеў на матацыкл. Але надта не ганяў, спакойна езьдзіў, — кажа суседка.

Улетку Саша плянаваў аб'ехаць на матацыкле самыя маляўнічыя мясьціны Беларусі.

Ён рос у сям'і, дзе яму не бракавала ўвагі і любові бацькоў.

Калі сёньня я ўзгадваю тое пахаваньне, дык самы запамінальны і адначасна самы страшны момант — гэта сьцішаны енк яго мамы, калі труну выносілі з дому. Гэта быў той стан, калі чалавек ужо ня можа плакаць. Тут не было традыцыйных вясковых галашэньняў, як на пахаваньні ягонай

настаўніцы. Поўная цішыня і толькі енк маці пад шоргат абутку сотняў людзей аб пясок на вуліцы Чарняхоўскага.

— У яго і бацькі вельмі добрыя. Ведаю, што яны прадпрымальнікі. Жывуць заможна, але вельмі прыстойна. Я вунь там далей жыву, але як ідуць міма, дык заўсёды вітаюцца. У Сашы ёсьць старэйшая сястра, тая таксама вельмі добрая дзяўчына, ужо ў Менску жыве. Кажуць, хутка мае шлюбам пабрацца. А тут — такое гора, слоў няма. Залаты ж быў хлопчык, — кажа іншая суседка. У школе № 2, дзе вучыцца больш за паўтысячы дзяцей, Раманаў быў адным з самых заўважных вучняў. Цікавіўся філязофіяй, у 17 гадоў добра гаварыў па-польску і па-ангельску, зьбіраўся паступаць на паліталёгію ў Варшаўскі ўнівэрсытэт.

„Ён быў геніем, магнітам, за ім бегалі ўсе дзяўчаты“, — коратка адказвае адна з Сашавых настаўніц.

У жалобным маршы ідуць старшыня Стаўпецкага райвыканкаму Дзяніс Калясень, ягоная намесьніца Жанна Лысая. Загадчык раённага аддзелу ідэалёгіі і культуры Дзьмітры Сьлесарчык нясе зь іншымі мужчынамі века труны. „Трэба на ўсю катушку спытаць перш за ўсё з старшыні райвыканкаму“, — узгадваю словы Лукашэнкі за дзень да пахаваньня. Так ён камэнтаваў трагедыю ў Стоўпцах, дадаўшы яшчэ пра бардак у беларускіх школах. Ці было нешта, што яны маглі зрабіць і не зрабілі? Ці магчыма было ўвогуле прадбачыць такія рэчы? Пра гэта я яшчэ спытаю ў жыхароў гораду, якім яны кіруюць. Але ня тут і не цяпер.



Раённыя начальнікі Дзяніс Калясень і Жанна Лысая

Шэсьце пераходзіць менскую трасу, якая аддзяляе месца, дзе жыве сям’я Раманавых, ад рэшты Стоўпцаў. Але далей яго кіруюць не па вуліцы Гагарына, што было б натуральна. Жалобны марш збочвае далей, за сотню мэтраў, у паралельную вуліцу Першамайскую, робячы невялікае кола. На Гагарына жыве сям’я Вадзіма. Адсюль можна пабачыць ягоны дом.

Там цяпер бацькі і сястра вучня-забойцы. Калі стаць ля акна, можна пабачыць працэсію і труну Сашы Раманава. Але ў гэтым горадзе немагчыма схавацца. Можна толькі абысьці бокам.

## Чумная зямля

Калі я „экранізую“ ў галаве легенду пра ўзьнікненьне назвы Стоўпцы, дык шкадую, што швэдзкі рэжысэр Інгмар Бэргман даўно памёр. Гэта ягоная гісторыя. У „Сёмай пячатцы“ ён распавёў гісторыю рыцара, які вярнуўся з вайны ў ахопленую чумою Швэцыю і сустрэўся там са Сьмерцю. Тая ўсяляк хацела зьвесьці з рыцарам рахункі, а ён спрабаваў яе падмануць. Калі б Бэргман узяўся экранізаваць легенду пра ўзьнікненьне назвы Стоўпцы, кіно атрымалася б ня менш вусьцішнае.

Легенда кажа, што некалі на месцы сёньняшняга гораду быў лес. У тым лесе стаяў кляштар, дзе жылі манахі, якія рэдка бачыліся зь людзьмі.

Аднойчы ў кляштары пачалася чума. Цікаўныя мясцовыя сяляне вырашылі наведаць манахаў. Калі прыйшлі, дык пабачылі, што ўсе манахі мёртвыя. Каб абараніць іншых ад сьмяротнай хваробы, людзі паставілі на магілах манахаў слупы, якія папярэджвалі, што на гэтым месцы чумная зямля. Калі хто бачыў слупы, ён ведаў, што гэтага месца трэба пазьбягаць. Але сёньня тут стаіць горад, а значыць, людзі парушылі забарону.

Вядома, гэта толькі легенда. Але, як і ў фільме Бэргмана, у гісторыі Стоўпцаў людзі ня раз гулялі ў шахматы са Сьмерцю.

Паводле легенды, кляштар разьмяшчаўся акурат на тым месцы, дзе сёньня стаіць школа № 2. Калі даваць легендзе веры, то магілы манахаў — на школьным футбольным полі, бо менавіта



Стадыён, дзе некалі стаяў кляштар

там стаяў адзіны вядомы ў гісторыі Стоўпцаў кляштар.

Чумная зямля, якую сяляне пазначылі слупамі, гэта і ёсьць тое самае месца, дзе ў 42-гі дзень 2019 году „ціхі і спакойны“ хлопчык Вадзім М., які „ня ўлазіў у кепскія кампаніі і добра вучыўся“, забіў ударамі нажа ў шыю і сьпіну сваю настаўніцу гісторыі Марыну Пархімовіч і вучня 11-й клясы, генія і аматара філязофіі Сашу Раманава.

## Брама ў Эўропу

Яшчэ доўга пасьля вайны ў Стоўпцаў быў асаблівы статус — буфэрная зона. Тут даўжэй, чым у іншых месцах, людзі не маглі атрымаць пашпарты. Выехаць адсюль было няпроста, ішлі жорсткія і татальныя праверкі. Прычынай было

званьне „брама ў Эўропу“, якую горад атрымаў у міжваенны час.

У чэрвені 1930 году наведнікі стаўпецкага вакзалу назіралі незвычайную карціну. Па будынку цягаўся малады чалавек і пытаўся на ламанай ангельска-нямецкай гаворцы: ці тут ужо заканчваецца Азія і пачынаецца Эўропа? Малады чалавек быў сынам брытанскага прэм’ера — Малкальмам Макдональдам. Разам з двума сябрамі ён жабраваў на вакзале, просячы на квіток да Варшавы.

Пакідаючы СССР, тройка сяброў мела непрыемнае здарэньне ў Негарэлым, на савецкім баку. Тамтэйшыя мытнікі дазваньня ачысьцілі кішэні заходніх турыстаў. Іх гісторыю выслухаў і зразумеў супрацоўнік стаўпецкай мытні Антон Невядомскі. І ня толькі зразумеў, а ўзяўся дапамагчы. Разам з калегам Сьцяпанам Сьніткам яны сабралі патрэбныя Макдональду 100 злотых, і той зь сябрамі даехаў да Варшавы.

Праз некалькі тыдняў на стаўпецкім вакзале атрымалі ліст:

„Мой дарагі пан Сьнітка! Прашу прабачэньня за доўгі час, на які я зацягнуў аплату вам майго доўгу. Справа ў тым, што, вярнуўшыся ў Англію, я нідзе ня мог набыць польскія грошы аж да вяртаньня ў Лёндан. Вы знойдзеце свае 100 злотых дададзенымі да гэтага ліста. Дазвольце мне яшчэ раз падзякаваць вам за дабрыню і шчодрасьць, якую вы аказалі маім сябрам і мне ў Стоўпцах, калі мы трапілі ў цяжкую сытуацыю. Гэта быў учынак, якому мы зьдзівіліся і які высока ацанілі. Са шчырымі словамі падзякі М. Макдональд“.




Чыгуначны вакзал

Свой камэнтар да гісторыі дадала і рэдакцыя газэты Dziennik Białostocki, дзе ўся гісторыя і была апісаная:

„Спадзяёмся, што сын прэм’ера Англіі з таго часу будзе ў стане радасна паказаць на мапе мяжу паміж Эўропай і Азіяй“.

Рэдакцыя не перагнула. Стоўпцы і сапраўды на міжваеннай мапе былі пунктам паміж Усходам і Захадам. І, на шчасьце для Стоўпцаў, на заходнім баку.

Пасьля таго, як у 1921 годзе горад увайшоў у склад Польшчы, ён стаў галоўным пунктам на мяжы з СССР. Менавіта сюды прыбываў славуты цягнік „Парыж-Стоўпцы“. А на памежжы як на памежжы — сумна не бывае.

Жыцьцё ў Стоўпцах круцілася каля вакзалу. Сустрэць тут можна было каго заўгодна: расейскіх пісьменьнікаў Барыса Пастарнака, Ільлю Эрэнбурга, Аляксея Талстога, Максіма Горкага. Гасьцяваў тут нават брытанскі прэм'ер Энтані Ідэн. А Ўладзіміра Маякоўскага менавіта агляд стаўпецкімі памежнікамі натхніў на славутыя радкі пра пашпарт: „Я достаю из широких штанин дубликатом бесценного груза... “

Нават пасьля „аб'яднаньня“ 1939 году, калі афіцыйна Беларусь заканчвалася недзе за Беластокам, мяжа ў Стоўпцах існавала, як і раней. Наваградзкі габрэй Джэк Коган узгадваў у сваіх успамінах, як у чэрвені 1941 году габрэі масава пачалі ўцякаць на ўсход ад наступленьня нацыстаў. Але ў Стоўпцах памежнікі адмовіліся прапускаць іх празь мяжу, якой ужо два гады нібыта не існавала. Па ўцекачах яны адкрылі агонь.

У жніўні 1924 году пра Стоўпцы пісалі многія эўрапейскія газэты. Гэтае здарэньне потым нават назавуць першым тэрактам у гісторыі міжваеннай Польшчы. 4 жніўня дывэрсійная група пад камандаваньнем Станіслава Ваўпшасава напала на горад, каб вызваліць з турмы чальцоў камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. У камандзе Ваўпшасава было амаль 60 чалавек. Іхнай галоўнай задачай было ўратаваць лідэраў КПЗБ Паўла Корчыка і Стэфана Скульскага.

Акружыўшы горад з усіх бакоў, яны напалі і зь лёгкасьцю захапілі Стоўпцы. Але групу Ваўпшасава цікавіла ня толькі вызваленьне калегаў-бальшавікоў. Яны зьнішчылі будынак пошты, скралі



ўсе грошы з касы, забілі сямёх паліцыянтаў і аднаго чыноўніка, разграмілі пастарунак, падпалілі вакзал, абрабавалі крамы і многія дамы ў горадзе.

Сёньня „Стаўпецкая апэрацыя“ лічыцца самай гучнай у міжваенным часе на польска-савецкай мяжы. Гэта была і адна зь першых „гібрыдных апэрацый“ у СССР. Савецкі ўрад сьцьвярджаў, што ніякіх сваіх дывэрсантаў у Стоўпцы не высылаў.

Праз шмат гадоў апэрацыю ў дэталях апіша сам Ваўпшасаў, атрымаўшы тытул „легендарнага чэкіста“. Ёсьць у кнізе цікавы момант пра тое, як ягоная група, уцякаючы, згубіла ў Стоўпцах аднаго са сваіх людзей, разьведчыка Пятра Іёду.

„Уланы схапілі яго, зьбілі і правялі па вуліцах, падганяючы прыкла́дамі. Ён ледзь перастаўляў ногі, апухлы і скрываўлены. Яго суправаджалі спачувальныя позіркі і глухі шум працоўнага люду. Вайсковы суд акупантаў прысудзіў Іёду сьмяротнае пакараньне“.

Дывэрсанта доўгі час лічылі загінулым, бо ня ведалі, што палякі замянілі расстрэл на пажыцьцёвае зьняволеньне. У верасьні 1939 году, калі Чырвоная армія напала на Польшчу, Іёду вызвалілі з турмы. У 1957 годзе, падчас паездкі па месцах „баявой славы“, яго выпадкова сустрэў Ваўпшасаў. Іёда працаваў у калгасе, жывы і здаровы. І яны ўзгадалі разам былыя прыгоды за чаркай.

Вызваленыя ў той апэрацыі камуністы Корчык і Скульскі падзякаваць Іёду пэрсанальна не змаглі. Скульскага ў 1937 годзе ў СССР расстралялі за „ўдзел у антысавецкай арганізацыі“ і ў той самы дзень зрабілі крэмацыю. Корчыка годам раней выслалі ў ГУЛАГ, а ў 1938 годзе прысудзілі да расстрэлу „за контррэвалюцыйную агітацыю сярод зьняволеных“. Памёр ён у турме.

Так завяршылася самая гучная падзея ў Стоўпцах у першай палове XX ст.

## Дзьве душы Стоўпцаў

Іду па Стоўпцах і спрабую знайсьці прыкметы гораду ў жалобе. Марная справа. Не таму, што людзі тут абыякавыя да бяды. Гарадзкую жалобу тут абвясьцілі самі, не чакаючы нават указаў зь

Менску. І людзі тут такія, як паўсюль. Але колькі я памятаю Стоўпцы, дык яны заўжды былі такія. Спакойныя, з рэдкім аўтамабільным рухам, амаль пустымі вуліцамі і ціхімі мінакамі. Нібыта жалоба тут штодзённая.

Калі я скажу, што Стоўпцы — гэта страшны і змрочны горад, дзе кожнаму захочацца ўзяцца за нож, гэта будзе хлусьнёй. Калі я скажу, што гэта сьветлае і ціхае мястэчка, дзе лад жыцьця спакойны, як ягоныя жыхары, гэта таксама будзе няпраўдай. У Стоўпцаў некалькі душаў. І кожны тутэйшы жыхар сам выбірае той горад, у якім ён жыве. Гэта ня патасная фантазія. Пагаварыце зь мясцовымі, і вы гэта адчуеце.

Адны жывуць у горадзе, дзе „льецца Нёман срэбнаводны“, у месцы, дзе дубы натхнялі клясыка нацыянальнай літаратуры Якуба Коласа. А значыць, гэтае месца асаблівае, іншае. Прыгажэйшае, больш вартае, унікальнае. Зрэшты, і маці другога клясыка, Янкі Купалы, таксама з гэтага краю. Ну, гэта ж пра нешта сьведчыць. За Стоўпцы судзіліся магнацкія роды, а значыць, было за што. Тут некалі былі такія кірмашы, што гай шумеў. Да сталіцы — рукой падаць, зь іншага боку — вялізная пушча, азёры, маляўнічыя вёскі. Горад працінае дарога, якая ў адзін бок прывядзе да Масквы, а ў другі — да Парыжу. У гэтых Стоўпцах усе адзін аднаго ведаюць. У выходныя ходзяць у царкву або касьцёл. А хто ня верыць у Бога, можа паплаваць у навюткім басэйне або пазаймацца фітнэсам. Стаўпецкая ідылія.

Жыхары гэтых Стоўпцаў любяць свой горад, лічаць яго найлепшым, ведаюць, што ў мінуласьці ён быў прыгожы і велічны. А нават калі і ня ведаюць ягонай гісторыі, дык раскажуць, што ён быў менавіта такі. Ім тут амаль усё падабаецца, а калі нават што і замінае, то цярпіма. Для іх Стоўпцы — ціхае і сьветлае мястэчка ў геаграфічным цэнтры Эўропы. Іншыя цэнтры Эўропы — фэйкі, а самы сапраўдны — тут. Стоўпцы даюць ім свабоду, бо тут іх не турбуе мітусьня. Яны жывуць у гэтым горадзе з уласнага выбару, а не таму, што „нешта некаму вінаватыя“. І яны хочуць памерці менавіта тут, калі на гэта прыйдзе час, а ня проста чакаюць сваёй сьмерці, гледзячы на каляндар.

Другая душа Стоўпцаў зь першай нават не знаёмая.

У гэтым горадзе зьмяніўся сам Нёман. Ён зьмялеў настолькі, што нагадвае ня „бацьку-Нёмна“ са славутага гімну Нестара Сакалоўскага, а дробнага сівога дзядулю, які ссох дашчэнту і чакае апошняга дня, бо яму не цікава, ён ужо ўсё пабачыў і ведае. Дзіўна, але горад на Нёмне нібыта не заўважае, што ён на Нёмне. Тут няма ані прысадаў уздоўж ракі, ані прыгожага пляжу. Рака плыве ва ўсіх сэнсах паралельна і са Стоўпцамі не перасякаецца.

Для жыхароў гэтага гораду Стоўпцы — дэпрэсіўнае месца нязьдзейсьненых мараў. У такім горадзе яны штодзённа прачынаюцца і засынаюць.



Нёман

Тут няма працы, няма куды пайсьці і няма да каго пайсьці. Таму людзі бавяць вечары перад тэлевізарам, а іх дзеці праводзяць дзяцінства ў смартфоне. Для іх Стоўпцы — турма. І хоць ва-кол няма ніякай агароджы, уцячы адсюль яны ня могуць.

У гэтых Стоўпцах жыхароў амаль нічога ня цешыць. Горад для іх не невялікі, а дробны. Тут не спакой, а балота. Нёман даўно высах, а пра Коласа ніхто ўжо ня памятае. І што з таго, што ён тут нарадзіўся? Ці мала хто тут нарадзіўся! Стваральнік партыі беларускіх нацыстаў Фабіян Акінчыц, супрацоўнік гёбэльсаўскага Міністэрства прапаганды ў Трэцім Райху, таксама тутэйшы.

Вядома, заслужанымі землякамі звычайна ганарацца. Але пасьля таго, як Колас пакінуў гэтыя мясьціны, ён тут амаль не зьяўляўся. І прычына ня ў тым, што амаль 20 гадоў Стоўпцы і БССР дзяліла мяжа. Ён і пасьля амаль сюды ня езьдзіў. Колас лічыў, што сям’я, якая засталася на малой радзіме, хоча ад яго аднаго — грошай.

Ад лішку грошай у Стоўпцах людзі не пакутуюць і сёньня. І гэта адна з прычынаў, чаму жыхары Стоўпцаў недалюбліваюць свой горад.

А ўсё магло быць зусім інакш. Калі б Стоўпцам пашанцавала, тут магла б быць нават сталіца Беларусі. Адразу пасьля вайны гэтая ідэя ўсур’ёз абмяркоўвалася на нарадах савецкіх чыноўнікаў у разбураным падчас вайны Менску. Новую сталіцу прапанавалі пабудаваць на Нёмне, які цячэ за хлявамі гараджан. Калі падлічылі ўсе выдаткі, з ідэяй разьвіталіся. Але зададзеная тады плянка яшчэ доўга не адпускала бэзсэсэраўскую вярхушку, і ад Стоўпцаў вечна нечага чакалі і патрабавалі.

Вялікую будучыню гораду прадбачылі ў 1981 годзе. Стоўпцам прызначылі ролю спадарожніка Менску і прадракалі статус індустрыяльнага цэнтру. Заводы і фабрыкі павінны былі адпавядаць самым сучасным патрабаваньням. Да 2000 году насельніцтва гораду мелася наблізіцца да 100 тысячаў.

Паводле афіцыйных зьвестак, сёньня ў Стоўпцах жыве амаль 17 тысяч чалавек, але самі стаўпецкія кажуць пра 14 тысяч. Ажно 3 тысячы з гораду-спадарожніка ўцяклі на плянэту Менск і



іншыя зоркі. З буйных прадпрыемстваў застаўся філіял Менскага маторнага заводу, які, паводле саміх рабочых, ледзь дыхае і пакрысе даходзіць да ручкі. Іншыя дзяржаўныя прадпрыемствы або прадаюць, або зачыняюць. Амаль палова працаздольнага насельніцтва штодзённа езьдзіць працаваць у сталіцу, за 80 кілямэтраў.

Іду і не магу паверыць, што за амаль 30 гадоў, як я ведаю Стоўпцы, гэты горад амаль не зьмяніўся. Чысьціня стэрыльная. Ані сьмецьця, ані сьметніц. Як быццам усё сьмецьце людзі цягнуць з сабою.

— Чаму ў вашым горадзе няма нават лавачак, каб пасядзець і перадыхнуць? — пытаецца ў мяне калега зь Менску.

Ёсьць пара лавачак на плошчы каля помніка Леніну, ёсьць у парку каля стадыёна, ёсьць на

стадыёне. Спрабую прыгадаць, дзе яшчэ, і не магу. Сапраўды, лавачак тут вобмаль. Я ніколі пра гэта раней ня думаў. Калі няма, значыць, ніхто ня просіць. Калі ня просяць, дык яны нікому не патрэбныя. Пасядзець жа можна дома або на працы. Людзі не прывыклі тут сядзець на лавачках. Адпрацавалі — і ў хату.

Мне цяжка ўявіць стаўпецкіх людзей на лавачках. Іх крэпасьць — гэта іхні дом, кватэра або двор. Горад для іх нібыта не існуе. Гэта проста месца, дзе стаяць будынкі, у якіх яны жывуць і працуюць. Нават хаваць нябожчыкаў са Стоўпцаў вязуць у вёскі, адкуль яны родам.

## Апошні шлях настаўніцы

Вуліца, дзе жыла настаўніца Марына Пархімовіч, завецца Цэнтральнай. Насамрэч гэта гарадзкая ўскраіна. Яшчэ пару гадоў таму, пакуль побач не збудавалі спальны мікраараён, яна была канцом гораду. За ёй віднелася толькі калгаснае поле і коміны філіялу Менскага маторнага заводу, які прыцягваў у горад маладыя сілы.

Назва вуліцы — гэта помнік савецкай наіўнасьці. Бальшавікі-футурысты і сапраўды верылі, што крайняя вуліца неўзабаве стане цэнтральнай ва ўсіх сэнсах. Таму яна і рабілася з размахам праспэкту. Нават некалькі дзевяціпавярховікаў пабудавалі. У адным зь іх і жыла Марына Пархімовіч з мужам.

Пад'езд яе дома глядзіць на поўнач, у напрамку роднай вёскі Шашкі за 20 км ад Стоўпцаў, дзе яна скончыла школу з залатым мэдалём. Адтуль паехала вучыцца ў Менск і скончыла там пэдагагічны інстытут. Са сталіцы маладая настаўніца трапіла ў вясковую школу ў Хатаве, паміж Стоўпцамі і Івянцом, але неўзабаве пераехала ў раённы цэнтар. Тут пазнаёмілася са сваім будучым мужам, нарадзіла сына і дачку і засталася ў гэтым горадзе назаўсёды. Цяпер яна вернецца ў Шашкі. Яе пахаваюць у роднай вёсцы.

Шлях на працу ад яе кватэры ў процілеглым канцы Стоўпцаў заняў 15 хвілін. Каля касьцёла-даўгабуду ўправа, на вуліцу Ленінскую, і па ёй практычна да самой школы, мінуўшы Сацыялістычную, прайшоўшы непадалёк ад абноўленага бюста Дзяржынскага, а каля Дому культуры — паўз камень „Горад міру".

Па дарозе яна сустрэла сяброўку з райвыканкаму, але часу на размову амаль ня мела, бо ўжо пазьнілася.

„Будзь асьцярожная, — крыкнула ёй усьлед сяброўка. — Сьлізка".

## Апошні шлях вучня-ахвяры

У іншым канцы калідора, на тым самым трэцім паверсе, у сваю клясу праз некалькі хвілін увайшоў адзінаццацікласьнік Аляксандар Раманаў. Яго, як звычайна, прывёз у школу бацька. Са школы Саша вяртаўся сам. Калі ісьці пешкі, гэта амаль увесь час проста па вуліцы Гагарына.




На аўто зь іхнага дому на самай ускраіне Стоўпцаў да школы — некалькі хвілін, праз цэнтральны пляц зь Леніным. Хоць у Стоўпцах цяжка акрэсьліць, дзе ў гораду цэнтар, дзе яго сэрца.

Вуліцы і плошчы раскіданыя вельмі хаатычна. Калі меркаваць па гарадзкім пляне, сёньня цэнтар недзе на Сацыялістычнай вуліцы, што вядзе праз усе Стоўпцы на вакзал.

Калісьці тут быў звычайны эўрапейскі цэнтар непадалёк ад берагу Нёмна, з кірмашом, касьцёлам, царквой і сынагогай, міжваеннымі камяніцамі на Рынкавым пляцы. Але, езьдзячы ў школу, Саша бачыў зусім іншы краявід.

На былым стаўпецкім кірмашы сёньня стаіць драўляны кінатэатар у стылі савецкага футурызму. Яго будавалі палонныя немцы пасьля вайны. Макіяж на польскіх камяніцах гаворыць пра стан



сучасных Стоўпцаў лепш, чым любая статыстыка. Калі б іх былыя гаспадары ўсталі з магілаў, дык ня ўбачылі б, пэўна, ніякай розьніцы з тых часоў, калі іх выцягвалі з дамоў і гналі ў гета.

Побач з гэтым месцам і стаіць школа № 2. Толькі сёньня гэта ўжо ўскраіна, і нічога тут не нагадвае, што гісторыя Стоўпцаў налічвае прынамсі паўтысячы гадоў.

— Так, як і паўсюль у Беларусі, — кажа мне адзін стаўпецкі жыхар.

Але гэтае апраўданьне Стоўпцам гучыць хутчэй як прысуд беларускай правінцыі.

Час да званка на ўрок Саша Раманаў правёў у клясе. Як звычайна, чытаў за партай. Пасьля званка ён скончыў чытаць. Першай па раскладзе мелася быць матэматыка.

## Шлях вучня-забойцы

У панядзелак, 11 лютага, найбліжэй ад дому да школы, у параўнаньні з Марынай Пархімовіч і Сашам Раманавым, было Вадзіму М. Найдаўжэйшы адрэзак ён прайшоў менавіта па Гагарына, дзе стаіць ягоны дом.

Гэта вуліца прыватных аднапавярховых дамоў, якая вядзе да той самай плошчы, на якой калісьці стаяла сынагога, а побач — вялізны касьцёл сьвятога Казіміра. Касьцёла больш няма, а ў сынагозе — камунгас, дзе працуюць Вадзімавы бацькі. Але ёсьць Ленін з працягнутай рукой. Калі пайсьці ў напрамку ленінскай рукі, то за 300 крокаў можна дайсьці да школы № 2.



Вуліца Міцкевіча, на якой яна стаіць, — як белая варона сярод пераважна савецкай тапаграфіі гораду. Побач вуліцы Танкістаў, Ленінская, Цэткін, Камсамольская, Чапаева, Калгасная.

Дарога заняла ў Вадзіма ня больш за 10 хвілін. У 7.40 дзесяціклясьнік ужо быў на трэцім паверсе. Паставіў заплечнік і выйшаў з кабінэту. Калі празьвінеў званок, Вадзіма ў клясе не было. Праз некалькі хвілін дзьверы адчыняцца, і ён увойдзе. Хлопец моўчкі наблізіцца да настаўніцкага стала, гледзячы на Марыну Пархімовіч.

— Што? — спытаецца настаўніца.

Бяз слова ў адказ школьнік пачынае наносіць ёй удары нажом. Заступіцца за яе спрабуюць два іншыя вучні. Вадзім М. раніць іх, выходзіць з кабінэту і кіруецца па доўгім калідоры ў процілеглы канец школы.

Ён заходзіць у 11-ю клясу, моўчкі крочыць уздоўж сьцяны некалькі мэтраў, мінае настаўніцкі стол і дзьве чарговыя парты, дзе па краях сядзяць дзяўчаты. З краю трэцяй парты сядзіць Саша Раманаў. Нападнік бярэ яго за валасы і наносіць удары ў сонную артэрыю. За гэтыя некалькі сэкундаў Вадзім не прамовіць аніводнага слова і выйдзе з клясы.

У 8.05 пра здарэньне паведамяць у міліцыю. Праз 2 гадзіны і 5 хвілін крымінальны вышук і АМАП затрымаюць Вадзіма за кілямэтар ад школы. Падчас затрыманьня ён не супраціўляўся.

## Афіцыйна

Сьледчы камітэт аднавіў храналёгію падзей 11 лютага. У гэтым дапамаглі відэакамэры назіраньня, паказаньні абвінавачанага, сьведак і пацярпелых.

Выявілася, што абвінавачаны:

• незадоўга да забойстваў ударыў малатком аднаклясьніка, але абышлося нязначнай ранай;

• меў пры сабе ня толькі малаток і нож, але і „піратэхнічныя вырабы“;

• напаў на настаўніцу і вучняў, „дэманструючы сваю ўяўную перавагу і выключнасьць адносна навакольных“;

• у школьным кабінэце нанёс настаўніцы „ня менш за два“ ўдары нажом, выбег з кабінэту, нанёс раненьні двум аднаклясьнікам, якія спрабавалі яго спыніць, зайшоў у іншы кабінэт і нанёс удары нажом вучню 11 клясы;

• выйшаў у калідор, пагражаў нажом намесьніку дырэктара і настаўніку біялёгіі, спусьціўся ў вэстыбюль, пагражаў нажом аднаклясьніцы, падрапаў ёй тым нажом шыю, уцёк;

• паводле псыхоляга-псыхіятрычнай экспэртызы, „мог у поўнай ступені асэнсоўваць значэньне сваіх дзеяньняў і кіраваць імі“.

5 ліпеня Сьледчы камітэт паведаміў пра завяршэньне расьсьледаваньня.

Абвінавачаньне 16-гадоваму Вадзіму М. было выстаўлена паводле трох артыкулаў:

• забойства двух чалавек з асаблівай жорсткасьцю з хуліганскіх матываў (ч. 2 арт. 139 КК РБ);

• замах на забойства двух чалавек з асаблівай жорсткасьцю з хуліганскіх матываў (ч. 1 арт. 14 і ч. 2 арт. 139 КК РБ);

• асабліва злоснае хуліганства (ч. 3 арт.139 КК РБ).

Сьледзтва аб падвойным забойстве ў стаўпецкай школе працягвалася пяць месяцаў. Але ня ўсім у горадзе яго высновы былі цікавыя. Бо шукаць адказы на галоўныя пытаньні там пачалі адразу пасьля забойства.

## Дом, дзе вырас забойца

На працягу некалькіх хвілін раніцай 11 лютага Вадзім М. зьмяніў жыцьцё ня толькі сем'яў ахвяраў, але і спакойнае жыцьцё сваёй сям'і. Жыць у адным горадзе са сваякамі забітых, хадзіць зь імі па тых самых вуліцах, крамах заўсёды будзе няпроста.

Паразмаўляць зь Віталём і Аксанай я спрабаваў у дзень, калі завяршылася сьледзтва. Нашыя дзяды ведалі адзін аднаго, і я лічыў, што гэта дапаможа ў размове.

— Добры дзень, я Гурневіч з Налібак.

— Добры дзень. Мы вас не заказвалі, — кажа Віталь, унікаючы майго позірку.

Гляджу на Вадзімаву маці. Мне падаецца, што яна хоча са мной пагаварыць, бо глядзіць мне ў вочы і робіць пару крокаў у мой бок. Але гэтыя пару крокаў толькі для таго, каб сьцішаным голасам адмовіць у размове.



Маці Вадзіма М.

— У іх спакойная сям'я, і заўсёды ціха. Я ні разу ня чула ні плачу, ні крыкаў, ні сварак. Ні п'янак, ні боек. Я вам скажу адно, дома яго гэтаму не навучылі, — кажа мне іхная суседка.

Мы стаім каля плота і глядзім на двор праз дарогу. Гэты будынак бацькі Вадзіма М. купілі некалькі гадоў таму, зрабілі прыбудоўку, рамантуюць знутры і звонку. Абое працуюць у камунгасе.

— Усё Віталік сам робіць. Калі яны сюды прыехалі, дык ён прыйшоў да мяне знаёміцца, бо ведае майго сына. Кажа, вот, сын ваш заняты, дык давайце я вам памагаць буду, калі што. Я гавару, ды тут няма такой работы. Але ён раз прыйшоў, выкасіў усё. Потым другі раз прыйшоў. А сын мой пакасіў ужо і сам. Але ён кажа: „Гэта ён панадкошваў, я зараз усё папраўлю". Я яму грошы прынесла, хацела заплаціць, а ён кажа — не, вы што, вы

мяне крыўдзіце. Прыяжджае да нас сьмецьцявоз, ён бяжыць праз вуліцу памагаць мне. Вельмі харошы той Віталік. І жонка яго добры чалавек. Яна заўсёды, калі едзе машынай, адчыніць акно і паздароўкаецца, махне галавой.

Самога Вадзіма суседка бачыла рэдка. Маці часта падвозіла яго зь сястрой у школу на машыне. Пра хлопца яна кажа тое самае, што і дзясяткі іншых сьведак — ціхі, спакойны, добра вучыўся.

— А вот дома я нават ня бачыла, каб ён хадзіў і нешта рабіў па двары. Калі бацька нешта робіць, дык ён у хаце сядзеў. Вокны вот Віталік рабіў, дык усё сам. Вадзім яму не памагаў. І Віталік сам кажа: „Ён жа пастаянна дома, ні ў якія кампаніі ня лез“.

Іншыя суседзі расказалі мне, што аднойчы быў такі выпадак. На суседняй вуліцы жыў ягоны знаёмы, які вельмі хацеў дружыць з Вадзімам. Але ён кепска ўплываў на хлопца, і тады бацькі забаранілі Вадзіму зь ім сябраваць. Маці падводзіла Вадзіма ў школу празь некалькі кварталаў, каб мінуць вуліцу таго другога, і далей сын ішоў сам. Але той хлапец пільнаваў Вадзіма і ішоў рэшту дарогі да школы разам зь ім.

— Вадзім яму казаў, што мне нельга з табой дружыць, бо мама і тата не дазваляюць. А той тады сказаў: „Калі ня будзеш сябраваць, дык я буду цябе біць“. Вот так нават было.

На наступны год бацькі ўжо думалі, што трэба будзе наймаць рэпэтытараў, каб паступаць на юрыдычную спэцыяльнасьць. Пра гэта майму калегу Антону Трафімовічу на другі дзень пасьля забойства расказала Вадзімава маці:



— На пракурора не хацеў, хацеў вызваляць людзей, а не саджаць.

Але бацькі мяркуюць, што пры ягонай цікаўнасьці да анатоміі яму варта было б падумаць пра прафэсію хірурга.

— Ён вельмі шмат любіў чытаць. Асабліва энцыкляпэдыі па анатоміі, — кажа маці Аксана.

Бацька ніколі ня чуў, каб у Вадзіма былі праблемы ў школе, і кажа, што сын добра вучыўся, сямёркі ў дзёньніку лічыліся дрэннай адзнакай.

— Бо я ведаю, што ён можа і лепш вучыцца, — сказала маці.

Калі ён быў у 8-й клясе, за пасьпяховую вучобу настаўнікі прапаноўвалі перавесьці Вадзіма ў клясу, дзе навучаюцца больш падрыхтаваныя дзеці. Але Вадзім сам адмовіўся, вырашыў застацца ў ранейшай клясе.

У школе на ягоныя паводзіны ня скардзіліся. Так бацькі і настаўнікі кажуць журналістам. Бацька ня памятае, каб сын каго зьбіваў. Толькі згадвае, як у восьмай клясе Вадзіма зьбілі ў прыбіральні іншыя школьнікі. Але Віталь тады пагаварыў з бацькамі тых дзяцей, і працягу ў гісторыі не было. Бацька кажа, што хлопец ня піў і не курыў. Праўда, у дзень затрыманьня ў ягоным заплечніку знайшлі пачак цыгарэт, што зьдзівіла бацьку.

— Я сам не куру і моцна адчуваю пах тытуню. Ад Вадзіма ніколі ня пахла, — сказаў бацька.

Паводле Віталя М., ягоны сын фізычна моцны, дома ў яго былі гантэлі:

— Не паверыце, але ён мог 100 разоў падцягнуцца.

Пра забітага Сашу Раманава бацька даведаўся толькі з навінаў. Чаму сын напаў менавіта на яго, ня ведае.

— Разумееце, ня можа проста так гэта быць, — кажа Віталь. — Той хлопец сядзеў за апошняй партай, і Вадзім жа пайшоў менавіта да яго.

Пазьней на допыце сам Вадзім скажа, што забіў Сашу Раманава выпадкова.

Таксама Віталь ня чуў, каб у сына былі праблемы з Марынай Пархімовіч. Тым ня менш, на допыце Вадзім сказаў, што настаўніцу ён забіў сьвядома.

Пра знойдзеную ў хлопца піратэхніку бацька ведае. Гэта каляровыя дымавыя шашкі, якія ляжалі ў іх дома. Ён сам іх купляў на Новы год. А вось нажа, якім Вадзім забіў двух чалавек, дома

не было. Гэта сьцізорык, якога Віталь раней ня бачыў. Пазьней высьветліцца, што сын набыў яго за некалькі дзён да забойства.

Бацькі кажуць, што адразу не паверылі, што іхны сын некага забіў.

— Я размаўляла з клясным кіраўніком і дырэктарам, і яны таксама не разумеюць, як Вадзім мог такое зрабіць. Ніхто ў гэта ня можа паверыць, — сказала маці.

У папярэднія дні бацькі нічога незвычайнага за сынам не заўважалі. Апошнія выходныя перад трагедыяй, як кажа бацька, ён таксама правёў дома. Часам у нядзелю езьдзіў у лазьню, але гэтым разам адмовіўся.

Але з хаты ў той дзень Вадзім усё ж выходзіў.

## Школьнік з аватаркай Шапэнгаўэра

У Стоўпцах у Сашы Раманава не было блізкіх сяброў, і ён плянаваў зьехаць вучыцца за мяжу. Гэтыя словы самога Сашы мне пераказаў яго знаёмы, былы стаўпецкі жыхар, выпускнік той самай школы № 2 Юра Паўлаў.

Юра і сам зьехаў са Стоўпцаў. Ён жыве і вучыцца ў ЗША. Пра Юру я дазнаўся выпадкова, пабачыўшы ягоны кранальны допіс пра Сашу ў стаўпецкай суполцы ў сацсетках. Я напісаў Юру, і ён адразу ж пагадзіўся ўзгадаць іх апошнюю размову за два месяцы да забойства. Саша прасіў у Юры парадаў наконт вучобы за мяжой. Праз паўгода ён хацеў паступаць у замежную ВНУ.



Пакой Сашы Раманава

— Я вось падняў перапіску — мне ажно на сэрцы стала цяжка. Божа, яго ўжо няма... Адразу хачу сказаць, што падчас гутаркі Саша мне вельмі спадабаўся як чалавек. Проста сваёй энэргіяй. Мы б маглі быць сябрамі. Я летам зьбіраўся прыехаць у Беларусь — і ў мяне была ідэя ўбачыцца зь ім ужывую. Ён быў вельмі круты для сваіх 17 гадоў — пад гэтым я разумею сілу духу, волю, жыцьцёвую пазыцыю, упэўненасьць у сваіх інтарэсах. Наша гутарка ў скайпе прайшла вельмі лёгка, спакойна, цікава, на адным дыханьні.

Першы раз Сашу ён убачыў, калі той быў у 7-й клясе. Юра прыйшоў на ўрок ангельскай і распавядаў дзецям пра свае падарожжы.

— Я памятаю, што ў той 7-й клясе толькі Саша і вылучаўся сярод дзяцей. Я расказваў ім

пра Стоўнгэндж. І толькі адзін Саша, які сядзеў пасярэдзіне гэтай навалы дзяцей, дапаўняў мае камэнтары, распавядаў, што ён чытаў і што чуў.

Гутарку ў скайпе ініцыяваў сам Саша.

— Мы пачалі ў 08:03 раніцы і скончылі ў 12:02 папаўдні паводле майго мясцовага часу ў Сыракузах, штат Нью-Ёрк (гэта з 16 да 20 паводле беларускага часу). Скайп таксама захаваў у чаце ўласныя імёны, якія я яму адпраўляў падчас размовы: Myers Briggs, essyb, pomodoro, зона бліжэйшага разьвіцьця (Леў Выгоцкі), Яўгенія Гінзбург „Круты маршрут“, Стывэн Кові, Іцхак Адызэс, Тоні Робінс. Я яму нешта раіў, што мне падабаецца. Ён мне за ўсю гутарку напісаў адно слова: hardenduro. Гэта гонка на матацыклах, яму вельмі падабаліся матацыклы.

Юры кажа, што ня памятае пасьлядоўнасьці гутаркі, але памятае зьмест.

— Першае, што ён сказаў, — гэта пра сваю любоў да філязофіі. Ён амаль цалкам прачытаў Плятона. Я спытаў, які дыялёг яму бліжэйшы за ўсё, ён адказаў: „Пармэнід“, хоць яму вельмі таксама падабалася „Дзяржава“. Ён тады спытаў, а які падабаецца мне. І я шчыра адказаў, што чытаў усяго два дыялёгі, але мне падабаецца „Бяседа“. Я яшчэ тады пажартаваў, што ў яго на аватарцы ў скайпе фатаздымак Шапэнгаўэра, маўляў, Саша, неяк дэпрэсіўна ставіць такога філёзафа ў профіль. Ён адчуў маю іронію, але сказаў, што яму вельмі падабаецца і Шапэнгаўэр. Ён таксама казаў пра сваю любоў да беларускай мовы. Што

раней ён размаўляў толькі па-беларуску з усімі спрэс. Але апошнім часам гаворыць і па-расейску.

Потым мы перайшлі на размову пра школу. Я пытаўся, што ён думае пра настаўнікаў. Мы сышліся ў поглядах практычна на 100%. У прыватнасьці, успомнілі зь ім і Марыну Міхайлаўну. Я яе вельмі любіў, Саша таксама.

Я стаў пытацца ў яго, кім ён хоча быць. І ён адказаў, што яму вельмі падабаецца філязофія, але быць філёзафам — не прафэсія. Таму яму цікавыя альбо журналістыка, альбо паліталёгія. Ён зьбіраўся паступаць у Польшчу.

## Бібліятэка Сашы Раманава

Апошняй кнігай, якую чытаў Саша Раманаў, быў раман Олдаса Гаксьлі „Выспа“. Перад фатальным урокам ён пакінуў закладку на 100-й старонцы і паклаў кнігу на парту. Пасьля забойства яе забраў сьледчы і праз некаторы час аддаў бацькам. Разам з кроплямі крыві, якія трапілі на старонкі, калі Саша паміраў. Цяпер кніга зноў на паліцы ў ягоным пакоі.

Гаксьлі апісаў у ёй выспу-ўтопію, ідэальныя грамадзтва і дзяржаву. Саша не пасьпеў дачытаць, але погляд на ідэальную дзяржаву быў у яго падобны. Ён верыў, што дзяржава можа быць значна лепшай, чым тая, у якой жыў ён. Таму і зьбіраўся стаць палітолягам. У яго была вялікая бібліятэка, дзе амаль кожная кніга — гэта пошук формулы чалавечага шчасьця і свабоды.



Калі я ўвайшоў у Сашаў пакой на другім паверсе бацькоўскага дому і пачаў разглядаць паліцы зь ягонымі кнігамі, то ня мог паверыць, што гэта былі зацікаўленьні 17-гадовага хлопца, школьніка.

Побач з Гаксьлі — „Доктар Жывага“ Барыса Пастарнака, „Чалавек, які сьмяецца“ Віктора Гюго, „Уцёкі ад свабоды“ Эрыха Фрома, „Дзяржава“ Плятона, а далей Арыстотэль, Фройд, Фіцджэральд, Ніцшэ, Эйн Рэнд і „Гісторыя заходняй філязофіі“ Бэртрана Расэла.

Гэта не былі кнігі для прыгажосьці. Стоячы каля Сашавага працоўнага стала, я гартаў большасьць зь іх, і ўсе яны мелі сьляды чытаньня. Побач Чарльз Букоўскі, Джон Стэйнбэк, Уладыслаў Рэймант, Сяргей Пясэцкі, Джэк Керуак, Міхаіл Булгакаў, Джордж Оруэл.

Саша быў вельмі аскетычным юнаком. Купіць нейкую вопратку сястра ці бацькі яго ледзь не

прымушалі. Ён адказваў, што ўсё мае. Калі падчас аднаго з падарожжаў у Польшчу бацькі хадзілі па крамах, Саша ўвесь гэты час правёў у кнігарні — разглядаў кнігі.

За тыдзень ён мог прачытаць некалькі кніжак. Калі дзецям у школе давалі на лета сьпіс літаратуры, Саша казаў, што яму гэта не цікава. Бацькі не пярэчылі.

На самай высокай паліцы — беларуская літаратура. Тут некалькі тамоў Якуба Коласа, Васіль Быкаў, Міхась Стральцоў, Вячаслаў Адамчык, Іван Мележ, Кастусь Тарасаў, Іван Пташнікаў. Таксама кнігі Андрэя Федарэнкі, Віктара Марціновіча, Уладзімера Садоўскага, Юрыя Гуменюка і Раісы Баравіковай.

Далей кнігі па гісторыі Беларусі: „Айчына. Ад Рагнеды да Касьцюшкі“ Ўладзімера Арлова, „Беларусь мяцежная“ Ніны Стужынскай — пра Слуцкі збройны чын, „Беларусь у войнах“ Віталя Чырвінскага, „Палешукі-беларусы“ Сержпутоўскага, „Пад скіпэтрам Расейскай імпэрыі“ — пра рэпрэсіўную палітыку царызму на землях Беларусі. Кніга пра Кастуся Каліноўскага, пра антысавецкія паўстаньні ў Беларусі, а таксама „1992“ Сяргея Навумчыка.

Далей стаіць „Гэбан“ Рышарда Капусьцінскага ў польскім арыгінале. Гэта адна з найлепшых кніг мэтра польскага рэпартажу. У ёй Капусьцінскі, які нарадзіўся ў Пінску, распавядае пра свае падарожжы па Афрыцы ў другой палове XX стагодзьдзя, калі гэты кантынэнт палаў у агні рэ-

валюцый і грамадзянскіх войнаў. Гэта ў „Гэбане“ Капусьцінскі напісаў:

„Часам я чытаю, што ў Амэрыцы або Эўропе дзіця застрэліла іншае дзіця. Што дзіця забіла некага з раўналеткаў або дарослых. Людзі звычайна рэагуюць на такія паведамленьні з жахам. Але ў Афрыцы дзеці забіваюць дзяцей масава, і ўжо шмат гадоў, вельмі даўно. Збройныя сутыкненьні дзяцей асабліва зацятыя і крывавыя, бо дзіця не валодае інстынктам самазахаваньня, яно не адчувае жаху сьмерці, ня мае страху, які прынясе яму толькі сталасьць“.

Гэтая кніга адзіная стаіць на паліцы зусім сьвежая. Бачна, што Саша не пасьпеў яе нават добра пагартаць. Ён купіў яе на кніжным кірмашы ў Менску і прывёз дадому за дзень да забойства.

Гэта толькі малая частка Сашавых кніг. Ён шмат чытаў на электроннай чыталцы. На ёй Саша „праглынуў“ усе творы нарвэскага пісьменьніка Эрленда Лу, аднаго з самых улюбёных аўтараў, майстра самаіроніі, іроніі, гумару, наіўнасьці і зьедлівасьці.

Доўгі час Саша паляваў на „Кнігу мёртвых філёзафаў“ Саймана Крычлі. У ёй ангельскі філёзаф з Новай школы сацыяльных дасьледаваньняў у Нью-Ёрку піша пра тое, што думалі пра сьмерць і як паміралі 200 самых выбітных мысьляроў у гісторыі.

У антычнасьці лічылася цалкам натуральным, што менавіта філязофія дае нам мудрасьць, неабходную для супрацьстаяньня сьмерці. На першых старонках Крычлі паўтарае за Цыцэронам,

што асноўная задача філязофіі заключаецца ў тым, каб падрыхтаваць нас да сьмерці.

„Мы баімся непазьбежнасьці сваёй сьмерці, зьвязанага зь ёй болю і бессэнсоўных пакутаў. Мы баімся таго, што ў выніку застанецца ў труне ад цела, спакаванага ў скрыню і апушчанага ў зямлю з тым, каб яно стала кормам для чарвякоў.

Займацца філязофіяй азначае вучыцца сьмерці — у словах, якія вы кажаце, ежы, якую ясьце, і напоях, якія вы будзеце піць. Менавіта такім чынам мы пачынаем супрацьстаяць жаху анігіляцыі (зьнішчэньня), паколькі ўрэшце менавіта страх сьмерці ператварае нас у рабоў. Як піша Мантэнь, «хто навучыўся паміраць, той развучыўся быць рабом»“.

Адну з кніг, якія Саша купіў на кірмашы ў Менску за некалькі дзён да сьмерці, сям’я паклала яму ў труну.

## „Жывуць заможна, але вельмі прыстойна“

Гэтую характарыстыку сям’і Раманавых журналіст Свабоды Алег Грузьдзіловіч пачуў на вуліцы, дзе вырас Саша, ад суседкі. Слова „але“ паміж заможнасьцю і прыстойнасьцю — гэта найперш не пра іх, а пра сябе.

У той дзень я пачуў і іншыя думкі. Яны былі ад людзей, якія не знаёмыя з сям’ёй Раманавых, але былі гатовыя доўга пра іх гаварыць.

— А вы бачылі, на якой машыне езьдзіць ягоны бацька? Адкуль у людзей такія грошы? Ці можна ў нас чэснай працай зарабіць на такую машыну, вот вы мне скажыце? — задае мне рытарычнае пытаньне сярэдняга ўзросту мужчына з суседняй вуліцы.

— Калі ў людзей шмат гадоў сямейны бізнэс, то чаму б не? — спрабую запярэчыць, але ў адказ атрымліваю словы, зь якіх працытаваць адважуся толькі частку:

— Ну я вот таксама дваццаць гадоў працую і чамусьці ня маю грошай на такую машыну, — дабівае мяне суразмоўца.

— Магчыма, вы на вашай працы робіце нешта зусім іншае, чым яны на сваёй. І ў гэтым уся прычына.

— Канешна, — з таямнічай усьмешкай адказвае мужчына, нібыта ён валодае сакрэтнымі ведамі, а таму спрачацца зь ім ня мае сэнсу.

Я і сапраўды не працягваю спрэчкі. Мне гэтыя веды нецікавыя. Я вырас у вёсцы нашмат меншай за Стоўпцы. Што такое зайздрасьць і розныя яе праявы, я ведаю нашмат лепш за кожнага жыхара Стоўпцаў. І пра таямнічыя веды гэтага мужчыны, іх прыроду я не здагадваюся, я іх ведаю. Вінаваты нехта іншы. Пераважна той, у каго лепшы дом, прыгожая машына.

— Я чытала інтэрвію бацькі Сашы Раманава. Ведаеце, мяне закранула, як ён услаўляе там свайго сына, нібыта ў Стоўпцах адны дурні, а яны самыя разумныя. А што, іншыя дзеці дурныя? Я не зьдзіўлюся, што там быў паміж імі канфлікт.

Але думаеце, што сьледчыя і суд скажуць нам праўду? Зробяць так, як ім трэба, — запэўнівае мяне стаўпецкая жанчына сярэдніх гадоў.

Зайздрасьць забівае спачуваньне, яна нішчыць чалавечнасьць. Мае суразмоўцы былі за крок ад таго, каб апраўдаць забойства.

— А бацькі таго Вадзіма — гэта ж галота. Колькі яны зарабляюць у камунгасе? Капейкі. А гэты Саша матацыкл меў свой, і з бацькамі езьдзіў адпачываць, дома ўсё меў, што хацеў. Гэта ўсё разборкі царкоў, бедных з багатымі, — перакананая іншая стаўпецкая жанчына.

Жанчыне, якая расказала мне сваю вэрсію здарэньня, факты і Сьледчы камітэт ужо нічога не дакажуць. І яе словы я неаднаразова чуў у Стоўпцах. Адзін у адзін — пра „царкоў“ і „беднату“. Пра „мажораў“ і „калхозьнікаў“, якія счапіліся і пазабіваліся. Гэта казалі людзі, якія ня ведалі сям’ю Раманавых, ніколі не былі ў іхным доме і не размаўлялі зь імі. Ніхто не прыводзіў ніводнага факту. Ніхто ня мог назваць хаця б адну дэталь ці акалічнасьць. Не было ніводнага сьведчаньня ад чалавека, які б мог назваць прозьвішча ці імя, дзень, расказаць пра сытуацыю, сутнасьць канфлікту.

Самыя таямнічыя пачыналі гаварыць, але, даходзячы да найцікавейшага, абрывалі гісторыю і тлумачылі, што я заўтра сяду і паеду, а ім яшчэ жыць у гэтым горадзе. Яны прасілі мяне прысягнуць, што я не назаву іх імёнаў, пры тым, што вартасьць іхных словаў, а пагатоў напаўненьне іх

фактамі, былі мізэрнымі. Адна плётка ў той самай размове пярэчыла другой.

Але сям’я Раманавых ведае пра гэта і без імёнаў. Пра „канфлікт багатых і бедных“ як прычыну забойства свайго сына яны прачыталі шмат камэнтароў у сеціве.

## Бацька пра сына: „Я ня мог ім надыхацца“

Калі Сяргей Раманаў прапанаваў мне сесьці ў фатэль сына, я спачатку завагаўся. З той раніцы панядзелка 11 лютага ў Сашавым пакоі нічога не зьмянілася. Вялікі ложак, шафа-купэ з выявай Мангэтану, гітара ў чахле, паліца з кружэлкамі. На працоўным стале манітор з друкаркай, стырно для кампутарнай гульні і каляндар са здымкамі матацыклаў, якія любіў Саша. А таксама поўныя паліцы ягоных кніг, якія я толькі што гартаў. У пакоі дадаўся бадай толькі вялікі Сашаў здымак у вышыванцы.

— Вы не ўяўляеце, як крыўдна. Ён быў адзіным, што ў мяне ў жыцьці атрымалася. Хто б зь яго вырас. Нармальны чалавек бы вырас. Ён цягнуўся да высокага. Любіў кнігі, шмат што зь іх даведаўся ў гэтым жыцьці, — голас бацькі пачынае дрыжаць, а вочы робяцца мокрымі. — Прайшло амаль паўгода, а мы з жонкай кожны дзень плачам.

Сяргей сядае на сынаў ложак, а я ўсё ж уладкоўваюся ў Сашаў фатэль і намагаюся не рабіць лішніх рухаў, каб ня зрушыць яго зь месца, каб



Бацька і сын Раманавы ў Нарвэгіі

тут усё было так, як раней. Хаця так, як раней, у гэтым доме ўжо ніколі ня будзе. Мяне цікавіць, як хлопец зь невялікага гораду, дзе няма нават кнігарні, змог да 17 гадоў перачытаць усяго Плятона і дыскутаваць пра ягоны дыялёг „Пармэнід“, прысьвечаны антычнай дыялектыцы.

— Я неяк думаў, што ён прападае ў кампутары, у гульнях, як моладзь звычайна. Але не. Ён столькі кніг перачытаў. Пастаянна заказваў іх праз інтэрнэт, у Польшчы купляў. Я яму нешта дарыў. Ён быў вельмі ашчадны хлопец, ніколі не прасіў грошай, каб нешта купіць. Але кнігі купляць любіў.

Сяргей часта размаўляў з сынам, у тым ліку і пра палітыку. Так калісьці зь ім размаўляў і яго-



Здымкі Сашы Раманава ў бацькоўскім доме

ны бацька ў Самары, адкуль Раманавы прыехалі ў Стоўпцы, і настройваў сына супраць савецкай улады.

— І ў мяне з Сашам таксама былі палітычныя размовы, як усё ў нас няправільна. Відаць, пад уплывам гэтых размоваў ён пачаў цікавіцца палітыкай, філязофіяй. Я не скажу, што я такі аматар кніг. Не. Ён у нас заўсёды займаўся самаадукацыяй, і я думаю, што большасьць ягоных зацікаўленьняў бралася менавіта з самаадукацыі. Я зараз вам нешта пакажу.

Сашаў тата зьнікае за дзьвярыма і вяртаецца праз хвіліну з мабільным тэлефонам сына. Цяпер гэта тэлефон Сяргея. Ён чытае ў ім сынавы стужкі ў сацыяльных сетках, слухае ягоную музыку, падкасты, лекцыі па філязофіі і чытае нататкі. Іх

Саша рабіў у часе доўгіх шпацыраў па Стоўпцах. Ён любіў выйсьці на гадзіну і пагуляць па горадзе. У тэлефоне ён часта занатоўваў прачытаныя ў кнігах цытаты або ўласныя думкі.

Некалькі запісаў зробленыя ў нядзелю, 10 лютага. Рабіць іх Саша пачаў а 12:14. Апошні акурат быў наконт адукацыі:

„Мы атрымліваем адукацыю дзеля сябе, каб разьвіць у сабе тое, да чаго ляжыць душа, тое, што падабаецца, з захапляльнай цікавасьцю. А ўжо пасьля гэтага, калі дапоўніць у сваёй асобе тыя элемэнты, якіх, па-твойму, не хапала, ты камусьці спатрэбісься (праца), бо будзеш асаблівым, выключным у сваёй сфэры“.

— Ведаеце, апошні год я ўжо ня мог зь ім паспрачацца. Ён мог прывесьці мноства прыкладаў з гісторыі. Нават уся гэтая наша палітычная сытуацыя. Ён кажа мне: „Тата, такіх прыкладаў тысячы. Гэта было заўсёды“. І ён мне пачынае расказваць: „Насамрэч нічога ты ня зробіш. Бо чалавек — гэта такая істота: калі ён дарваўся да ўлады, ён будзе ўсяляк за яе чапляцца“.

У сям’і Раманавых размаўляюць па-расейску, але тры гады таму, калі Сашу было 14, ён абвясьціў дома, што пачынае размаўляць па-беларуску.

— Я ўзгадаў 90-я, калі шмат людзей пачыналі размаўляць па-беларуску. Мне гэта было вельмі цікава. Я ня быў супраць, але паколькі я сам расеец, мне, вядома, было бліжэй, калі людзі размаўляюць на маёй мове. Але я вырашыў так: малады хлапец, няхай ён сам вырашае. Я нічога не казаў супраць. І ён пачаў так размаўляць: вітаю,

тата. Або дабранач, тата. Я таксама намагаўся адказаць яму па-беларуску. Я разумеў, што маладога хлопца нельга ламаць. Трэба, каб ён сам да чагосьці прыйшоў сваёй сьвядомасьцю.

Адзінай грамадзкай арганізацыяй, у якой удзельнічаў Саша, было Таварыства беларускай мовы.

— Яны мне тэлефанавалі, пыталіся пра мой дазвол, каб ён уступіў. Я спытаўся ў яго, што гэта за арганізацыя, распавядзі мне. Я ня стаў адразу займаць пазыцыю супраць. Папрасіў, каб ён мне патлумачыў, чым яны займаюцца. Ці радыкалы, ці не. Усялякага хапае. Бо ўлезе недзе, а потым яму галаву праломяць на дэманстрацыі амонаўцы.

Калі Сяргей даведаўся, што ТБМ займаецца пашырэньнем беларускай мовы, культуры і ведаў пра гісторыю, ён даў згоду. Саша вёў сацыяльныя сеткі стаўпецкай суполкі.

— Ён ня быў радыкальным нацыяналістам. Спачатку ў яго былі падобныя думкі, і мы нават зь ім спрачаліся. Ён казаў мне пра „крывавыя патопы“, якія ладзіла ў Беларусі Расея. Я кажу: „Саша, было калісьці, зразумела. Але я сам расеец, я нарадзіўся ў Самары. Ты — беларус, а я расеец. І як мы з табою будзем спрачацца?“ Але потым ён гэта перарос, начытаўся кніг.

Моцны ўплыў на сына, кажа Сяргей, зрабіла кніга „Sapiens“ Юваля Гарары. Пасьля яе Саша прыйшоў да высновы, што дзяржавы наўмысна дзеляць людзей, каб імі кіраваць. Ён стаў ізноў гаварыць па-расейску.

— Я кажу: „Саня, а чаго гэта ты ізноў па-расейску гаворыш?“ А ён кажа: „Я лічу, што людзі павінны глядзець шырэй. Вы размаўляеце па-расейску, вам так зручней“. Як я зразумеў, ён расстроіўся, што нікога ён ня змог захапіць беларускай ані ў клясе, ані сярод сваіх сяброў. Хаця ўсе ягоныя сацыяльныя сеткі былі па-беларуску. У яго ёсьць сябра з Самары, але родам з Палесься, і яны паміж сабою размаўлялі па-беларуску. Яны размаўлялі праз скайп, захаваліся нават ягоныя аўдыёпаведамленьні па-беларуску.

Сяргей ізноў бярэ сынаў тэлефон і ўключае аўдыёзапісы Сашы. Гэта паведамленьні сябру ў Самары пра выпадак у школе. На працягу наступных дзьвюх хвілінаў Саша па-беларуску апавядае, як настаўніца забыла падчас уроку, доктарам чаго быў Францішак Скарына, на што ён жартаўліва сказаў уголас, што тэрапэўтам, і нехта цалкам сур'ёзна паўтарыў ягоныя словы.

— Яны заўсёды паміж сабой размаўлялі па-беларуску. Нават калі гулялі ў нейкія гульні. Нават калі з намі ён перайшоў на расейскую мову, працягваў зь сябрамі гаварыць па-беларуску. Саша выкарыстоўваў тарашкевіцу, мне шмат пра гэта тлумачыў. Я ніколі ня быў супраць.

Аднойчы ў школе настаўніца сказала дзецям, што Марыя Рэмарк — гэта жанчына. Саша запярэчыў, бо ведаў Рэмарка, гэта быў адзін зь яго самых улюбёных аўтараў. — Ну што ты будзеш са мною спрачацца, — адказала настаўніца.

Агрэсію Саша, са словаў бацькі, не ўспрымаў і часта казаў, што падчас спрэчак ня варта злавац-

ца, бо спрачацца — гэта нармальна. Калі бацька, едучы за стырном, рабіў рэзкі рух, Саша казаў: — Ты куды так сьпяшаесься?

Сяргей узгадаў колішнюю размову з сынам пра рэлігію. Сам ён ня лічыць сябе вернікам, адрозна ад жонкі, але сын падчас дыскусіі сказаў, што спачатку ён мусіць прачытаць Біблію, каб мець думку. Спачатку вывучыць тэму, а потым рабіць нейкія высновы. Гэта ён казаў яшчэ ў 15 гадоў.

У школе Сашу найбольш падабаліся гуманітарныя прадметы — літаратура і гісторыя. Лёгка давалася ангельская мова.

— Кепска было з матэматыкай. Мы яго двойчы ў тыдзень вазілі да рэпэтытара, каб проста была адзнака. Расейскую мову ён спрабаваў не вучыць. Я яшчэ казаў яму: „Саша, гэта ж твая ацэнка ў атэстат, табе ж трэба паступаць“. І ён потым яе падцягнуў. Хаця часта казаў, што праседжвае ў школе штаны. А гуманітарныя прадметы — выдатна. У яго нават сябра са школы адзін пытаўся: чаму ты так добра ведаеш гісторыю Беларусі? А Саша адказаў: „Магчыма, таму, што трэба любіць сваю краіну“. Пры гэтым ён казаў пра краіну, а не дзяржаву. Мы вельмі шмат хадзілі зь ім ў паходы, летам на байдарках, на матацыклах каталіся.

Правы Саша атрымаў у 16 гадоў. Бацька ўзгадаў, як падчас здачы экзамэнаў жанчына ў камісіі абазвала Сашу „дрышчом, які ня зможа ўтрымаць матацыкл“.

— Ён пакрыўдзіўся і кажа: „Тата, чаму яна так гаворцыь, яна ж мяне зусім ня ведае“. А я тады сказаў яму, што ў сьвеце больш добрых людзей,



Архіў сям'і Раманавых

але ў жыцьці табе, сынок, давядзецца сербануць усякага. Я нешта вам пакажу.

Сяргей знаходзіць у тэлефоне фатаздымкі, якія ён рабіў сыну ў Крэве, калі яны ехалі ў Літву.

— Саша мог камусьці здавацца панурым, бо ён ня часта ўсьміхаўся. Вось бачыце гэтыя два здымкі, мы ідзем да руінаў замку. Ён не ўсьміха-

ецца і вельмі сур’ёзны. А вось тут, на трэцім, ён дастае бел-чырвона-белы сьцяг, і паглядзіце, як ён на гэтым здымку ўсьміхаецца, які ён шчасьлівы.

Сяргей ізноў шукае нешта ў тэлефоне. Ён хоча паказаць музыку, якую слухаў Саша. Гэта пераважна электроніка або клясыка. У тэчцы „Выбранае“ 15 кампазыцыяў. Першая — гурту [ E I S U ] „Мы нараджаемся самотнымі і паміраем самотнымі“.

— Ён ня вельмі любіў размаўляць зь людзьмі. Можа, быў мізантропам. Любіў радзіму, Беларусь. Вельмі любіў сваю сям’ю, маму, тату. Але чужых людзей ня вельмі ўспрымаў. У школе ён ня быў замкнёны. Але мне заўсёды здавалася, што яго людзі трошкі не разумеюць. У школе ў яго не было сяброў, каб пагаварыць з кімсьці пра свае інтарэсы. Хоць кляса яго была вельмі моцная, усе дзеці вельмі разумныя. Усе. У 9-й клясе дырэктрыса хацела выпхнуць яго ў клясу „Б“. Бо ў яго фізкультура і матэматыка былі ня вельмі. Але я кажу — падцягнецца, то яна пакінула ў „А“. Але трэба было хіба ўсё ж ісьці ў „Б“. Можа хоць жывы быў бы.

Сяргей Раманаў ізноў пачынае плакаць.

— У нас было мала часу. Ня ведаю, ці было гэта прадчуваньне, ці што. Але я ня мог ім надыхацца. Ганарыўся ім і заўсёды стараўся ставіцца да яго з павагай. Нельга сказаць, што мы шмат часу праводзілі разам, але мы стараліся.

## Апошнія гадзіны

У нядзелю ранкам Саша Раманаў вярнуўся зь Менску, шпацыраваў па горадзе, рабіў, як заўсёды, нататкі ў тэлефон і вярнуўся дахаты. Апошняя размова з бацькамі была пра паступленьне на вучобу ў Польшчу.

Некалькі гадоў ён думаў пра журналістыку. Пісаў нават пад замову тэксты. Але апошні год захапіўся філёзафамі і загарэўся ідэяй атрымаць прафэсію, блізкую да філязофіі і гісторыі. Абраў паліталёгію.

— У нас у Беларусі гэта вострая тэма, і, магчыма, таму ён глыбока ў гэта зайшоў. Яму вельмі падабалася гэта вывучаць. Гэта заняткі не грашовыя, але ж шчасьце не ў грашах, а ў тым, як ты сябе знойдзеш у жыцьці, — кажа бацька.

Саша марыў паступіць у Варшаўскі ўнівэрсытэт. Як запасныя варыянты разглядаў унівэрсытэты ў Любліне і Познані, дзе таксама ёсьць паліталёгія.

— Мы абмяркоўвалі, калі будзем падаваць дакумэнты. Ён сам пазнаходзіў, што трэба і як. Я казаў яму: Саша, зразумей, я табе нічым не дапамагу ў пляне выбару. Я яму не загадваў. Мы хацелі, каб усё было бліжэй да яго зацікаўленьняў.

У армію Саша не хацеў ісьці катэгарычна, бо лічыў, што гэта страчаны час. Бацька спадзяваўся, што ён пасталее, знойдзе сябе ў Эўропе і ня вернецца на радзіму.

Ранкам у панядзелак Саша зьеў сьняданак, і Сяргей завёз сына ў школу.

— Я ўпэўнены, што яны з забойцам не былі знаёмыя. Ён яго забіў проста так. Яму было ўсё роўна, каго забіваць. Ён зайшоў і пайшоў уздоўж сьцяны. Толькі званок празьвінеў, яшчэ дзяўчаты жартавалі: „Ты што, заблукаў?“ І першая парта, і другая — сядзелі з боку дзяўчаты. А за апошняй сядзеў Саша, за трэцяй. І ён падышоў да яго ззаду і проста пад вуха левае ўдарыў нажом. Я бачыў відэа, як ён па калідоры з нажом ганяў хлопцаў. У яго такія хвосткія ўдары, я нават ня ведаю, дзе ён так навучыўся. Пазьней я бачыў яго на допыце. Ён ня мог зьвязаць двух словаў: ня памятаю, ня ведаю. Зыркае, вочы бегаюць, як ваўчаня нейкае.

Сяргей Раманаў распавёў пра некаторыя высновы сьледзтва. Яно выявіла, што 15-гадовы Вадзім М. выпіваў. Некалькі разоў ён нават спаў п’яны за апошняй партай.

— І школа „нічога ня ведае“, ён такі пушысты, шаўковы. Ужо паднялі і той пункт, дзе ён купляў самагонку ў Акінчыцах. І зь імі там таксама разьбіраліся. І не вучыўся ён добра. Гэта ўжо настаўнікі так прыкрываліся. Крывадушнікі. Там уся кляса такая была ў яго, праблемная.

У Стоўпцах яшчэ ў дзень забойства зьявіліся плёткі, што матыў забойства зьвязаны з алімпіядай, на якую забітая настаўніца выбрала не Вадзіма, а Сашу. Але яны не маглі быць канкурэнтамі, бо вучыліся ў розных клясах, а Вадзім да гэтага ніколі не бываў на алімпіядах, насуперак чуткам.

— Саша не хацеў ніякіх алімпіядаў, ён не любіў гэтую школу. У яго былі іншыя прыярытэты.



У пакоі Сашы Раманава

Неяк ён не захацеў ехаць на алімпіяду па ангельскай мове, дык яму сказалі, што ён падводзіць школу, — кажа бацька.

Яшчэ ў афіцыйным паведамленьні Сьледчага камітэту ў дзень заканчэньня сьледзтва, 5 ліпеня, гаварылася пра прафіляктычныя недахопы ў працы пэдагогаў. 28 жніўня дырэктарка школы Аксана Лось напісала заяву аб звальненьні. Яе калегі перакананыя, што пайсьці на гэты крок яе прымусіла раённае начальства.

— Там адбыўся нейкі каталізатар, размова Вадзіма з дырэктарам у тую раніцу, перад забойствам. Дырэктрыса яго адчытала, чаму ён прапусьціў вайсковую падрыхтоўку. Школа не тлумачыць, а цісьне аўтарытэтам. Я калісьці сам меў размову з дырэктаркай. Яна ў мяне пыталася: „Вы не баіцеся, што ваш сын загрыміць з такімі поглядамі?“ Я кажу: „Моладзь у нас цудоўная, я знаю Сашу і дзяцей з клясы, зь імі трэба раз-

маўляць, камунікаваць“. У нас у школах з вучнямі не размаўляюць, а тыкаюць носам. У нечым вінаватая школа, але больш за ўсё сям’я, — кажа Сяргей Раманаў, які ў свой час таксама вучыўся ў школе № 2.

У Стоўпцах шмат хто тлумачыць забойства клясавай нянавісьцю, маўляў, мусіў быць нейкі канфлікт паміж беднымі і багатымі. Але Раманавы вядуць самае звычайнае жыцьцё, якое нічым выключным не адрозьніваецца ад жыцьця мільёнаў беларусаў. Ці павінна ім быць сорамна перад кімсьці, што яны ў стане купіць сыну матацыкл? Зрэшты, у адным з інтэрвію бацька Вадзіма М. сказаў, што абяцаў купіць сыну аўтамабіль, калі той захоча здаць на правы. Але пра клясавы канфлікт усё роўна кажуць у размовах, пішуць у сацыяльных сетках. У сям’і Раманавых пра гэтыя меркаваньні таксама ведаюць.

— Беларусь — дэпрэсіўная краіна. Гэта не праблема Стоўпцаў. У Менску інакш, а на пэрыфэрыі так паўсюль. Я аб’езьдзіў усю Эўропу. Беларусы — вельмі дэпрэсіўная нацыя. Мы ніколі тут не задзіралі нос. Заўсёды вітаемся зь людзьмі. А ад мяне часам нават аднаклясьнік у краме адварочваецца, нібыта не заўважыў. Я павітаўся, а мне нібыта ў твар плюнулі. Я разумею, што гэта прасьцей, чым сказаць: добры дзень, як справы? Магчыма, гэта мэнталітэт, можа ад беднасьці, ад якой потым бярэцца зайздрасьць. Ня любяць беларусы, калі нехта высоўваецца. Калі нехта жыве багацей, гэта горш для яго. І гэта тут наўрад ці бліжэйшым часам зьменіцца.

## Чаму шкадуюць забойцу

Вадзім М. павінен быў бараніць людзей. Ён зьбіраўся паступаць на адваката. Так уяўлялі будучыню свайго сына бацькі Віталь і Аксана. Яны кажуць, што ён добра вучыўся, быў ціхім і спакойным хлопцам, ня лез у кепскія кампаніі, большасьць часу праводзіў дома. Так пра Вадзіма ў першыя дні пасьля забойства казалі ўсе, хто яго ведае, у тым ліку і настаўнікі.

Адбылося невытлумачальнае. Гэта была самая распаўсюджаная вэрсія, якую паўтаралі, як мантру, настаўнікі, блізкія хлопца і бацькі, якія прыйшлі да школы адразу пасьля забойства.

У Стоўпцах я ні разу не пачуў, што забойцу трэба караць сьмерцю або хаця б пажыцьцёвым зьняволеньнем. Зразумела, ніхто ў горадзе не апраўдвае забойства. Але ніколі раней я ня чуў столькі шкадаваньня і ня бачыў столькі суперажываньня з забойцам, як тут. Нават блізкія пацярпелых выказваліся ў такім духу. І з часам гэтае перакананьне маіх суразмоўцаў толькі павялічвалася.

Яны лічаць, што ў Вадзіма быў вельмі сур'ёзны матыў, прычына, чаму ён адважыўся на такі страшны крок і зьнішчыў сваю маладосьць — або і ўсё жыцьцё. А можа давялі, а можа яго цкавалі, а можа настаўнікі не дагледзелі, а можа ўлез у нейкую групу ў інтэрнэце, і яму там загадалі кагосьці забіць. Фактаў у абарону гэтых вэрсіяў у іх не было, але мае суразмоўцы былі перакананыя,



У часе пахаваньня

што ўсё было менавіта так. І часам усе прычыны былі ў адным адказе.

Праз тры гадзіны пасьля забойства, седзячы яшчэ ў праскай рэдакцыі, я ўжо ведаў, чый сын Вадзім і чый сваяк ягоны бацька. Сьвет малы, а Стаўпецкі раён — яшчэ меншы. Я датэлефанаваўся да стрыечнай бабулі Вадзіма. Тая была ў роспачы.

— Бацька ягоны заўсёды быў рады, што Вадзім дома, зь сям'ёй, ні ў якія кепскія кампаніі ня лез. Ніколі бацькі раней на яго ня наракалі, што курыць ці яшчэ што, — кажа сваячка хлопца. — Гэтыя бедныя дзеткі самі ўсё стараюцца. Працуюць. Машыну купілі самі, дом самі. Бачыла неяк нядаўна бацьку і пытаюся: як, скажы, Вадзім жа ў 10-ю клясу ходзіць, можа, і паступаць куды ўжо



Вадзім М. на лаве падсудных

зьбіраецца? А ён кажа: цёця, ён такі свойскі ў нас, хатні. І ўсе так пра яго кажуць. Харошы і добры вучань быў. Спакойны, узорны хлопец.

Пазьней у заплечніку Вадзіма ўсё ж знойдуць пачак цыгарэт і стане вядома, што школьнік выпіваў. А свойскасьць і сядзеньне дома некаторыя тлумачылі зусім інакш. Паводле іх, гэта быў вельмі закрыты юнак. Безь сяброў. Безь людзей, з кім мог бы пагаварыць і выгаварыцца. І што добрага кантакту ў яго не было нават з бацькамі. Бо сядзець са смартфонам або кампутарам у хаце — зусім ня значыць, што ты праводзіш час зь сям’ёй.

— Сядзеў дома. Нешта набраў у галаву. А яшчэ гэтыя тэлефоны і кампутары. Дзеці зусім за імі падурнелі, — кажа жанчына на вуліцы, дзе жыў Вадзім.

У клясе ў яго быў усяго адзін сябар, з суседняй вуліцы, зь якім яны сядзелі за адной партай.

У нядзелю ўвечары, за ноч да забойства, Вадзім патэлефанаваў яму і папярэдзіў, каб той не прыходзіў у панядзелак у школу, бо чакаецца цяжкі дзень, некалькі кантрольных. Мы знайшлі гэтага Вадзімавага сябра, але ён адмовіўся размаўляць.

— Вадзім, хутчэй за ўсё, ужо плянаваў напад і такім чынам хацеў абараніць адзінага сябра, калі б нешта пайшло ня так.

А ня так магло пайсьці шмат чаго. Апрача нажа з сабою ў заплечніку хлапец прынёс у школу малаток і піратэхніку.

Пасьля забойства Вадзім М. пабег не дадому. Яго затрымалі каля гаспадарчай крамы за кілямэтар ад школы. Чаму ён прыбег менавіта сюды?

Паводле крыніцы Радыё Свабода, Вадзім пабег да гаспадыні кватэры, дзе некалі наймалі пакой ягоныя бацькі. Уладальніца — зусім чужы Вадзіму чалавек. Але ў той крытычны момант ён вырашыў бегчы менавіта да яе. У гэтым няма ніякай разгадкі здарэньня або падказкі, акрамя адной важнай дэталі.

— Ён насамрэч быў вельмі самотны. Уяві, што ў яго не было нікога блізкага, пра каго ён мог бы ўзгадаць у такую крытычную хвіліну і хто мог бы яго прыняць. Адзіным чалавекам, пра якога ён падумаў у самы драматычны момант жыцьця, аказалася абсалютна чужая асоба. Зрэшты, і там Вадзім доўга зь ёй не прабыў, — кажа наш інфарматар.

Міліцыя спачатку памылкова ачапіла суседні дом. Але калі хлапец пабачыў бацьку, які шукаў сына разам зь міліцыяй, то здаўся сам.

Пра гэта журналістам Свабоды расказалі Вадзімавы бацькі. Мае калегі былі першымі, з кім яны пагадзіліся на вялікае інтэрвію і паказалі пакой сына.

„Міліцыя ачапіла іншы дом, але сына там не было. Яго не ў пад'езьдзе затрымалі. Ён сам падышоў і здаўся. Ён не ўцякаў“, — сказала Аксана, маці Вадзіма.

Вадзім распавёў у дзень забойства свайму адвакату і бацьку, што затрымлівалі яго жорстка. Калі АМАП зацягнуў хлопца ў мікрааўтобус, яго паклалі на падлогу, сталі нагамі на сьпіну і пачалі заломваць рукі.

„Зь яго выбівалі паказаньні, — сказаў бацька. — Усё, што яны патрабавалі, ён гаварыў. Але сінякоў у яго не было. Сталі так, каб не было“.

Бацька Віталь быў у той самы дзень на трохгадзінным допыце сына. Вадзіму няма 18 гадоў, і таму на допытах павінен прысутнічаць апякун. Хлопец адмовіўся даваць паказаньні. На ўсе пытаньні ён адказваў: „Ня ведаю“ і „Ня памятаю“. І так працягвалася больш за тыдзень.

## Ганна Арэнт супраць Лукашэнкі

Пошук вінаватых у гэтай трагедыі пачаўся пасьля першых паведамленьняў у сеціве: ад школы, фільмаў, інтэрнэту, сяброў, бацькоў да Лукашэнкі. Сам ён пра здарэньне ў Стоўпцах выказаўся на наступны дзень.

Чалавек, які 25 гадоў мае ў сваіх руках усе галіны ўлады ў Беларусі, назваў сытуацыю ў беларускіх школах бардаком і загадаў сваім бліжэйшым памочнікам разабрацца „на ўсю катушку“ са старшынём райвыканкаму і міністрам адукацыі.

Радыкальныя прапановы міністра наконт бясьпекі ў школах Лукашэнка сам празь некаторы час раскрытыкуе, і яны ніколі ня ўвойдуць у жыцьцё. А якім бокам да трагедыі кіраўнік раёну, які ў Беларусі ня мае амаль ніякіх паўнамоцтваў, апрача павелічэньня ўраджайнасьці і надояў, увогуле незразумела. Праз паўгода пасьля забойства абодва чыноўнікі застаюцца на сваіх пасадах. І магчыма, што адказ на пытаньне — чаму, хаваецца ў тым самым выказваньні Лукашэнкі 12 лютага.

„Я суткі аналізую сытуацыю і рознага кшталту размовы на гэтую тэму: хто вінаваты? Усе мы вінаватыя“.

Ганна Арэнт пошукам крыніцы зла прысьвяціла больш чым суткі — дзясяткі гадоў. І з фармулёўкай „вінаватыя ўсе“ сустракалася ня раз. Гэтую выснову яна дэталёва апісала ў сваёй працы „Пра гвалт“ (1969 год):

„Там, дзе вінаватыя ўсе, не вінаваты ніхто. Прызнаньне ў калектыўнай віне — гэта найлепшая гарантыя супраць выяўленьня сапраўдных вінаватых, а сам маштаб злачынства — найлепшае апраўданьне для бязьдзейнасьці“.

Прызнаньне калектыўнай віны Арэнт назвала сыходам у ірацыянальнасьць і ўцёкамі ад рэальнасьці. Так і сталася.

Калі ў першы дзень пра стаўпецкую трагедыю згадвалі напрыканцы выпускаў навін, дык пасьля гэтай заявы Лукашэнкі дзяржаўныя СМІ перасталі гаварыць пра яе ўвогуле. У выніковай перадачы тыдня на галоўным дзяржаўным канале цягам амаль гадзіны не знайшлося нават 5 сэкундаў на згадку пра падзею, якую абмяркоўвала ўся краіна.

Журналіст Свабоды Валянцін Жданко ў сваім блогу з нагоды замоўчваньня трагедыі ў Стоўпцах у дзяржаўных СМІ напісаў, што ад знаёмых калегаў з гэтых самых СМІ дазнаўся, што і там пра гэта ва ўсіх рэдакцыйных кабінэтах гаварылі, абмяркоўвалі. Многія журналісты парываліся ехаць і рабіць са Стоўпцаў рэпартажы. Але каманда ад кіраўніцтва — да асобнага распараджэньня пра гэтыя падзеі не пісаць.

„Мне ня цяжка ўявіць лёгіку чыноўнікаў Адміністрацыі прэзыдэнта (менавіта там, хутчэй за ўсё, прымалі рашэньне пра тое, як будзе асьвятляцца трагедыя), — пісаў Валянцін Жданко. — Маўляў, перадвыбарчы год, прапагандысцкая машына павінна ўсімі сіламі ўмацоўваць вобраз Беларусі як краіны для жыцьця, як выспы стабільнасьці і парадку ў акіяне хаосу, а тут... Навошта ўзбуджаць грамадзтва, спараджаць нездаровыя настроі, абсмоктваць жахлівыя падрабязнасьці?“

Калісьці ў БССР, працягваў Жданко, журналістам гэтаксама, кіруючыся такой самай лёгікай, загадвалі маўчаць, калі здараліся трагедыі (а яны здараліся). Калі падалі самалёты, калі людзі ма-

сава гінулі на пажарах у заводзкіх цэхах, калі цэлыя паселішчы былі апанаваныя страхам перад злачынствамі якога-небудзь сэрыйнага забойцы. А ў савецкіх газэтах і тэлепраграмах тым часам — толькі рэпартажы аб працоўных зьдзяйсьненьнях і шчасьлівым дзяцінстве.

Як пісаў пасьля XXIV зьезду КПСС адзін савецкі грамадзянін, натхнёны жыцьцярадаснымі публікацыямі савецкай прэсы:

Наша Родина прекрасна
И цветёт как маков цвет.
Окромя явлений счастья,
Никаких явлений нет.

## Ключ да спыненьня зла

Пасьля шасьцімесячнага назіраньня за працэсам над Адольфам Айхманам у Ерусаліме, Ганна Арэнт прыйшла да высновы, што гэты нацысцкі злачынец — самы звычайны чалавек, адзін з нас і ніякі ня монстар. Ён і сам вельмі цяжка пераносіў карціну гвалту. Падчас вайны ён аднойчы страціў прытомнасьць, назіраючы за экзэкуцыяй. Гэта здарылася ў Беларусі.

Свае дзеяньні ён апраўдваў тым, што не сустрэў у Нямеччыне аніводнага чалавека, „увогуле нікога“, хто быў бы супраць „канчатковага рашэньня“. Чаму так адбылося? Нямецкае грамадзтва, піша Арэнт, абаранілася ад рэальнасьці і фактаў тымі самымі сродкамі, тым самым самападманам, хлусьнёй і глупствам, якія сталі сутна-




Адольф Айхман. Архіўнае фота

сьцю мэнталітэту і самога Айхмана. Самападман стаў амаль маральнай перадумовай выжываньня. Так крывадушнасьць стала ледзь не адным з галоўных складнікаў нацыянальнага характару.

„... насельніцтва, якое не валодала досьведам адсейваць збожжа ад пустазельля ў плыні таталітарнай прапаганды, лічыла, што ўлады кажуць менавіта тое, што і думаюць“.

Праблема з Айхманам заключалася менавіта ў тым, што такіх, як ён, было шмат, і многія не былі ні вычварэнцамі, ні садыстамі — яны былі і ёсьць жахліва нармальнымі людзьмі. Паўтузіна псыхіятраў прызналі Айхмана абсалютна здаровым чалавекам. Арэнт прыйшла да высновы, што ў зла вельмі банальная сутнасьць. Зло ўчыняюць звычайныя людзі, якія прымаюць як норму парадак у грамадзтве, добрасумленна выконваюць абавязкі і не задаюць пытаньняў.

Менавіта такім чынам зло ў Нямеччыне страціла тую прыкмету, па якой большасьць людзей яго распазнаюць — яно перастала быць спакусай, піша Арэнт. Саўдзельнікамі злачынства ня сталі толькі тыя, хто навучыўся спакусе супрацьстаяць.

## Вольны мікрафон

На другі дзень пасьля забойства журналісты Свабоды ўключылі відэакамэру, мікрафон і сталі ў самым людным месцы ў Стоўпцах — паміж шпіталем, крамамі і аптэкай. Пытаньняў у іх да мінакоў было два: чаму так здарылася і што трэба зрабіць, каб такіх здарэньняў у школах больш ніколі не было?

— Я 40 гадоў таму скончыла школу, і ў нас такога ніколі не было. Нават у галаве ня ўкладваецца гэтая трагедыя. Раней для нас, моладзі, было ўсё. Ладзілі нейкія танцы, дыскатэкі. А куды цяпер дзецца моладзі? Яны і сядзяць у гэтых

кампутарах, у гэтых незразумелых гульнях. Праз гэта ў іх парушаецца псыхіка. Калі такія выпадкі здараюцца, дык вядома, што неабходна прымаць нейкія меры. У нас калі нейкія сьвяты ў горадзе, дык міліцыя правярае. Відаць, трэба такое рабіць і ў школах. Або трэба праводзіць зь дзецьмі нейкую псыхалягічную працу. І з бацькамі на бацькоўскіх сходах. Я таксама выгадавала дзяцей. У нас нават у думках не было, што школьнікі маглі б нешта такое ўчыніць.

— Увечары моладзі няма куды ісьці ў нашым горадзе. Сын у мяне студэнт, прыяжджае сюды. Калі раней былі нейкія дыскатэкі ці задрыпаны кінатэатар на плошчы, усё роўна там нешта было. А цяпер... Была міліцыя. Дзеці былі занятыя хоць нечым. А цяпер жа ўвогуле. Езьдзяць у Гарадзею. А ў Гарадзеі таксама ўсякія зьбіраюцца... Там таксама невядома што. Пабудавалі новы спартыўны комплекс, але ж ён адчынены толькі днём. А ўвечары? А ў выходны дзень? Дзеці самі па сабе, займаюцца абы-чым. Акрамя кампутара, ім больш тут няма чым заняцца.

— Я бачыла Вадзіма маленькім яшчэ. Апошні раз бачыла пару месяцаў таму. Паглядзеўшы на яго, я б ніколі не сказала, што гэтае дзіця можа пайсьці на такое. Нармальная сям’я. Тата працуе, мама працуе. Купілі маленькі домік, дабудавалі яго. Ёсьць машына. Забясьпечаныя. Ня ўкладваецца ў галаве. Гэта ня проста па-зьверску, нават слоў такіх няма, каб пра гэта казаць.

— Я жыву тут 57 гадоў, і каб такое здарылася... Я разумею, каб гэта ўчыніў нейкі адмарожаны,

зэкі, кончаныя. Але каб 15-гадовае дзіця! Не магу зразумець.

— Трэба нешта рабіць у школе. Бо аддаеш дзіця туды і чакаеш яго назад. Можа, каб нейкая ахова была, каб хаця іх торбы правяралі.

— Хай начальства думае, яму відней.

— Трэба праводзіць прафіляктычную працу, размаўляць зь дзецьмі. Каб пэдагогі размаўлялі, адпаведныя службы. Ня нейкая адна сфэра, а ўсе павінны прымаць у гэтым удзел. Пачынаць трэба недзе з 4-й клясы, калі гэта пачынае праяўляцца ў дзяцей. Толькі гэта можа дапамагчы. Больш нічога. Можна паставіць дзесяць ахоўнікаў, але гэта нічога ня дасьць.

— Гэта магло адбыцца ў любым горадзе, бо моладзь цяпер паўсюль аднолькавая. Кожны заўсёды можа знайсьці сабе занятак паводле ўласнага інтэлекту. Калі ёсьць жаданьне, то можна сябе рэалізаваць у Стоўпцах. Ёсьць гурткі, ёсьць спартыўныя сэкцыі, ёсьць усё, можна сябе заняць.

— Трэба меры бясьпекі. Бо цяпер гэты інтэрнэт, сайты розныя. Нават узяць „ВКонтакте“. Там ёсьць групы, небясьпечныя для дзяцей, асабліва для падлеткаў. Калі я вучылася ў школе, дык трапляліся такія групы, што страшна было.

— І школа, і бацькі, і грамадзкія арганізацыі. Усе павінны гэтым займацца.

— Трэба прымаць нейкія меры. Я ня ведаю што, але трэба нешта рабіць. У сацыяльных сетках поўна сэктаў, іх там могуць замбаваць. Хай будзе ахова на ўваходзе ў школы. Нават калі яна ня будзе правяраць, няхай там будзе.




У часе пахаваньня

— Трэба новыя меры бясьпекі. Ёсьць такія размовы, што ў сацыяльных сетках ёсьць людзі, якія накіроўваюць нашых дзяцей на кепскае. Тое самае, як баптысты. Цягнуць грошы. Відаць, нешта на хлопчыка паўплывала ў сацыяльных сетках. Людзі гаварылі, што нехта старэйшы ў сетках гаворыць дзіцяці, што ты павінен забіць, яму ўстаўляюць у галаву гэта. Хай наша РУУС прымае меры ў інтэрнэце, можа, нешта забароніць. Хай праверацць, бо нашы дзеці ў небясьпецы. Хлопчык гэты перад забойствам прыбраў усё са сваіх старонак у сетках, значыць, там нешта было.

Мы выхоўваем сваіх дзяцей, стараемся, падымаем на ногі, а ў іх ёсьць ворагі.

— А як вы праверыце кожнае дзіця, ці ёсьць у яго нож? Гэта магло здарыцца дзе заўгодна. Сьвет цяпер такі.

— У нас вунь пабудавалі фізкультурна-аздараўленчы цэнтар. Хто хоча, той ходзіць туды. Там ёсьць басэйн, мае дзеці туды хадзілі. І я туды хадзіла. Там што хочаш. І фітнэс. І ў школе ёсьць армейская барацьба. Ня вельмі ўсяго шмат, але нейкі мінімум ёсьць. А якія яшчэ ўмовы? Дыскатэк хіба цяпер няма. Я нават ня ведаю. У 2-й школе кожную суботу нешта адбываецца. Там усе занятыя бясконца. Сэкцыі, заняткі, Дом культуры, музычная школа. Таму і незразумела, чаму так адбылося. Каб сказалі, што за імі не глядзелі — дык наадварот жа. Я ведала настаўніцу забітую. Вельмі адказная, добрасумленная. Са старога пакаленьня настаўнікаў, якія ставяцца да сваёй працы з душою. Добрая жанчына, і маці добрая.

— Я ведаю гэтую школу. У школе да ўсіх дзяцей ставіліся аднолькава. З такой самай увагай. Школу адрамантавалі, дырэктарка разумніца. Туды ходзяць дзеці з прытулку, прыёмныя дзеці, з апякунскіх сем'яў. Гэтая школа несла вельмі вялікую нагрузку. Там і два дзявятыя, і два дзясятыя. Але справа ня ў тым, што нехта ня ўгледзеў. Немагчыма ж залезьці ў глыбіню думак дзіцяці, якія там маглі быць канфлікты паміж хлопцамі ці нешта яшчэ.

— Галоўная мера бясьпекі — гэта правільна выхоўваць дзяцей. Да іх павінен быць правільны

падыход, бо дзеці цяпер зусім іншыя і сьвет іншы навокал. Цяпер сьвет новых тэхналёгій, кампутары. Трэба на жыцьцё ўжо глядзець зусім інакш.

— Я знаю тое, што нельга столькі рэклямы круціць у тэлевізіі. Ну, і кампутары. Я гляджу, што выкладзена ў тым інтэрнэце. Нават той доктар Мясьнікоў, выкладваюць там розныя прэпараты, рэклямуюць іх. Ці ж можна такое паказваць па кампутары дзецям? Дзеці зацыкліваюцца на розных баевіках, на фільмах. Паўсюль у нас нейкія забойствы, карупцыя, таму так і здараецца. Раней мы пакідалі дзяцей дома, а самі ішлі на працу на цэлы дзень. І дзеці гулялі, то ў футбол, то ў што. А цяпер у нас што? Гульні праз кампутары.

— Трэба ўводзіць урокі. Як раней былі — царкоўныя. Каб было нешта біблейскае, каб яны ведалі, што ёсьць Бог і што гэта, магчыма, самае галоўнае ў жыцьці. Трэба, каб далей былі заняткі па асновах бясьпекі жыцьцядзейнасьці. І ўрокі трэба праводзіць у кантэксьце вось гэтых апошніх модаў — праз кампутарныя гульні. Абавязкова.

— Гэта адзінкавы выпадак. Але іншыя, можа, паглядзяць, і моладзь задумаецца. А тое, што будуць кожнага правяраць, дык нічога лепш ад гэтага ня стане. У нас як нешта здараецца, дык адразу пачынаюць праводзіць размовы, подпісы нейкія зьбіраюць.

— Пакуль што ў нашых школах не страляюць, як у Амэрыцы.

— Уключыце тэлевізар. Пастаянна фільмы, дзе бяздумна забіваюць, дзе жыцьцё нічога не каштуе.



Школа № 2

— Я ня ведаю. Быццам бы кажуць, што і настаўніца харошая, і хлопцы ціхія і разумныя, спакойныя. Але калі ўсе такія харошыя, дык адкуль два нябожчыкі і адно зламанае жыцьцё? У яго наркотыкаў не знайшлі, ён поўнасьцю здаровы. Тут нешта павінна было быць. Але мы, відаць, гэтага ніколі не даведаемся. Праўда страшная, то нам яе ніхто ня скажа.

— Я ня буду адказваць. Я сама ў школе працую. Усё настолькі складана.

## Погляд „рэтраграднай настаўніцы“

У дзень забойства, у 17.50, на сайце Радыё Свабода зьявіўся блог. Настаўніца і літаратарка Ганна Севярынец выказала сваю думку наконт прычынаў трагедыі:

„За хвіліну да таго, як прачытаць навіну пра Стоўпцы, я адкрыла на «Нашай Ніве» зусім бяскрыўдны артыкул. Пра песьню, якая атрымала прэмію «Грэмі». Уключыла гук на калёнках, паклікала сына: «Ільюшка! Хадзі паслухаем найлепшую песьню году!» Я стараюся, калі можна, глядзець сёе-тое ў інтэрнэце разам зь дзецьмі — даючы прыклад сэрфінгу, прыклад нармальных, санкцыянаваных цікаўнасьцяў. Ведаць найлепшую песьню году — нармальная цікаўнасьць. Можна разам абмеркаваць, параўнаць густы.

Мы абое селі каля экрана, і я ўключыла ролік. Прыгожы сьпявак, рухаючыся пад музыку, пайшоў на камэру — і праз хвіліну выхапіў з кішэні пісталет і стрэліў у галаву нейкаму чалавеку, захутанаму ў тканіну. Паляцелі мазгі, і забіты рухнуў на падлогу.

Мяне ледзь не званітавала, затрэсьліся рукі — побач жа сядзіць малы! Я сама не магу глядзець на такое, хоць іншы раз прымушаю сябе — калі ты займаесься рэпрэсіямі трыццатых, ты ня можаш ня ведаць, не глядзець і не рэфлексаваць над такімі рэчамі. Але мой сын, які толькі што ў кліпе на найлепшую песьню году, узнагароджаную прэміяй «Грэмі», пабачыў жыўцом расстрэл — чым ён вінаваты?!

А праз хвіліну я прачытала навіну пра разьню ў Стоўпцах.

Я не хацела б выглядаць рэтраграднай настаўніцай... Не. Я зараз хацела б выглядаць рэтраграднай настаўніцай. Менавіта — рэтраграднай настаўніцай.

Мая калега, настаўніца гісторыі Марына Міхайлаўна Пархімовіч, загінула сёньня на сваім рабочым месцы. На руках іншай маёй калегі, стаўпецкай настаўніцы, памёр цяжка паранены вучань. Трэцюю маю калегу, якая выскачыла ў калідор ратаваць дзяцей, уратаваў вучань, крыкнуўшы: «Зачыніце дзьверы!» Я хацела б выглядаць рэтраграднай настаўніцай і крыкнуць некуды ў неба: «Вы дасталі, сволачы, са сваёй эстэтыкай забойстваў!»

Як вы дасталі, дзеячы культуры, музыкі і кіно, прагрэсіўныя і ня вельмі! Як вы дасталі, сцэнарысты і рэжысэры, сьпевакі і танцоры! Як жа ж вы дасталі, усе тыя, хто цягне на публіку забойствы і трупы, крывішчу і нажы, пісталеты і гвалт! Эстэтычныя імпатэнты, якіх болей не хвалюе нічога, акрамя як сцэны расстрэлаў, сьмерці і гвалту, як жа дасталі вы тырчаць у кожнай дзірцы публічнай прасторы і зьбіраць прагляды «малых сіх», карміць у гледачах самае благое, зарабляць на агрэсіі і рабіць выгляд, што гэта мастацтва.

Зараз, вядома, знойдуцца тыя, хто мне абавязкова ўсё патлумачыць. Пасьмяецца. Прывядзе прыклады. Я і сама, безумоўна, магу раскласьці на бясьпечныя складнікі гэты кліп з «Грэмі» ці любы зь фільмаў умоўнага Тарантына.

Але сёньня ў Стоўпцах ашалелы падлетак забіў Марыну Міхайлаўну Пархімовіч і школьніка Сашу.

Я плачу, я не магу“.

## Школьнікі пра трагедыю

У першыя ж дні пасьля трагедыі Свабода шмат размаўляла з дарослымі — псыхолягамі, міліцыяй, настаўнікамі, бацькамі. Але мы забыліся распытаць саміх падлеткаў. Праз колькі дзён мы запрасілі ў студыю менскіх школьнікаў і запыталі: што яны думаюць пра трагічны выпадак і чаму такое магло здарыцца?

*Аліса, 13 гадоў*. Пра трагедыю ў Стоўпцах нам распавялі на ўроку біялёгіі. А потым настаўніца скінула спасылку на навіну. Сказалі, што ён мог быць пад наркотыкамі. Я думаю, што вінаватыя людзі, якія побач зь ім: бацькі, аднаклясьнікі і тыя самыя настаўнікі. Усе вінавацяць інтэрнэт, але я ня ведаю чаму. Хлопчык быў даведзены да такога стану, што вырашыў забіць нажом, гле-



дзячы ў твар настаўніцы. Ці ня значыць гэта, што нехта давёў яго да такога стану? Нішто ня можа навучыць чалавека агрэсіі, як іншыя людзі. Нельга абвінавачваць у гэтым фільмы ці інтэрнэт. Проста ніхто ня хоча браць на сябе адказнасьць.

*Ян, 13 гадоў.* Звычайна такія паводзіны могуць быць зьвязаныя з тым, што ў дзяцінстве чалавек атрымаў псыхічныя траўмы. Не абавязкова нават, што ў дзяцінстве, а ў прынцыпе. І магло адбыцца так, што хутка ўсё рэзка пагоршала. Напэўна, на гэта ўплываюць бацькі. Бо да пэўнага ўзросту дзіця практычна не ўваходзіць у кантакт з атачэньнем. Інтэрнэт можа быць вінаваты толькі ў тым выпадку, калі чалавека не навучылі ім карыстацца. У яго маглі зьяўляцца кепскія сябры, і ён ня змог вызначыць, кепскія яны ці добрыя. І ён ня мог пра гэта пагаварыць з бацькамі.

*Ігнат, 16 гадоў.* На грамадазнаўстве мы разьбіралі, чаму гэта адбылося, як магло б не адбыцца і што магло паўплываць на тое, што сталася. Найперш, я лічу, што праблема ў выхаваньні. Магчыма, нейкая недаказанасьць. Я заўважыў, што такое адбываецца пераважна з хлопцамі. Чаму? Бо ў нас у Беларусі грамадзтвам навязанае тое, што мужчыны павінны цярпець і не паказваць свае эмоцыі. Усё гэта накручваецца, як сьнежны ком. І потым гэты нэгатыў праяўляецца праз такія жудасныя дзеяньні.

*Ян, 14 гадоў.* Гэта вельмі складанае пытаньне, бо ёсьць вельмі шмат варыянтаў, як гэта магло адбыцца і як магло не адбыцца. Такія сытуацыі ёсьць паўсюль. І ня важна, Гішпанія гэта ці Нідэр-

лянды. Я лічу, што кампутарныя гульні, пра якія кажа большасьць дарослага насельніцтва, гэта ня так. Поўная бязглузьдзіца. Ніякія навіны не прымусяць мяне зрабіць штосьці. Калі я ўбачу наркотыкі, то гэта не прымусіць мяне іх прымаць, гэтаксама як і цыгарэты. Магчыма, гэта праблемы выкладчыкаў і псыхолягаў, якія нас не зусім падтрымліваюць. Магчыма, і Вадзіму ў адзін момант не дапамаглі, і здарылася тое, што здарылася.

Калі Сашу Раманава адпявалі ў царкве насупраць школы № 2, я падышоў да ягоных аднаклясьнікаў, каб паразмаўляць. Але ніхто зь іх ня быў гатовы да гутаркі. Дзеці збывалі мяне фразай „ён быў цудоўным сябрам“ і „ніякіх камэнтароў“.

## Што сказала Сьвятлана Алексіевіч

Камэнтар я атрымаў на наступны дзень. Не, да мяне ніхто не патэлефанаваў і не напісаў. Калі я блукаў па профілях аднаклясьнікаў Сашы ў сацыяльных сетках, дык адразу на некалькіх зь іх пабачыў развагі Сьвятланы Алексіевіч пра стаўпецкую трагедыю, якія былі апублікаваныя на сайце Свабоды.

Для дзяцей, якія былі сьведкамі забойства і страцілі сябра, меркаваньне нобэлеўскай ляўрэаткі падалося вельмі блізкім да іх уласных думак і адчуваньняў.

Вось што сказала Алексіевіч:

„Не, гэта, безумоўна, не прыватны выпадак. Разумееце, у паветры вісіць нейкая нянавісьць, людзі ёй проста зараджаюцца, падсілкоўваюцца. Зьяўляецца пераканаваньне, што праблемы можна вырашыць гвалтам — нажом, аўтаматам. А гэта самая страшная думка, якая можа зьявіцца. Дух гвалту, на жаль, сёньня прысутнічае ў нашым жыцьці ва ўсім і ўсюды...

Я бачыла твары выкладчыкаў, дырэктара той школы. І няпраўда, што там бардак, не было яго там ніколі. Гэта відавочна нават па твары той цудоўнай загінулай настаўніцы, якую вельмі любілі вучні — яны адзін за адным пра гэта казалі яшчэ да таго, як яе ня стала.

Дый у падлетка, які ўчыніў злачынства, сям'я сама па сабе вельмі добрая. Відаць, што бацькі — звычайныя працаўнікі, якія шчыра радаваліся за сваё дзіця, жадалі для яго сьветлай будучыні. А ўжо пра забітага хлопчыка дык проста слоў няма. Рос сапраўдны сьвядомы беларус. Чалавек, які ўжо зрабіў свой асэнсаваны выбар.

Думаю, у тым або іншым выглядзе прысутнічала пэўная рэўнасьць паміж гэтымі дзецьмі: абодва былі дастаткова моцнымі і амбітнымі. І нечага сьвядомасьць аднаго ня вытрымала — узмоцненая, як ужо казала, агульнай атмасфэрай духу гвалту, непавагі да чалавечага жыцьця. Вось тут трэба шукаць прычыны.

На ўсіх узроўнях паступова ўкараняецца думка, што ўсё можна вырашыць крыкам, сілай. Паглядзіце, як паводзіць сябе той самы Лукашэнка — загадвае міністру: давай, кажы, іначай

выйдзеш адсюль у ланцугах-кайданках. Гэта ж таксама гвалт, непавага да чалавечай годнасьці.

А калі ён ня так даўно заявіў, што біць дзяцей — гэта «нацыянальная традыцыя», дык пра што наогул казаць? Мне вось цікава: ён і свайго малодшага Кольку б’е, як некалі старэйшых? І за што, за якія правіны? Шчыра кажучы, я пабывала і ў багатых краінах, і ў бяднейшых, але нічога падобнага ня чула з вуснаў вышэйшага кіраўніка.

Нам усім трэба навучыцца гаварыць, знаходзіць нейкія іншыя словы, а не крычаць, не раўці, як гэта робяць амаль усе начальнікі. Проста адмахнуцца, што ў школах бардак? Ды ў нас маса цудоўных настаўнікаў, якія працуюць абсалютна ў невыносных умовах, з кучай непатрэбных паперак, пад пастаянным прэсінгам праверак, пад кантролем людзей, якія нічога не разумеюць у адукацыі, але пастаянна крычаць. І тое, што кажа Качанава, таксама толькі адзін са складнікаў таго, што адбываецца. Таму, я думаю, усё гэта вельмі глыбінныя працэсы.

Паўтаруся, мне вельмі спадабаліся твары выкладчыкаў стаўпецкай школы. Я сама зь сям’і настаўнікаў і ведаю, што такое сапраўды шчырыя твары. І людзі ня хлусяць, калі іх распытваюць на вуліцы, у адзін голас кажуць, што гэта вельмі добрая школа, выдатная дырэктарка.

Калі я бываю за мяжой, выступаю ў гімназіях, ліцэях, там зусім іншая танальнасьць размовы — вучняў паміж сабой, з настаўнікам, з вышэйшым начальствам, якое апякуецца гэтай школай.

І нават нягледзячы на гэта там таксама здараюцца забойствы. Бо, зноў жа, існуе дух суперніцтва, непрыманьня чужых посьпехаў.

Асабліва паміж хлопчыкамі — дзяўчаткі ж не страляюць, ня рэжуць. Гэта ўсё той дух гвалту, які пасяліўся ў нашым жыцьці, зь якога ні я, ні іншыя пакуль што ня бачаць выйсьця. Дый ніхто асабліва і ня хоча выходзіць, усё вырашаецца толькі крыкам, пагрозамі, прыніжэньнем апанэнта. Хамства, якое пачынае ўладарыць над нашым жыцьцём“.

## Забойства за беларускую мову

Пра матыў забойства ў стаўпецкай школе №2, які не прагучыць у судзе, распавёў у блогу на сайце Свабоды журналіст Сяргей Дубавец:

„Забіты ў Стоўпцах 11-клясьнік Саша Раманаў быў адзіным на ўсю школу вучнем, які сьвядома размаўляў па-беларуску. Забойца Вадзім М. з 10-й клясы ня быў зь ім знаёмы, але мэтанакіравана выбраў яго. Ён зарэзаў настаўніцу ў сваёй клясе, пасьля па калідоры скіраваўся ў клясу Сашы, прайшоў некалькі партаў з вучнямі і, стаўшы ў Раманава ззаду, ударыў нажом у сонную артэрыю. Унікальны факт беларускамоўнасьці ахвяры ў гэтай справе такі самы неабвержны, як факт забойства. Іншых фактаў няма.

Усе іншыя прычыны і матывы, пра якія кажуць сьледчыя і назіральнікі, — усяго толькі




дапушчэньні, ніводнае зь якіх не зьяўляецца фактам.

Напрыклад, пра «зайздрасьць да вучня з заможнай сям'і», які мае добрыя дачыненьні з бацькамі і выглядае ўвесь такім разумным і прасунутым. А хіба ён адзін такі на ўсю школу? Пагатоў яны не былі знаёмыя. Хіба не знайшлося б такіх у клясе ў Вадзіма, каб можна было на іх здаволіць сваю дзікую зайздрасьць, сьцьвердзіць сваю вышэйшасьць?

І потым, пры ўсім разрыве ў даходах прадпрымальніка Раманава-бацькі і бацькі Вадзіма чыста функцыянальна кожная сям'я жыве ў сваім доме, мае машыну, і ў кожнага сына — свой пакой, дзе ўсё, патрэбнае для вучобы і адпачынку, на месцы. Так што зайздрасьць, можа, і аргумэнт, але ня факт.

Што Вадзім выпіваў? Дык у крыві нічога ня выяўлена. І проста так, выпіўшы, ня пойдзеш забіваць, калі ў цябе ў запасе няма псыхічнага расстройства. А экспэрты кажуць — няма.

Што Вадзіма пабівалі ў школе… Зь іншага боку, кажуць, што трэніраваны, моцны целам хлапец і нажом махаў хвостка, зь сілаю. Неяк інакш крыўдзілі? Абражалі? Не чуваць. Калі й ёсьць паказаньні, дык фактаў няма. Прынамсі, не Раманаў яго пабіваў і абражаў.

Што Вадзім начытаўшыся быў нейкіх суполак у сеціве? Хіба што антыбеларускіх.

Такім чынам, адзіны аб'ектыўны факт, які вылучаў Раманава аж настолькі, што магла закіпець беларусафобская кроў — беларуская мова. Але мова — тэма табу як для суду, так і для публікі.

Дзьмітры Гурневіч у сваёй кнізе моцна ўражаны, што сустрэў у Стоўпцах амаль татальную падтрымку забойцы і абыякавасьць да ахвяры. Забойства ніхто не апраўдвае, але адносіны менавіта такія.

Незалежныя журналісты таксама нібы пабойваюцца акцэнтаваць увагу на беларускамоўнасьці Раманава, бо загіпнатызаваныя гэтым табу. Калі тэма востра не стаіць у грамадзтве, значыць акцэнт можа выглядаць нацяжкай.

Але мы мусім разумець прыроду гэтага табу.

Пасьля масавых сталінскіх забойстваў нацыянальнай інтэлігенцыі ў людзях пасяліўся страх, які зь цягам часу ператварыўся ў гэтае самае табу. Для моладзі гэта ўвогуле незразумелая тэ-

ма. Чаму не гаворыш па-беларуску? Ніколі ня думаў пра гэта. Ніхто ня вучыць гаварыць і што гэта — твая законная мова. І ніхто не гаворыць. Толькі выскачкі, якім больш за ўсіх трэба. А мы жывем у Беларусі і як бы не ў Беларусі — у СНГ, у саюзнай дзяржаве, у адзінай мытнай прасторы. Рускае радыё на FM пад рознымі назвамі і рускі тэлевізар, вконтакте і однокласнікі, стоп майдан, стоп бэндэраўцы, крым наш… Месца ў галаве ні на што іншае не застаецца. Бо ў галаве няспынна ідзе вайна. Памятаеце, як у Данецку проста голымі рукамі забівалі ўкраінцаў. Нянавісьць, пра якую кажа Сьвятлана Алексіевіч, разьлітая ў паветры. Дастаткова каталізатара.

Людзі жывуць целам у Беларусі, а галавой у тэлевізары, у Расеі. Гэта вельмі няпростая поза, але за гады яны звыкліся стаяць такой літарай «зю», што лічаць яе нармальнай. А што, я як усе. Ужо тое, што шкадуюць забойцу, а не ахвяру — хіба ня моцны сыгнал, што поза, у якой стаім, мякка кажучы, ненармальная.

Вялікая частка жыцьця тутэйшых людзей — гэта імітацыя жыцьця. Імітацыя суду, СМІ, палітыкі, культуры, адукацыі, адміністраваньня, арміі… Гэта ілюзорны сьвет. Людзі хочуць простых адказаў, але ў ілюзорным сьвеце ня можа быць простае лёгікі, простыя адказы там заўсёды хлусьня — пра што пісала Ганна Арэнт, тлумачачы, чаму культурная нямецкая нацыя за Гітлерам так расчалавечылася.

У мяне часта пытаюцца: чаму размаўляю па-беларуску? Адказваю: бо я беларус. Хіба ня




простая лёгіка? А рэакцыя звычайна — разрыў шаблёну: Дык і мы ж беларусы. — А з чаго гэта відаць?

Ці заўважылі вы, якімі тэмпамі русыфікуецца беларуская правінцыя? У моладзі, якая спрэс рускамоўная, ужо не пачуеш нават беларускага акцэнту. А тут зьяўляецца беларускамоўны, які адкрыта парушае ўсеагульнае неабвешчанае табу, разбурае твой ілюзорны сьвет, выклікае кагнітыўны дысананс.

Забойца Вадзім з тых беларусаў, якія за Польшчай былі палякамі. У такім асяродку да беларушчыны ставіліся як да адзнакі ніжэйшае касты, і выхадцы з такога асяродку рабіліся іншы раз квазірускімі, бо заўсёды арыентаваліся на «мэтраполію» — калісьці на Варшаву, пасьля на Маскву.

У выніку атрымалася дзіўная трагедыя на мяжы двух сьветаў — рэальнага і ілюзорнага. Расеец паводле сьвядомасьці і беларус паводле

крыві забівае беларуса паводле сьвядомасьці і расейца паводле крыві.

Вы скажаце, калі гэта забойства за мову, пры чым тут забітая настаўніца? Настаўніца гісторыі, яна ж арганізатарка краязнаўчых алімпіядаў, нябось не пра Тамбоў дзецям расказвала і не пра цара Пятра, і не пра паход Суворава ў Альпы. Тут на Стаўпеччыне была свая гісторыя, якая ня мела дачыненьня да гісторыі Расеі. І вось вам два складнікі нацыянальнай сьвядомасьці: мова і гісторыя.

Калі сказаць, што Вадзім забіў Сашу за мову, больш, нібыта, і казаць нічога ня трэба. Усё адразу выглядае проста і ясна. Але з гэтага боку аналізаваць сытуацыю ніхто ня будзе, нягледзячы на аб'ектыўны факт. Бо для публікі гэта азначае пачаць грамадзкую дыскусію пра позу «зю» і моўную палітыку ўладаў, пра сваё ўласнае таемнае табу, а для суду — прэцэдэнт. Зрэшты, не прэцэдэнт. Як мінімум, адзін выпадак мы ўжо апісалі — справу Алеся Юркойця, ад якога дэманстратыўна адвярнуўся суд.

Што ў выніку? У прысудзе мы пачуем штонебудзь пра жаданьне забойцы ўзвысіцца над іншымі, пра недахопы ў працы школы, пра тое, як сказаў Лукашэнка, што вінаватыя ўсе. А людзі, паслухаўшы, так нічога і не зразумеюць. Бо зь першага дня перакананыя, што «праўды нам ня скажа ніхто»".

## „Горад Міру“

На пачатку 2000-х „Советская Белоруссия“ паведаміла, што Стоўпцы абвешчаныя „Горадам Міру“. Зь якога перапуду, газэта не тлумачыла. „Рашэньне аб прысваеньні ганаровага статусу належыць вядомаму індыйскаму філёзафу і прапагандысту спорту Шры Чынмою“, — напісала „СБ“.

Якім чынам індус Шры Чынмой, заснавальнік уласнай царквы ў ЗША, даведаўся пра Стоўпцы і чаму ўганараваў іх, застаецца загадкай. Яшчэ больш загадкава — што стаўпецкі выканкам з павагай паставіўся да новага статусу і перад раённым Домам культуры зьявіўся валун з адпаведнай шыльдай.

Зрэшты, прычынаў ганарыцца сабою зашмат не бывае.

Чынмой быў ня толькі прапаведнікам, але і прапагандыстам спорту. І цяпер штогод праз горад праходзіць міжнародная бегавая эстафэта



міру. Магчыма, у гэтым прычына — трапіліся на дарозе?

Чынмой стварыў сваё „Сузор'е Міру“ — цэлы шэраг аб'ектаў у сьвеце, якіх сёньня больш за тысячу. У Беларусі такое месца адно. Яшчэ кажуць, нібыта, Стоўпцы выбралі дзякуючы таму, што яны знаходзяцца каля геаграфічнага цэнтру Эўропы. Насамрэч, такіх цэнтраў толькі ў Беларусі некалькі, а ў Эўропе яшчэ з паўтузіна, ад Славаччыны да Літвы. Але ў Стоўпцах ведаюць, што іхны цэнтар Эўропы — недалёка ад гораду, на калгасным полі.

Падчас бегавой эстафэты цырымонія зь перадачай паходні адбываецца на плошчы Бесьсьмяротнасьці пры ўдзеле раённага начальства, з хлебам-сольлю, танцамі і песьнямі.

Здаецца, нічога неардынарнага. Спорт, здаровы лад жыцьця і філязофія. Але прырода шыльдаў такая, што ў іх ёсьць два бакі.

Шыльда зь вершам Шры Чынмоя нейкі час віднелася нават на Статуі Свабоды ў Нью-Ёрку, але нядоўга. Вырашальнай стала дзейнасьць патрона і яго рэпутацыя. Чынмой — гэта ня проста заснавальнік маратону міру і дзівак, які дае званьні розным аб'ектам на плянэце. Ягоную царкву многія лічаць таталітарнай дэструктыўнай сэктай. Пасьлядоўнікі Чынмоя вераць, што ён напісаў 1500 кніг, 155 тысяч вершаў, 200 тысяч карцін і прыўзьняў адной рукой больш за 3000 кг.

Чынмой без праблем падняў бы стаўпецкі помнік Леніну, мог бы прысьвяціць кожнаму стаўпецкаму жыхару па 10 вершаў, а зь яго карцін

вакол Стоўпцаў можна было б узьвесьці высачэзную агароджу, каб аддзяліць „Горад Міру“ ад рэшты Беларусі.

Сам Чынмой сьцьвярджаў, што ён — інкарнацыя Бога. Ад сваіх пасьлядоўнікаў ён вымагаў поўнага падпарадкаваньня, цэлібату і забараняў заводзіць знаёмствы зь людзьмі з вонкавага сьвету. Усё дзеля таго, каб знайсьці ўнутраную раўнавагу.

Чынмой памёр у 2007 годзе ад сардэчнага прыступу, маючы на сваім рахунку абвінавачаньні ў сэксуальных дамаганьнях і стварэньні поп-рэлігіі для выпампоўваньня грошай. Раённае начальства, пэўна, ніколі ня чула пра другі бок шыльды Чынмоя. А калі і чула, дык чым тыя два бакі горшыя за два бюсты Дзяржынскаму ў горадзе?

## Мая „Кароткая гісторыя Беларусі“

Трэба сказаць, што ў гэтым краі ніколі не было спакойна. Тая напружанасьць, зь якой унутры жывуць тутэйшыя людзі, нікуды не зьнікае з-пад вонкавай міны нясьпешнага спакою. Прынамсі, апошнія сто гадоў было так. Мяркую пра гэта на падставе гісторыі свайго ўласнага роду.

Я вырас у вёсцы Налібакі за 40 км ад Стоўпцаў, дзе насельніцтва перад Другой усясьветнай вайной называла сябе польскім. Калі ў 1939 годзе прыйшлі бальшавікі, частка гэтых палякаў і мясцовых габрэяў віталі акупантаў з кветкамі. Мясцовы паляк узначаліў сельсавет. Яго застрэлілі


Дзьмітры Гурневіч

Могілкі ў Налібаках

свае, палякі. Тых, што віталі, камуністы потым у кніжках назвалі беларусамі. Частка габрэяў і мясцовых палякаў пайшлі ў міліцыю. Калі вывозілі ў Сыбір польскіх чыноўнікаў, тыя міліцыянты складалі сьпісы, каго вывозіць.

Арыштавалі майго прадзеда Францішка Гурневіча. На яго напісаў данос сусед і былы аднаклясьнік, такі самы паляк, які ня мог дараваць, што ў прадзеда за польскім часам някепска ішлі справы. Прадзеда адправілі па лягерах. У 1941 годзе ён быў у лягеры на Віцебшчыне. Як прыйшлі немцы, яго адпусьцілі да сям'і.

Прадзед вярнуўся і ахоўваў сьпіртзавод ад партызанаў. Сёньня яго, напэўна, назвалі б паліцаем. Бо ж немцы далі яму гэтую працу. Ці ён мусіў ісьці ў савецкія партызаны, да тых, хто ў 1939 годзе ў Асташкаўскім лягеры ўнёс яго ў расстрэльны

сьпіс? Тыя немцы потым расстралялі сям'ю іншай прабабулі, на хутары Вялік пад Івянцом, а рускія партызаны — яе стрыечную сястру, польскую падпольшчыцу Марысю Чаінскую. Потым, у 1944-м, дзеда па старой памяці ізноў загрэблі бальшавікі. На судзе ён назваў сябе беларусам. Выслалі ў Сыбір.

Налібацкія габрэі, каб заслужыць давер камуністаў, скінулі ў 1939-м у возера каля касьцёла скульптуру Яна Хрысьціцеля. Многія мясцовыя былі абураныя. Прыйшлі немцы. Габрэяў з Налібак восеньню 1941-га забралі ў гета ў Наваградак або расстралялі ў лесе пад Івянцом. Частка ўратавалася, іх схавалі мясцовыя ў Налібаках. У суседняй вёсцы быў адзін габрэй, ён схаваўся ў бочку з капустай. Выдала суседка. Я пытаўся ў маёй бабы Мані, чаму яна яго выдала: „От, прыдуркаватая і зайздросная была“.

У 1941-м наваградзкія габрэі хацелі праз Стоўпцы ўцячы на ўсход, але савецкія жаўнеры, якія нібыта ў 1939 годзе аб'ядналі Беларусь, стралялі ў іх на былой мяжы каля Стоўпцаў, якая, як выявілася, усё яшчэ існавала — і праз два гады пасьля аб'яднаньня. Мясцовыя палякі ўцяклі ў савецкую партызанку, а частка — у польскую. І тыя, і другія прыходзілі рабаваць мясцовых уначы. Паверце, тым было ўсё роўна, якія ў тых партызанаў нашыўкі на рукавах. У партызаны пайшлі і мясцовыя габрэі. Польскіх партызанаў яны баяліся, бліжэй стаялі да саветаў, дзе былі тыя самыя налібацкія. Некаторых зь іх саветы


US Holocaust Memorial Museum, Leizer Novitzky

Габрэйскі атрад у Налібацкай пушчы

расстралялі, потым усё ж далі згоду на габрэйскія атрады, але без узаемнай любові.

Немцы стварылі зь мясцовых палякаў Самаахову, якую цяпер у Польшчы палякі называюць беларускай паліцыяй. І калі адзін мясцовы паляк (былы жаўнер Войска Польскага, які ў 1939 годзе змагаўся супраць немцаў) нібыта застрэліў савецкага камандзіра і справакаваў у Налібаках разьню, у якой загінулі 128 мясцовых, дык яго польскія гісторыкі назвалі беларускім паліцаем. Дарэчы, самі палякі яго ў 1950-я гады асудзілі на расстрэл у Варшаве. Але не расстралялі.

Другі мой прадзед Антон Біруля, які таксама лічыў сябе палякам, жыў на хутары. Там у яго хаваліся і габрэі, і польскія АКаўцы, і савецкія маёры. Палякаў ён сам вітаў, бальшавікі „прасілі“ зь пісталетам. Часам у госьці заяжджаў „беларускі паліцай“ Скродзкі — паляк, як і прадзед, — шукаў

у яго габрэяў, „бо людзі кажуць“... Саветы ўрэшце хутар спалілі.

У 1944 годзе польскія партызаны пачалі адступаць з нашай пушчы ад саветаў разам зь немцамі. У літаральным сэнсе. Прадзеда ў 1944-м выслалі ў Краснаярскі край. Данос напісаў мясцовы паляк, сусед (бытавуха, сусед хацеў ажаніцца з бабуляй, а яна яму адмовіла). Прадзеда абвінавацілі ў супрацы зь немцамі (то бок — у дапамозе палякам). Яго спрабаваў ратаваць нейкі НКВДыст, які ўзяў за жонку прадзедаву стрыечную сястру, але яна адгаварыла мужа ратаваць сваяка: „Ваня, падумай, што будзет с намі“. Дарэчы, калі прыйшлі немцы, Ваня і яна паўгода жылі ў прадзеда за печкай.

Маю прабабулю пасьля высылкі мужа пагражалі выслаць да яго праз год, бо яна была ня ў стане плаціць збожжам падаткі новай савецкай уладзе. Выратаваў яе габрэй, якога яна хавала на пачатку вайны. Ён працаваў у НКВД у Івянцы, калі немцы паўцякалі.

Стрыечнага брата маёй бабулі, паляка, саветы выслалі на фронт у апошнія месяцы вайны. Ён загінуў і цяпер лічыцца адным зь беларускіх франтавікоў, які загінуў у баях з агрэсарам, што напаў на СССР, які ён бараніў. Уся яго сям'я, мая прабабуля і яе дочкі (акрамя маёй роднай бабулі) уцяклі з СССР, выехалі ў Польшчу, як яны думалі, на радзіму. Там іх называлі кацапамі.

Мая бабуля ажанілася зь дзедам, сынам паляка — увага! — чальца тарашкевічаўскай Грамады, які пасьля вайны адмовіўся ехаць у Польшчу, бо лічыў, што яна па яго сама вернецца. Ягоны

сын, мой дзед, пасьля вайны лічыў сябе палякам і камуністам. Ягоныя дзеці і ўнукі сёньня лічаць сябе беларусамі.

Ва ўчынках герояў маёй гісторыі я ня бачу лёгікі, акрамя жаданьня выжыць. Каб выжыць, ім даводзілася прымаць самыя страшныя рашэньні. Таму гісторыя для мяне — гэта не навука пра факты. Гэта навука пра этыку, дзе факты — гэта доказ і прыкмета таго, як людзі прымаюць рашэньні. Пад уплывам каго і чаго, зь якой матывацыяй. І гісторыя часта дае нам адказы на пытаньні сёньняшняга дня.

Так, прынамсі, лічыла аўтарка адной з найважнейшых кніг у гісторыі — „Айхман у Ерусаліме. Банальнасьць зла“ — нямецкая публіцыстка Ганна Арэнт.

## Горад, дзе найлепшае ўжо было

У Стоўпцах праз два поціскі рукі я пазнаёміўся з кіраўніком гітлераўскай арміі, генэралам Гудэрыянам. Так сталася праз настаўніцу ўсясьветнай мастацкай культуры і краязнаўцу з гімназіі № 1 Людмілу Назаранку, якая водзіць па Стоўпцах экскурсіі.

Я прашу яе правесьці невялікую экскурсію і для мяне, каб лепш зразумець гэтае месца — чаму такая страшная бяда здарылася менавіта тут.

Мы сустракаемся каля той самай гімназіі, дзе ў вайну была нацысцкая камэндатура. Гудэрыяна бачыла мясцовая прыбіральшчыца,



Павал Савіцкі

Людміла Назаранка пад час экскурсіі

якая ў сталым веку расказала пра гэта Людміле Станіславаўне.

— Стоўпцы — гэта першае месца, дзе спатыкнуўся Гудэрыян. Тут жа быў паранены ягоны генэрал, — кажа мой гід.

Настрой, зь якім у горад прыйшла нямецкая армія, перадае запіс у дзёньніку шарагоўца Эміля Гольца, які ваяваў у складзе 29-й матарызаванай пяхотнай дывізіі:

„28 чэрвеня. Па дарозе ад Міра да Стоўпцаў мы размаўлялі з насельніцтвам мовай кулямётаў. Крыкі, стогны, кроў, сьлёзы і шмат трупаў. Ніякага спачуваньня мы не адчувалі. У кожным мястэчку, у кожнай вёсцы пры выглядзе людзей у мяне сьвярбяць рукі. Хочацца пастраляць зь пісталета па натоўпе. Спадзяюся, што хутка сю-

ды прыйдуць атрады СС і зробяць усё, што не пасьпелі зрабіць мы“.

На пачатку нашай размовы Людміла Станіславаўна згадвае Марыну Пархімовіч, якую добра ведала. У гэтыя дні тут амаль кожная размова пачынаецца з гэтай тэмы.

— Я ніколі ня бачыла, каб яна не ўсьміхнулася. Прыгожая жанчына. Яна была настолькі адкрытая! Я ўяўляю, як дзецям было добра каля яе. Мы былі ня так даўно на конкурсе вучнёўскіх дасьледчых прац у краязнаўстве і гісторыі. Яна была сёлета кіраўніком журы, праявіла незвычайны інтарэс. Яна глядзіць дзіцяці ў вочы і задае пытаньне за пытаньнем. А потым кажа: „Ты ня думай, я ў цябе не пытаю як сябра журы. Мне і самой цікава. Ці мог бы ты прыйсьці ў нашу школу і расказаць нам?“ Яна не глядзела, што ёсьць адна школа і другая, ці трэцяя, што нейкая канкурэнцыя паміж імі. Для яе галоўным былі дзеці. Яна аддавала ім усё. А цяпер, высьвятляецца, і жыцьцё.

Школа, дзе гасьцяваў Гудэрыян, — гэта будынак былой польскай гімназіі. Першы выпуск адбыўся ў 1935 годзе.

— Нядаўна я знайшла здымак, на якім людзі адкрываюць помнік патрону гімназіі — Тадэвушу Галуўку, польскаму палітыку, дэпутату ад Наваградзкага ваяводзтва. Ён быў блізкі да Стоўпцаў. Але ў 1934 годзе яго забілі, і гімназіі надалі яго імя. Зараз я вам нешта пакажу.

Людміла Станіславаўна падводзіць мяне да агароджы школы, за якой бачны кавалак роўна

вычасанага каменя. Гэта кавалак помніка Галуўку. На ім нават ёсьць адпаведны надпіс.

— Нядаўна быў фэст экскурсаводаў, дык адно кола па горадзе — тры гадзіны. Я б, здаецца, распавядала і распавядала, бо ніхто нічога ня ведае. Ніхто не прапагандуе, нікому гэта не цікава. Калі я расказваю пра гэта на ўроку, дзеці робяць вочы па яблыку. Як гэта? Я кажу — гляньце праз акно. Вунь там у двары ў першыя дні вайны быў Наваградзкі кацёл. З нашага акна быў бачны лягер ваеннапалонных, дзе было некалькі тысяч чалавек.

Дзе тут ні капяні, кажа Людміла Назаранка, паўсюль гісторыя. У літаральным сэнсе. Капалі зь дзецьмі клюмбу ў школьным двары, знайшлі старую цэглу. Каб выявіць, зь якога яна году, Назаранка правяла цэлае дасьледаваньне і дазналася — з 1924-га.

— А вось там быў будынак, дзе расстрэльвалі палонных. Мне расказвалі, як дзеці тут бегалі падчас вайны і кідалі ім ежу.

— Людміла Станіславаўна, — перапыняю. — А калі, на вашу думку, быў найлепшы час Стоўпцаў?

— 18 гадоў у Польшчы. І гэта ня толькі мая думка, бо я тады яшчэ не жыла. Так кажуць усе. З успамінаў людзей гэта проста бясспрэчна. Найперш з пункту гледжаньня архітэктуры. Да прыходу палякаў, пасьля першай вайны, тут было ўсё выпалена. У касьцёле была адна вежа. Усё драўлянае. А да першай вайны тут таксама нічога не было. Гэта было габрэйскае мястэчка. Плошча,




Стоўпцы, 1930-я

і ўсё. Горад канчаўся млыном Пекера, потым яго зьнесьлі. Цяпер там плошча Бесьсьмяротнасьці.

А вось гэта будынак былой польскай казармы. Яе пабудавалі пасьля нападу на Стоўпцы дывэрсійнай камуністычнай групы Ваўпшасава ў 1924 годзе, калі яны тут шмат бяды нарабілі. Палякі потым умацавалі мяжу і прыслалі больш жаўнераў. Вуліца спачатку называлася Вакзальная, а потым, калі забілі міністра ўнутраных справаў Польшчы Пярацкага, то зьмянілі ў ягоны гонар.

А бачыце дамы з глухой сьцяной? Мясцовыя жартавалі, што палякі так ненавідзелі саветаў, што ўсё, што было бокам да ўсходу, ставілі глухой сьцяной.

Вось гэта дом Касовіча. Нядаўна тут была кнігарня, але ўжо няма. Яна ўжо нікому тут не патрэбная.

А во ў гэтым доме жыў гаспадар, які фарбаваў тканіны. Калі ён памёр, ягоныя сыны пасварыліся. Ды так, што зрабілі асобныя дахі, каб з аднаго цякло на другі. І так яны згнаілі гэты дом.

Будынкі польскага часу і сапраўды моцна вылучаюцца ў Стоўпцах. Тое, што будуецца цяпер, ня вельмі моцнае. І яно ня мае ніякай адметнасьці. Я ня супраць функцыяналізму і спрашчэньня, але ж яно ўсё павінна быць пісьменнае. Адкідай усё лішняе, але ж ёсьць фасад, ён чытаецца. Ты ніколі не памылісься, у тыя дзьверы ты ідзеш ці ня ў тыя.

Кожны горад павінен быць сувымерны чалавеку. Толькі тады яму там будзе добра. А калі ты задзіраеш галаву, то ты адчуваеш сябе мурашом.

— А Стоўпцы сувымерныя сваім жыхарам?

— Нашыя Стоўпцы маленькія, таму яны і прыгожыя. Ня ведаю, як ужо сёньня казаць пра гэта. Але гэта быў самы спакойны горад, у якім добра. Дачка прыяжджае на машыне зь Менску і кажа: я прыехала ў іншую краіну. У краіну павольнасьці. Па-першае, рух. Ніхто нікуды не сьпяшаецца, усе адзін аднаго ведаюць.

А вось тут быў габрэйскі раён. Я, калі займалася габрэйскай тэмай, дык перажагналася і сказала сама сабе, што больш ніколі ня буду пісаць пра гэта. Я не магу пераварыць гэтыя вобразы, як ім тут было цяжка за немцамі. Стаўпецкія габрэі былі настолькі багатыя, што многія эўрапейскія


Narodowe Archiwum Cyfrowe, Milcezon M.

Стоўпцы, 1930-я

магнаты маглі б пазайздросьціць. Так мне казала адна нашая старажылка. Напрыклад, гаспадар жыў у Кёнігсбэргу, а сям'я тут. Сын кіраваў сплавам лесу тут, а бацька там прымаў.

Немцы не адразу пачалі іх забіваць. Спачатку яны выпампавалі зь іх усё, што маглі. Напрыклад, патрабавалі 20 кг гарбаты. А яшчэ трэба было і асабіста камусьці нешта несьці, каб ня зьдзекаваліся. Адбываліся страшныя рэчы. Адна жанчына распавядала, як іншая ўпала, прабіла галаву, зь яе выцякаюць мазгі, а курыца падыходзіць і дзяўбе. Немцы гэта бачаць, стаяць і рагочуць.

У будынку стаўпецкай пошты пры паляках быў паліцэйскі пастарунак. Побач памяшканьне, дзе паліцыянты зьбіраліся сем'ямі, каб адпачыць. Непадалёк была лазьня зь вялікімі ваннамі. Усё

расказвалі, як у нас быў адзін мясцовы дурачок, Файфэл зваўся. То голы хадзіў па горадзе, то залезе ў жаночую лазьню і схаваецца. А як жанчыны прыйдуць, ужо ён там гвалту наробіць. Дык успаміналі, што спачатку абыходзілі ўсе кабінкі і глядзелі, каб Файфэла не было, і толькі потым ішлі мыцца.

— Людміла Станіславаўна, а чаму вы ня лічыце цяперашні час найлепшым для Стоўпцаў? Вайны няма 70 гадоў, людзі маюць кватэры, дамы, машыны.

— Разумееце, палякі прывезьлі з сабою сваю культуру. Вядома, не падабалася тое, што яны пачалі хутка апалячваць. Вось гэта была бяда. Беларускасьць гінула. Гэта была памылка палякаў. Але колькі б яны ні стваралі розных арганізацый, столькі тыя і працавалі. Ніводная не была толькі на паперы. Я дзіўлюся сама, адкуль яно ўсё такое эфэктыўнае. У стаўпецкай паліцыі быў свой футбольны клюб „Нёман“, ён займаў месцы на спаборніцтвах. Нашыя вучні перад вайной езьдзілі на экскурсіі са Стоўпцаў да Нямеччыны, і ўсё па водным шляху. Гэта была падзея. Пільнаваўся парадак. Людзей, якія не хацелі прыбіраць каля дому, штрафавалі. Вядома, яны былі незадаволеныя. Некаторыя не разумелі, што калі ты ўзяў у дзяржавы грошы ў доўг, ты павінен іх аддаць, і ты павінен пра гэта думаць, працаваць на гэта. Кожнаму не дагодзіш. Адзін крычаў пра панскую Польшчу. А другі дзядок мае 95 гадоў і кажа: во дзе быў парадак. Вядома, гэта быў час не для ўсіх. Не для простага чалавека ў горадзе была Рэдута,

вежа са сходамі, дзе была заля для збораў Таварыства навукі. Чыталі лекцыі там. Пачынаючы ад Эгіпту, заканчваючы тым, як правільна ставіць вульлі. То 70 прысутных, то 50. Нанізе быў рэстаран. А вунь там быў тэнісны корт.

У нашым горадзе быў нават свой бардэль. Ён месьціўся каля вакзалу. Тут жа столькі войска было, казармы. Кіравала тым бардэлем жанчына, якую называлі Амэрыканка. Яна была родам з Івянца. Езьдзіла ў Амэрыку. Чым яна зарабляла грошы там, я не скажу, бо ня ведаю. А потым яна вярнулася з грашыма і пабудавала гэты дом. Там цяпер дзіцячы садок.

Карэнныя жыхары тут былі меншасьцю. І таму трымаліся адзін за аднаго. Казалі — гэта ж ня навалач, а свае. Я часам калі іду зь дзецьмі, дык яны мне кажуць: вунь бабушка ідзе, давайце пойдзем пагаворым. Бо яны б усіх старых людзей спынялі. Я кажу — о не, гэтая бабушка ня наша. Бо яна ў хустцы. А была б яна ў капялюшыку, дык гэта была б стаўпецкая. А гэта наяжджанка.

А ведаеце, дарэчы, чым першыя саветы лепшыя за другія? Першыя прыйшлі і пайшлі, а другія прыйшлі і засталіся, — сьмяецца Людміла Станіславаўна. — Саветы прыйшлі сюды ў лапцях, яны нічога не разумелі, хадзілі, рот разявіўшы. Нейкае сьвята было іхнае. Іх жанчыны прыйшлі і панакуплялі ў крамах ніжнюю бялізну і так хадзілі ў ёй. Настаўнікі іхныя прыйшлі непісьменныя пасьля польскіх прафэсараў. Дзеці не маглі паважаць такіх настаўнікаў. Першыя саветы выграблі ўсю рыбу з нашага возера, а

там разводзілі карпаў. І кіравалі яны так, бо былі некваліфікаваныя.

На пагорку, насупраць школы № 2, стаіць прыгожая і сьветлая царква Сьвятой Ганны, — распавядае Людміла Назаранка. — Калі яе будавалі, гэта была мяжа гораду, тут праходзіла вуліца Загуменная. Царква працавала і пры паляках, і нават у вайну. Гэты пэрыяд зьвязаны з постацьцю айца Віталя Багаткевіча.

Самі Багаткевічы не адсюль. Ён вучыўся ў Пецярбургу. А яго жонку гадавала немка. І яна ведала, як пячы нямецкія булачкі. І гэтыя булачкі Багаткевіч насіў нямецкаму камэнданту, каб ён дазваляў праводзіць багаслужбы ў лягеры для ваеннапалонных. Потым ён арганізоўваў лячэньне параненых і хворых у стаўпецкіх сем'ях. Ён маліўся ў адзіноце, моцная асоба была.

Ледзь ня кожная сьветлая гісторыя, якую пачынала распавядаць спадарыня Людміла, завяршалася нейкай драмай. Кожны прыгожы будынак хаваў за сваімі сьценамі тоны трагедый і сьлёз.

Айцец Віталь Багаткевіч служыў у Стоўпцах да 1951 году. Потым ён быў настаяцелем Сьвята-Духавага сабора ў Менску, працаваў сакратаром мітрапаліта. Але пасьля таго, як ён пачаў адстойваць менскія сьвятыні, кіраўніцтва рэспублікі-партызанкі накіравала яго ў Талачын, далей ад сталіцы.

Стоўпцы ніколі не былі ціхімі і спакойнымі. Кожны квадратны мэтар гораду прасякнуты крывавай гісторыяй, якая стала часткай яго

ДНК. І гэтая гісторыя стагодзьдзямі заставалася нязьменнай. Мяняліся толькі чарговыя пакаленьні жыхароў, якія расьлі ў гэтым горадзе, дзе траўматычныя перажываньні або сталі для іх нормай, або яны пра такія рэчы ніколі ня чулі, паверыўшы, што жывуць у „Горадзе Міру“.

## Месца злачынства

— А вы паглядзіце на тры апошнія лічбы паштовага індэксу Стоўпцаў, і ўсё зразумееце, — напісаў адзін чалавек пра трагедыю ў школе.

Стаўпецкі індэкс я ведаю зь дзяцінства, і тры апошнія лічбы — 666. Маўляў, гэтая д’ябальская камбінацыя — знак, які дае зразумець, чаму ў такім невялікім гарадку так часта здараюцца драматычныя і трагічныя падзеі. Перад забойствам у школе тут воўк моцна пакусаў людзей. Пасьля забойства ў школе за горадам знайшлі павешаным маладога сьледчага. Гэта за няцэлыя два месяцы. А колькі ўсяго за шмат гадоў? А колькі нам невядома? Раней пра ўсе здарэньні, забойствы, ДТЗ і сьмерці пісала на першай старонцы раённая газэта „Прамень“. Больш ня піша.

Сустракаў я і такіх, хто ня меў сумневаў, што дзьве сьмерці і змарнаванае жыцьцё нападніка — гэта божая кара за здарэньне, якое адбылося на месцы школы № 2 у 1958 годзе.

Больш за 60 гадоў таму тут стаяў галоўны сымбаль Стоўпцаў — касьцёл сьвятога Казіміра. Яго ў 1645 годзе пабудавалі тагачасныя гаспадары




Biblioteka Narodowa

Стаўпецкі касьцёл

гораду з роду Слушкаў. Гэта была вялікая барочна-рэнэсансавая сьвятыня з багатым убраньнем усярэдзіне з гіпсу і каляровага граніту. У каменнай падлозе былі ўмураваныя 13 мармуровых надмагільных плітаў у памяць пра фундатараў касьцёла.

У 1958 годзе камуністычныя ўлады вырашылі падарваць касьцёл. Спачатку цяжкая тэхніка разбурыла вежы, а рэшту дарабіла выбухоўка.

Сярод пахаваньняў у лёхах касьцёла адно было асаблівае. Пакланяцца яму ў эпоху Рэчы Паспалітай штогод прыходзілі дзясяткі тысяч людзей.

Пра гэтага чалавека яшчэ нядаўна кожны вучань школы мог даведацца, як гэта ні дзіўна, на ўроку расейскай літаратуры. Успамін пра яго з

другой паловы XVIII стагодзьдзя пакінуў у сваіх мэмуарах літаратар Дзяніс Фанвізін.

„27-га абедалі ў мястэчку Стоўпцах, дзе ляжаць мошчы сьвятога Фабіяна, які дзівіць усю Польшчу цудатворствамі. Я хадзіў яго глядзець, і прызнаюся вам, што, не пабачыўшы сам, не паверыў бы таму, як людзі да вар'яцтва могуць быць забабоннымі. Галоўнае гэтага сьвятога ўмельства палягае ў выгнаньні чарцей з шаленцаў… Забабоны тут дайшлі да неверагоднай ступені...“, — пісаў Фанвізін.

Забабоннасьць мясцовых людзей расеец прыкмеціў дакладна. Ранкам у касьцёл ці царкву, днём да шаптухі, а ўвечары — варажыць на картах. Але ж ці толькі ў Стоўпцах так?

Фабіян насамрэч ня быў сьвятым. Але мог ім стаць, а можа некалі і стане. Гэты чалавек стагодзьдзямі быў, як бы сёньня сказалі, брэндам Стоўпцаў. Сёньня пра Фабіяна памятаюць, можа, адзінкі, таму гэтую гісторыю важна пераказаць.

Фабіян Малішэўскі нарадзіўся 9 лістапада 1583 году на тэрыторыі сучаснай Польшчы. Яшчэ перад 18-годзьдзем пайшоў у дамініканскі кляштар у Львове. Малады манах быў вельмі таленавіты, пачаў вывучаць філязофію і неўзабаве абараніў ступень бакаляўра. Выяжджаў з рознымі дамініканскімі місіямі ў Ватыкан і Лісабон. А ў 1621 годзе яго пасылаюць у Стоўпцы, дзе Слушкі пабудавалі дамініканскі кляштар.

Мяркуецца, што менавіта зь ім і зьвязанае будаўніцтва касьцёла. Нібыта Аляксандар і Сафія Слушкі, выбіраючы месца разам з Малішэўскім,

убачылі ўдода і ў ягоным сьпеве пачулі — „тут, тут“. У гэтым месцы яны і вырашылі будаваць сьвятыню.

Энэргічны манах аказаўся вельмі пасьпяховым мэнэджэрам. Ужо праз пару гадоў пасьля ягонага прыезду ў Стоўпцы Рым павысіў ягоны статус, а ў кляштары было ўжо 12 манахаў. Але ў 1628 годзе Фабіян зь невядомай прычыны просіць вызваліць яго з пасады прыёра і зьяжджае на 15 гадоў.

Калі Малішэўскі вярнуўся ў Стоўпцы, касьцёл Сьвятога Казіміра ўсё яшчэ будаваўся. Паводле легенды, калі манах прыехаў і стаў перад касьцёлам, ён працытаваў псальму (132.14):

„Вось месца Майго супакою навекі: тут буду жыць, бо яго ўпадабаў“.

Праз паўгода манах памёр. Але сьмерць стала насамрэч толькі пачаткам ягонай гісторыі, якая разгортвалася наступныя амаль 300 гадоў.

Да труны Малішэўскага пачаліся паломніцтвы. Сучасьнікі сьцьвярджалі, што пасьля малітваў аб заступніцтве да Фабіяна зь імі здараліся цуды.

У 1740 годзе віленскі біскуп Міхал Зяньковіч пастанаўляе перанесьці труну Малішэўскага ў склеп фундатараў касьцёла. Труну манаха вырашылі павесіць над зямлёй. Калі яе адчынілі, каб зрабіць неабходныя працы, прысутныя ўразіліся, што цела за 100 гадоў амаль не сапсавалася.

Празь некалькі гадоў менскі соймік прымае рашэньне распачаць бэатыфікацыйны працэс, каб абвясьціць Фабіяна Малішэўскага Слугою Божым. Гэта першы крок да прызнаньня сьвя-



Партрэт з кнігі: A. Фабіян Малішэўскі з Пшэмысьля: дамініканін, які памёр са славай сьвятасьці ў Стоўпцах (1583–1644). — Львоў, 1936

тасьці. Пачынаюць запісваць цуды. Каталіцкі касьцёл зафіксаваў іх 150.

Паломнікамі да труны былі ня толькі рыма-каталікі, але і ўніяты, праваслаўныя, нават юдэі. У Стоўпцы прыходзілі масавыя пілігрымкі. Наплыў людзей быў такі вялікі, што бацькі, здаралася, гублялі там сваіх дзяцей.

Вось некалькі гісторый, зьвязаных з цудамі. У 1742 годзе, у сьвята Бязгрэшнага Зачацьця Дзевы Марыі, уніят Васіль Крыванос залез на дрэва сячы гольле. Зваліўшыся, ён зламаў дзьве рабрыны. По-

тым пабачыў старога ў белым габіце, які сказаў, каб Васіль не працаваў у сьвята, а таксама — каб ішоў у Стоўпцы і спытаўся пра Фабіяна. Васіль паабяцаў, што так і зробіць. Неўзабаве ён цалкам выздаравеў.

Малітва да Фабіяна вылечыла ад хваробы сям'ю менскага скарбніка Казіміра Гераніма дэ Раэ. Эпідэмія дызэнтэрыі забіла чацьвярых ягоных сваякоў і нарэшце дайшла да ўнучкі, Фэліцыі Валадкевіч. Уся сям'я паехала ў Стоўпцы, паспавядалася, памалілася каля труны Фабіяна. У зваротнай дарозе ўнучка заснула і прачнулася толькі дома, адчуўшы сябе лепш. На трэці дзень яна была зусім здаровая і сказала дзеду: „Дзядуля, не турбуйся, Фабіян сказаў, што я буду жыць“. Пасьля гэтага выздаравеў і ўвесь двор.

У 1747 годзе ў Стоўпцах пабывала Тэафілія Таўш з Кракава, якая, як сьведчаць запісы, цярпела ад дэмана ў сваім целе. У сьне яна пачула, што ёй трэба ехаць у Стоўпцы. Толькі пасьля візыту да труны Фабіяна яе душа супакоілася.

За ліпень 1752 году ёсьць сьведчаньне езуіта Казіміра Цехановіча, які меў немач у назе. Але, прыехаўшы і памаліўшыся каля труны Фабіяна, ён цалкам выздаравеў. Пра цуды, якія адбыліся дзякуючы манаху Фабіяну, ёсьць сьведчаньні славутых родаў Булгакаў, Прушынскіх, Багуслаўскіх, Цехановічаў, Ажэшкаў, Корсакаў і іншых.

Найбольшыя паломніцтвы прыходзілі ў горад 22 ліпеня, у сьвята Марыі Магдалены. У труне Фабіяна ў гэты дзень зьмянялі габіт. Стары раскройвалі на кавалкі і давалі вернікам.

Але ў 1832 годзе, пасьля Лістападаўскага паўстаньня, царскія ўлады зачыняюць кляштар. А праз 30 гадоў, пасьля паўстаньня Каліноўскага, зачыняецца і парафія. Да гэтага прычыніўся станькаўскі бацюшка Пётра Трускоўскі. Праз два гады пасьля паўстаньня ён напісаў да ўладаў, што калі культ Фабіяна будзе працягвацца, гэта створыць вялікія праблемы для праваслаўя ў краі. Бацюшка прасіў пахаваць парэшткі Малішэўскага і закрыць парафію ў Стоўпцах. Свайго ён дамогся. У 1867 годзе труну Малішэўскага засыпалі пяском. А касьцёл зачынілі і ператварылі ў праваслаўную царкву.

Але памяць пра манаха Фабіяна жыла. І калі праз 50 гадоў пасьля паўстаньня Стоўпцы апынуліся ў складзе Польшчы, культ імгненна адрадзіўся. Ужо ў 1921 годзе група сьвятароў на чале з ксяндзом Мілашэўскім пачала шукаць яго парэшткі. Справа была ня зь лёгкіх. Расейцы не інфар-



Цяпер на месцы касьцёла футбольнае поле школы № 2

мавалі пра месца пахаваньня Малішэўскага. Але сьведкам пахаваньня быў адзін мясцовы габрэй, які дзіцём бачыў праз акно, дзе расейцы хавалі труну. Яе, нібыта, закапалі пад крыптай у капліцы сьвятога Даметка. Пачалі шукаць, але, наткнуўшыся на вялізныя валуны, працы спынілі. Праз год пошук аднавіўся. Капаць пачалі побач. Валуны нарэшце ўдалося прыбраць, і пад тоўстым слоем пяску былі выяўленыя дзьве труны, адна ў адной. Гэта сталася 1 сьнежня 1922 году.

Труна была моцна пашкоджаная, але цела не пацярпела. Да самага разбурэньня сьвятыні ў 1958 годзе труна заставалася ў яе сутарэньнях. І сёньня яна там жа, пад грузам камянёў і пяску, на якіх стаіць школа № 2. Гэта не легенда, а гістарычны факт.

Праз шэсьць дзён пасьля забойства ў школе дырэкцыя запрасіла туды мясцовых сьвятароў, каталіцкага і праваслаўнага, каб яны асьвяцілі гэтае месца.

## Дзьве школы № 2

Пасьля словаў Лукашэнкі, што прычына стаўпецкай трагедыі ў бардаку ў беларускай школе, было зразумела, што праверак у школе № 2 мала ня будзе. Так і сталася.

— Міліцыя пару месяцаў адтуль не вылазіць, — кажа мне супрацоўнік школы.

Па выніках 5-месячнага сьледзтва ў школе, нібыта, былі выяўленыя „недахопы ў прафіляк-



тычнай працы“. У ляканічным прэс-рэлізе Сьледчага камітэту адзначалася, што „сьледчымі на адрас Менскага абласнога выканаўчага камітэту ўнесена прадстаўленьне аб ліквідацыі прычын і ўмоў, якія спрыялі ўчыненьню злачынстваў“. Быў, нібыта, прыняты і „комплекс мер па павышэньні ўзроўню грамадзкай бясьпекі ў навучальных установах вобласьці“. Што канкрэтна маецца на ўвазе, ніхто не патлумачыў.

У Стоўпцах тры школы, і ў кожнай ёсьць свая рэпутацыя. У школы № 2 іх як мінімум дзьве. Адны яе лічаць самай элітарнай, рэкардсмэнкай у алімпіядніках, дзе настаўнікі дбаюць пра кожнага. У такім духу мае суразмоўцы характарызавалі і забітую настаўніцу. Ніводзін чалавек не раскрытыкаваў яе як пэдагога.

Для іншых гэта месца, дзе вучыцца „залатая моладзь“ — дзеці начальнікаў і „буржуяў“, зь якіх настаўнікі зьдзімаюць пыл і ходзяць перад імі на дыбачках, ігнаруючы астатніх.

У горадзе кажуць, што такая рэпутацыя — гэта спадчына папярэдняга дырэктара, які перад сыходам на пэнсію хацеў пакінуць школу найлепшай у горадзе. Таму там адчыняліся адмысловыя клясы, прыцягваліся спонсары. Але гэта падабалася ня ўсім.

— Нашыя ўрокі часам ператвараліся ў праверкі сьпісаў: хто здаў на фарбу, хто здаў на шпалеры. Бацькі зьбіраліся і ішлі іх туды клеіць, — распавядае мне выпускнік 2000-х.

Дырэктар Валеры Рыжых меў шляхетную ідэю — зрабіць школу элітнай.

— У ліцэйскіх клясах былі адны хлопцы, і гэта былі дзеці бацькоў, у якіх былі грошы, або дзеці прадпрымальнікаў. Але трапляліся розныя, і самыя простыя. Падцягваліся бацькі, прывозілі ў школу розныя рэчы, станавіліся спонсарамі. То маток кабэляў, то дошкі.

Чатыры гады — з 8-й да 11-й клясы — у школе № 2 правучылася цяперашняя праваабаронца Тацяна Гацура-Яворская. Яна прыехала вучыцца туды зь вясковай школы, гэта былі 90-я гады.

— Памятаю два першыя гады ў гэтай школе як найлепшыя школьныя, бо мы не былі разьбітыя на дробныя кампаніі, сябравалі ўсёй клясай, з задавальненьнем рыхтавалі вечарыны, заўсёды і шмат сьмяяліся, а клясная кіраўніца была прыгожая і добрая. І з адной і з другой кляснымі кіраўніцамі мы ў кантакце да гэтых часоў, і я вельмі ўдзячная ім за важнае адчуваньне ў падлеткавым узросьце — мы з табой, а ня супраць цябе.



Архіў Тацьцяны Гацуры-Яворскай

Тацяна Гацура-Яворская

Пасьля дзявятай клясы дзьве паралелі рассартавалі на тры, набраўшы яшчэ ахвочых у так званую пэдклясу, і гэтая атмасфэра памянялася, узгадвае Тацяна. Новыя людзі ўносілі свае правілы і падыходы, і такія блізкія і сяброўскія адносіны ўжо не атрымалася аднавіць. Сярод кепскіх школьных успамінаў — двое настаўнікаў.

— Яны выклікалі ў мяне агіду. Адна настаўніца выкладала ў 8-9-й клясах белмову і літаратуру. У яе былі „любімчыкі“ і „нелюбімчыкі“. Магла падняць адказваць „нелюбімчыкаў“ і дакалупвала пытаньнямі, пакуль вучань не пачынаў адказваць няправільна, пасьля гэтага яна расказвала ўсёй клясе, які ён тупы.

А другая асоба — гэта дырэктар Рыжых. У якой-небудзь штатаўскай ці эўрапейскай школе яго б звольнілі і прымусілі хадзіць да псыхоляга. Кожны ўрок — сэксісцкія жарты, абразы, намёкі.

Напрыклад, дзяўчына каля дошкі пакажа рэчку ў адваротны бок ад плыні, ад мора ў бок мацерыка, і пачынаецца „выпраўленьне памылак“ ад Рыжых — ну раскажы, як ты сёньня апраналася? Спачатку ты надзела боты, пасьля панчохі, а што пасьля панчохаў надзела? Прычым чапляўся ён толькі да дзяўчат, ня памятаю, каб да хлапцоў. Ну і ўвогуле, па сутнасьці сваёй быў і застаўся прыслужнікам. Калі Лёшу Шыдлоўскага арыштавалі і знайшлі ў яго мае кантакты, мяне выклікалі на допыты летам, а ўвосень Рыжых ужо выклікаў у школу маю маці і пясочыў, што я нікуды не паступлю, што да яго прыходзілі з КДБ і г. д. Мяне на калідоры калі сустракаў, адразу пачынаў прэсаваць пра „бнф“. Здаецца, 15 гадоў майго выпуску з другой школы супалі зь нейкім выпускам з гэтай школы былога ўжо міністра ўнутраных справаў Навумава, і ён прыехаў туды як ганаровы госьць — вось ужо Рыжых сьвяціўся, — завяршае свае ўспаміны Тацяна.

Пра „элітарную“ рэпутацыю школы № 2 мне найбольш казалі тыя, хто прычынай забойства лічыць розьніцу вучняў у матэрыяльным дабрабыце. Але тое, што Вадзім М. і Аляксандар Раманаў не былі нават знаёмыя (пра што казаў і сам забойца) і ніхто ня бачыў, каб яны хоць раз калісьці размаўлялі, нікога не цікавала. Не дапамагаў і аргумэнт, што бацькі Вадзіма М. працуюць, маюць свой аўтамабіль, разбудоўваюць дом, у якім ён меў уласны пакой, смартфон, кампутар.

Спадарыня Тамара, дзеці якой ходзяць у школу № 2, катэгарычна не пагаджаецца з крытычнымі



ацэнкамі школы. Яна перакананая, што школа № 2 — найлепшая ў Стоўпцах, і адносіны настаўнікаў да дзяцей называе вельмі адказнымі.

— Там вельмі разумная дырэктарка. Яны працавалі ўсе гуртам, я на ўласныя вочы гэта бачыла. І сацыяльная служба ў іх, там былі бясконцыя бацькоўскія сходы, запрашалі прадстаўнікоў МНС. Там рабілася ўсё, што толькі можна. Што там яшчэ можна было рабіць? Каб міліцыя даглядала дзяцей? Гэта нерэальна — кожнага глядзець без канца. Гэта ж не канцлягер. Вельмі талковая школа. Там і псыхоляг харошы. Але за ўсім нельга ўгледзець.

Аднак гэта меркаваньне меншасьці. Калі я задаваў знаёмым і незнаёмым пытаньні пра школу № 2, першай часткай адказу заўсёды была ўзгадка пра „школу для багацеяў і мажораў“.

— Яны там робяць што хочуць. Адзін сын такога паўбога ўзяў і н..цаў у вядро пры ўсіх, іншы паскідаў вазоны з падваконьня. Дзецям там дуюць у сраку. А тых, што зь бяднейшых сем'яў, ігнаруюць. Я не аднойчы чула ад дзяцей, што настаўнікам там да аднаго месца на вучняў.

Відавочна, што падобнае можна пачуць пра любую школу і дзе заўгодна. Але ў Стоўпцах я чуў такія гісторыі толькі пра школу № 2.

— Калі такое здарэньне і можна было б уявіць у страшным сьне, дык толькі ў той 10-й клясе, дзе вучыўся Вадзім. Там вучацца адны бандыты, — кажа выпускнік школы № 2, знаёмы з бацькамі дзяцей. Але расказаць падрабязнасьці ён адмаўляецца, як і многія іншыя.

Пазыцыю школы я хацеў пачуць ад яе дырэктаркі Аксаны Міхайлаўны Лось. Але на просьбу наконт інтэрвію яна не адказала. Праз два месяцы пасьля маёй просьбы яна звольнілася. І мала хто верыць, што па ўласным жаданьні.

## Альтэрнатыўныя вэрсіі

Чым больш на дзяржаўных тэлеканалах паказвалі ўсьмешкі, радасьць і забавы ўдзельнікаў „Менскай лыжні“ (замест інфармацыі пра падзеі ў Стоўпцах і круглых сталоў псыхолягаў, міліцыі, грамадзкіх аўтарытэтаў), тым больш у горадзе зьяўлялася плётак.

Нават у стаўпецкай раёнцы „Прамень“ адразу пасьля трагедыі не знайшлося месца на першай

старонцы, каб узгадаць ахвяраў. Пра забойства, якое некалькі дзён абмяркоўвала ўся краіна, пісалі на пятай паласе.

А людзі тым часам здарэньне абмяркоўвалі і шукалі адказы на пытаньні, спрабавалі зразумець прычыны. Але зьверху ім настойліва раілі акунуцца ў сьвет беларускага спакою і ідыліі, не зьвяртаць увагі на праблемы, ня плакаць, а проста маўчаць. Начальства разьбярэцца, яму відней.

Даваць камэнтары журналістам адмаўляліся ня толькі ў дырэкцыі школы, а нават дворнікі. Дзеці са школы № 2 не жадалі гаварыць пра тую раніцу і расказваць свае вэрсіі прычын забойства. Сьледчы камітэт адразу абвясьціў, што інфармацыя наконт трагедыі будзе мінімальнай.

Гэтую пустку імгненна запоўнілі альтэрнатыўныя дапушчэньні.



Па горадзе іх круцілася поўна. Інфармацыя Сьледчага камітэту многім і не была патрэбная ўвогуле. Пра плёткі ня трэба было распытваць. Людзі самі пра іх загаворвалі — магчыма, чакаючы рэакцыі, пацьвярджэньня.

— А вы глядзелі эстонскі фільм „Кляса“? Пра хлопчыка, які расстраляў вучняў у школе? Таксама ж харошы быў, спакойны. Давялі. Так і тут.

Іншыя казалі пра таямнічае здарэньне ў школе, ці то ў пятніцу, ці то ў суботу. Што гэта было на ўроку фізкультуры, потым у падвале, дзе быў аб'яднаны ўрок 10-й і 11-й клясаў. Гаварылі і пра акунаньне Вадзіма ва ўнітаз. Быццам бы ў пятніцу нехта бачыў у акне на трэцім паверсе аднаго з вучняў, які стаяў на падваконьні пры адчыненым акне. Дэталі, імёны, канкрэтны час даведацца было немагчыма.

У суботу ў школе і сапраўды адбываюцца розныя факультатывы, спартовыя заняткі. Але ўсе гэтыя вэрсіі я чуў то з другіх, то з трэціх вуснаў. Ніхто ня мог назваць асобу, якая была б сьведкам гэтага здарэньня. Усе раілі проста шукаць, але і падказаць, адкуль даведаліся самі, не маглі.

Спачатку сьцьвярджалася, што паміж Раманавым і Вадзімам М. быў канфлікт. Потым высьветлілася, што Сашы Раманава ўвогуле не было ў горадзе апошнія дні перад забойствам, ён быў у Менску.

Пошукі прывялі мяне да аднаго з аднакласьнікаў Сашы Раманава. Я хацеў зразумець, ці магла быць прычынай нападу няпрыязь паміж хлопцамі.

— Адкрытых адносін або нейкага канфлікту паміж імі не было ў нас на вачах, і мы нават ня ведалі, што яны могуць быць знаёмыя. Але, мяркуючы па ягоных дзеяньнях і па тым, што ён нікога з тых, хто быў бліжэй, не крануў, то, мабыць, Саша быў абраны невыпадкова. Але, зноў жа, усё растлумачаць толькі паказаньні Вадзіма, калі яны будуць апублікаваныя Сьледчым камітэтам, — кажа хлапец.

Пасьля месяца пад наглядам лекараў Вадзіма прызналі здаровым. Падчас допытаў ён патлумачыў, што настаўніцу Марыну Пархімовіч забіў сьвядома, а вось пра Сашу ня змог адказаць. Быццам бы нават ня памятае, як гэта было.

На допыце Вадзім казаў, што ня быў знаёмы з Сашам. Тое самае кажуць аднаклясьнікі і бацькі абодвух хлопцаў.



— Я вас прашу, — цмокае жанчына, сын якой ходзіць у школу № 2. — Як гэта быць у адной школе і ня быць знаёмымі? Яны ж вучыліся на адным паверсе. Можа не сябравалі, але яны ж ведалі пра існаваньне адзін аднаго.

Чуткі пра канфлікт ніхто не пацьвердзіў і праз паўгода пасьля забойства. Але ў Стоўпцах гэта самая папулярная вэрсія.

— Яго ж выбавілі ў нядзелю з дому. Кажуць, зьдзекаваліся зь яго, — сказала мне адна жанчына ў сьлязах.

Хто выбавіў і пры чым тут Саша Раманаў, якога не было ў Стоўпцах у тыя дні і які нават ня быў з Вадзімам знаёмы, ніхто казаць ня хоча. Канцоў у гэтай плётці, як і ў кожнай, ня знойдзеш.

Аднаклясьнік Сашы казаў мне, што той ня мог удзельнічаць у нечым падобным.

— Усе тыя чуткі пра выбаўленьне не падобныя да паводзін Сашы, гэта занадта нізкія меры і спосабы вырашэньня праблемы для яго. Заўсёды і ўсе пытаньні ён вырашаў шляхам абмеркаваньня і высьвятленьня прычын, падстаў іварыянтаў выхаду з праблемы, без прамых абразаў. Ён мог „абсекчы“ чалавека рэзка толькі тады, калі той пераходзіў рамкі дазволенага ў зносінах, і то заўсёды гэта рабіў тактоўна. А размовы пра „царкоў“ ідуць ад зайздрасьці. Я думаю, вам вядома, што ў Сашы забясьпечаная сям’я, а людзі, зыходзячы з гэтага і ня ведаючы чалавека асабіста, робяць нейкія высновы па сытуацыі. Калі б нейкі чалавек пагутарыў зь ім, ня маючы ўяўленьня пра нейкія там грошы бацькоў, дык ён бы ўбачыў адукава-

нага хлопца, які свабодна мог размаўляць на розных мовах і падтрымліваць большасьць тэмаў, і не зьявілася б ані найменшага адчуваньня, што гэты хлопец, як нехта казаў, „царок“. У ім не было гэтай ноткі, што ён лепшы і вышэйшы за некага.

Ужо ў першы дзень прычынай забойства часьцей за ўсё ў горадзе называлі канфлікт вакол алімпіяды па гісторыі. Маўляў, Марына Пархімовіч выбрала на спаборніцтва Сашу, а не Вадзіма, а таму апошні быў на яе вельмі злы. Але ў школе мне патлумачылі, што школьнікі з розных клясаў проста ня могуць быць канкурэнтамі. Зрэшты, алімпіяднікаў заўсёды шмат.

Потым са мною кантактавалі людзі, якія сьцьвярджалі, што Марына Пархімовіч была супраць, каб Вадзім ехаў на алімпіяду па хіміі, і менавіта гэта яго раззлавала. Якое дачыненьне настаўніца гісторыі мае да хіміі і вучня з клясы, дзе яна не была клясным кіраўніком, таксама ніхто ня можа патлумачыць. Зрэшты, апошнія два гады ў Вадзіма сапсавалася вучоба. А ў алімпіядах, як бачна з архіву на школьным сайце, ён увогуле ня ўдзельнічаў. Але найбольш зьдзіўляе нават не адсутнасьць лёгікі ў гэтых „вэрсіях“. Найбольш зьдзіўляе, што для многіх у Стоўпцах адмова дапусьціць вучня да алімпіяды можа **быць** дастатковай прычынай для забойства.

Калі гэтая чутка адпала, у горадзе пачалі распавядаць, што Марына Пархімовіч праігнаравала просьбу Вадзіма памагчы абараніцца ад зьдзекаў з боку іншых вучняў. Нябожчыцы нават прыпісваюць словы „Ідзі і качайся“.

Былы вучань Марыны Пархімовіч са школы № 2 кажа, што нават калі дапусьціць, што такая размова была, гэтая настаўніца проста не магла б адмовіць у дапамозе.

— Марына Міхайлаўна не магла б калі-небудзь на нечую просьбу адмахнуцца. Поўная лухта. Гэта выдатная настаўніца, якая асабіста рыхтавала мяне да алімпіядаў, яна абсалютна заўсёды дапамагала і падтрымлівала, перажываючы за мяне, у прыватнасьці, за Сашу і іншых вучняў, магчыма, больш, чым яны самі за сябе. Яна была блізкая абсалютна да ўсіх, дапамагала ўсім, і асабліва тады, калі ў чалавека было ўласнае жаданьне.

Але Вадзім сапраўды быў ахвярай цкаваньня. Толькі Саша Раманаў тут ні пры чым. Гэта адбылося некалькі гадоў таму. Пра адзін з такіх выпадкаў, у 8-й клясе, расказаў публічна бацька. Тады аднаклясьнікі пабілі Вадзіма ў прыбіральні. Ад блізкіх да яго людзей вядома, што падобныя здарэньні былі і пасьля. Сам бацька ў інтэрвію згадваў, што ў клясе ёсьць „пара прахадзімцаў“. Спачатку паведамлялася, што ў нядзелю, за дзень перад забойствам, Вадзім не выходзіў з дому. Але праз некалькі тыдняў выявілася, што гэта ня так. Віталь М. пацьвердзіў, што сын недзе ўсё ж хадзіў. І вярнуўся зь сіняком каля вока. Але сын нібыта яго супакоіў, што гэта проста прышч, які зьмяніў колер на сіні, калі Вадзім на яго націснуў.

— Шукайце, можа нехта з бацькоў яго аднаклясьнікаў раскажа. Калі ня хочуць браць грэх на душу, калі ў іх ёсьць сумленьне, то раскажуць, — кажа мне жанчына пасьля пахаваньня настаўні-

цы. Яна перакананая, што Вадзіма ў школе зацкавалі і таму ён пайшоў на такі адчайны крок.

Яна ня ведае, хто мне можа дапамагчы. І я ня ведаю. Я шукаў гэтых людзей паўгода і не знайшоў.

## Ганна Арэнт і праведнікі

Ганна Арэнт ня мела сумневу, што ва ўмовах тэрору большасьць людзей заўсёды прымуць правілы гульні. Але знойдуцца такія, хто гэтага ня зробіць.

У сваёй кнізе Арэнт прыводзіць гісторыю, якую рэкамэндуе ў якасьці абавязковага чытаньня студэнтам курсу паліталёгіі, якія хацелі б зразумець гіганцкую патэнцыйную сілу, схаваную ў негвалтоўным дзеяньні і супраціве ворагу, які валодае ў разы большымі сродкамі гвалту. Гэтая гісторыя паказвае, як грамадзтва можа супрацьстаяць спробе накінуць яму правілы зла, каб яны ня сталі нормай.

У акупаванай нацыстамі Эўропе быў адзін прыклад, калі дзяржава адкрыта адмовілася выконваць загады Гітлера без аніякіх наступстваў — гэта Данія. Калі немцы зьвярнуліся да датчанаў, каб увесьці жоўтыя нашыўкі для габрэяў, тыя ім адказалі, што першым гэта зробяць кароль і ўвесь урад краіны. Немцаў папярэдзілі, што ў выпадку хоць якіх антыгабрэйскіх акцыяў чыноўнікі Даніі пададуць у адстаўку. Да вайны ў краіне не было

ўплывовых нацысцкіх арганізацыяў, таму немцы ня мелі дапамогі сярод мясцовых.

Калі ў датчанаў запатрабавалі выдаць габрэяў, тыя зноў адмовіліся. Гэта выглядае як фільм Квэнтына Тарантына. Але калі немцы паспрабавалі самі арыштоўваць габрэяў, тыя ім проста не адчынялі, габрэі казалі, што ў Даніі няма закону, паводле якога яны маюць пакідаць сваю краіну, і палохалі немцаў, што выклічуць дацкую паліцыю. І гэта спрацоўвала.

У іншых краінах габрэі былі вымушаныя самі плаціць нават за свой квіток у Аўшвіц. Калі габрэяў пачалі эвакуаваць з Даніі ў Швэцыю, усе выдаткі пакрылі багатыя датчане.

Што здарылася ў Даніі? Датчане проста паказалі немцам, што аніводзін чалавек ня выканае злачынны загад. І ў выніку магутная нацысцкая машына там зламалася, бо ня мела нічога, каб запярэчыць, яна проста прыняла гэтую пазыцыю.

У кнізе „Банальнасьць зла“ Арэнт жорстка ацэньвае натоўп. Бо менавіта тыя, хто паддаўся ўсеагульнай эўфарыі, статкавым пачуцьцям і не зьвяртаюць увагі на злачынствы і несправядлівасьць, апраўдваюць іх, становяцца іх саўдзельнікамі.

Арэнт робіць выснову, што самы эфэктыўны спосаб змаганьня са злом — гэта крытычна думаць і заўсёды ставіць пытаньні сабе і іншым.

## За што Каін забіў Абэля

„Тры пакаленьні атэізацыі не прайшлі дарма. У выніку гэтага працэсу чалавек адарваўся ад каранёў духоўнага жыцьця — Эвангельля і вучэньня Касьцёла“, — напісаў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у сваім звароце з нагоды трагедыі, якая 11 лютага адбылася ў Стоўпцах.

Са стаўпецкім ксяндзом Ігарам Лашуком мы сустрэліся каля невялікай цаглянай капліцы, пабудаванай на пачатку 1990-х. Побач зь ёй — будоўля, якая ў будучыні мае стаць паўнавартасным касьцёлам.

За 30 гадоў незалежнай Беларусі касьцёлы пабудавалі нават у вёсках, дзе жыве некалькі сотняў чалавек, а Стоўпцы ніяк не дадуць рады. Раней гэтаму заміналі камуністы.

Перад айцом Лашуком тут зьмяніўся не адзін сьвятар, некаторыя сыходзілі са скандалам і без дабудаванага касьцёла. Выправіць сытуацыю мае ксёндз Ігар.

Калі адбылося забойства, ён служыў у горадзе ўсяго тры месяцы. Але зразумець сутнасьць адносін у Стоўпцах, пазнаёміцца зь людзьмі і начальствам пасьпеў добра. Гаваркі і дзелавы, як кажуць ягоныя парафіяне.

— Вядома, я быў у школе, пасьвяціў месца сьвятой вадой. Нас з бацюшкам запрасіла дырэктарка. Можа, нешта і памяняецца. Але важна, каб памянялася нешта ў галовах, — кажа сьвятар. — Стоўпцы цяпер у такім стане, што людзі ня могуць зразумець, што, дзе і калі. У мяне ўво-


кс. Ігар Лашук

На будоўлі стаўпецкага касьцёла

гуле такое пачуцьцё, што сьпее сытуацыя, ня дай Божа, нейкага выбуху. Ня толькі ў Стоўпцах, але і ва ўсёй Беларусі. Ідзе такі, ведаеце, нейкі прэсінг, невядома адкуль. Такое пачуцьцё, што на нас ціснуць, ціснуць, а мы згінаемся, згінаемся, як тая спружына. А чыноўнікі, калі казаць вобразна, займаюцца невядома чым. Вырашаюць, колькі расьці дрэву: 10 сантымэтраў ці 5 сантымэтраў за год. Альбо, напрыклад, думаюць, як адрадзіць сяло. Дайце людзям зямлю, гэта ж нават Ленін казаў, і гэтыя вёскі самі адродзяцца. У Стоўпцах народ займаецца ў асноўным „купі-прадай“. Вытворчасьці амаль што ніякай. Гэты Менскі маторны завод на ладан дыхае. Такое пачуцьцё, што ва ўсёй Беларусі наступіў шэры дзень. Ёсьць пачуцьцё магутнай дэпрэсіі. Агульнанароднай

дэпрэсіі. Гэтая дэпрэсія ў нейкім сэнсе выліваецца ў агрэсію. І вось тут таксама, відаць, вылілася гэтая дэпрэсія. Гэта пачуцьцё стану, калі ад цябе вечна нешта патрабуюць, дамагаюцца нейкіх вынікаў. Ты выкладваесься, прадукт працы ёсьць, нібыта ўсё рухаецца наперад, а „воз и ныне там“.

Ксяндзу Ігару ёсьць з чым параўноўваць. Ён служыў і ў вялізным Менску, і ў меншай Лідзе, і ў вёсцы пад Валожынам. Як збудаваная сыстэма, ён добра ведае і адчувае.

— Усюды ты павінен быць найлепшым, паўсюль мець першае месца. Як быццам тут спаборніцтва нейкіх камуністычных ударнікаў. Але паглядзіце, колькі некалі ні ціснулі рабоў, а паўстаньне Спартака адбылося. Як у нас тут ні было цяжка жыць пры цару, але ў 1863 годзе народ усё роўна паўстаў. І ў 1917 годзе ўсё вынікала з дэпрэсіі. Цар, зь якога сёньня хочуць зрабіць ледзь не сьвятога, жыў у сваім сьвеце. А народ жыў у сваім сьвеце. Выжываў. Нешта такое адбываецца і сёньня. Нехта жыве ў сваім сьвеце, і пляваць яму на тых, хто выжывае ў гэтым сьвеце. Гэтая несправядлівасьць адчуваецца тут вельмі моцна. У кожным мястэчку адчуваецца несправядлівасьць. Мы цяпер гаворым пра Стоўпцы, але так жывуць ва ўсіх раённых гарадах. Гэтая глябальная зьява, якая прыйшла ў Стоўпцы, магла здарыцца ў кожным горадзе, але здарылася тут. І гэта дало магчымасьць трохі задумацца — пра грамадзтва, у якім мы жывём.

У размовах са мною людзі шчырыя, — працягвае ксёндз. — Адны паказваюць пальцам на



Ксёндз і поп у дзень пахаваньня

інтэрнэт і кажуць, што гэта ён вінаваты. Але гэта прасьцей за ўсё — скінуць усю віну на яго. У інтэрнэце сапраўды могуць навучыць усяму: і добраму, і дрэннаму. У Сьвятым Пісаньні апісваецца, як Пан Бог пасадзіў дрэва пазнаньня дабра і зла. Дык вось гэтае дрэва — гэта інтэрнэт. Ты працягваеш руку і бярэш адтуль тое, што захочаш. А калі мы не разьбіраемся, дык бяром толькі тое, што блішчыць. Гэтаксама блішчаць казіно, якія зазабліваюць чалавека. Ён туды заходзіць у портках, а выходзіць без. Бо ад бляску цямнее ў вачах — і нічога не засталося ў кішэні. Таму Стоўпцы — гэта як і любы заходнебеларускі горад. Чаму я падкрэсьліваю, што заходнебеларускі? Бо на ўсходзе, мне падаецца, яшчэ горш. Адбылося тут. Выйшла, як маланка сярод яснага

неба. У Стоўпцах выбухнуў нарыў, якімі пакрыта ўсё цела Беларусі, — кажа айцец Ігар.

Правакую сьвятара пытаньнем пра ягоную ўласную працу. Ці знайшоў бы сёньня Хрыстос веру, калі б трапіў у „Горад Міру“, „ціхі і спакойны“, дзе „ніколі нічога не адбываецца“?

— Маску веры знайшоў бы, у касьцёле ці ў царкве, ці ў пратэстантаў. Я чытаў выказваньне Сьвятланы Алексіевіч. Я зь ёй добра знаёмы асабіста, і мне спадабаліся яе словы пра крыніцы агрэсіі. Яна зьвярнула ўвагу на высокае начальства, якое таксама ўжывае агрэсію. У нас ёсьць такі выраз: „які поп — такі прыход“. Я з гэтым выразам жыву ўжо 25 гадоў, як да папа адношуся да сябе. Калі ты будзеш нармальны і чалавечны, то і прыход твой будзе нармальны і чалавечны. А калі ты будзеш паўдуркам, то ўсе навокал будуць паўдуркамі. Гэта ўсё ідзе як зараза. Які кіраўнік — такія і падначаленыя.

Пярэчу ксяндзу Ігару, што гэта вельмі зручная адгаворка — усю адказнасьць ускласьці на начальства. Кожны ж чалавек мае свой розум і жыве паводле ўласнага сумленьня. Хоць мы і звыкліся з вобразам саміх сябе як рахманых, памяркоўных і спакойных людзей, якія любяць мір.

— Гэта ўсё кажа тэлевізар. Паўтару тысячу разоў — гэта тэлевізар. Нашыя людзі такія, як і ўсе людзі на сьвеце. Дай ім зброю — забіваюць. А іх замбуюць — „будзьце спакойныя, памяркоўныя“, „вайны ня будзе“, „галоўнае, каб не было вайны“. Вайна — гэта ня толькі бомбы. За вечар да гэтай падзеі я меў казаньне. Вы думаеце, я сказаў на

казаньні, што ў нас няма вайны? У нас даўно ідзе вайна. Паглядзіце, якая вайна ідзе праз інтэрнэт. А колькі вайны ў адносінах проста паміж людзьмі!

Пытаюся: якія высновы з трагедыі зробяць людзі, ці зьменіцца нешта ў ціхім горадзе пасьля забойства?

— Калі я вучыўся ў БДУ на факультэце журналістыкі, у нас казалі, што навіна жыве 48 гадзін. Заўтра пра гэта ўсе забудуцца. Калі СМІ ня будуць пра гэта пісаць, то праз тры дні жыцьцё вернецца на той самы шлях, па якім яно ішло да гэтага. Гэтак было і будзе. Ад часоў Каіна. Чалавек ня можа зьмяніць сьвет. Сьвет зьмяніў першародны грэх, а асабліва ад хвіліны, калі Каін забіў Абэля. У кожным забойстве, калі яно не ад вар'ята ці няшчаснае здарэньне, ёсьць забойства Абэля. А чаму яго забіў Каін? З зайздрасьці, што ў Абэля ўсё атрымлівалася лепш. А чаму адбылося забойства ў Стоўпцах? А можа таксама з зайздрасьці. Што адзін багацейшы, а я бяднейшы, альбо яго больш хвалілі і заўважалі, а мяне менш. Я перакананы, што ўсё адбылося з зайздрасьці. Зрэшты, ад зайздрасьці, я лічу, ідуць самыя вялікія праблемы.

У нас у Беларусі вельмі шмат зайздрасьлівых людзей. Гэта вы кажаце, што яны памяркоўныя. Дай сёньня беларусам трохі анархіі, усё будзе паляць, ажно гай будзе шумець. Дай трошкі анархіі, дык ад Касьцёла застануцца толькі рожкі і ножкі. Хто ў нас разьбіраў замкі, касьцёлы і ўсё іншае?

Як няма гаспадара, усё разьбіралі. Можа памыляюся, дай Божа.

І гэта вельмі цяжка зьмяніць. Трэба грамадзтва пераканаць у неабходнасьці зьмяніцца, і нават пачаць з малога ці зь невялікай групы. Гэта цэлая ідэалёгія, і да гэтага вельмі далікатна трэба падысьці, а то гітлерызмам ці сталінізмам закончыцца. Мяркую, што трэба нанава адкрыць грамадзтву хрысьціянскія каштоўнасьці, нацыянальныя, на аснове беларускасьці, мовы і культуры. Напрыклад, немагчыма выхаваць беларуса як патрыёта і добрага грамадзяніна на расейскай мове ці на польскай мове ў Беларусі.

Трэба, каб у грамадзтве была ахвота нешта памяняць, трэба, каб зразумелі і захацелі ў першую чаргу кіраўнікі і пераканалі падначаленых, а пры гэтым далі асабісты прыклад. Гэта тычыцца як дзяржаўных, так і царкоўных структур. Мы з бацюшкам асьвяцілі тое месца. Людзі хочуць, каб яно ачысьцілася ад зла. Месца, можа, і ачысьціцца, але Хрыстос кажа: калі злы дух выходзіць з пэўнага месца або чалавека, то блукае, а затым вяртаецца, і калі бачыць, што яно вычышчана, вымецена і не занята мацнейшым, то ідзе і прыводзіць сем злых духаў, горшых за сябе, і стан чалавека становіцца горшы. Зьмена ў першую чаргу пачынаецца з нас, а не вакол нас, — кажа айцец Ігар.

Пытаюся ў сьвятара, як цяпер жыць у адным горадзе сваякам забітых і забойцы? Гэткая напружанасьць паміж імі, мабыць, ня пройдзе ніколі і будзе перадавацца іншым.



Стаўпецкі ксёндз Ігар Лашук

— Мяркую, што бацькі Вадзіма павінны выехаць з гэтага гораду. Чым далей, тым лепш. Людзі даруюць, але пры кожнай нагодзе вытыкнуць. У іх няма выхаду. Яны павінны выехаць. Гэта мінімум. Паяднаньня ня будзе. У Раманавых пастаянна будзе злосьць, яна застанецца. Патрэбны вялікі ўзаемны дар прабачэньня, які магчымы толькі тады, калі чалавек зьвязаны цесна з Божым жыцьцём.

Праблемы ня толькі трэба разумець, але нешта рабіць, каб направіць, ці каб далей падобнага, па магчымасьці, не здаралася, — падсумоўвае ксёндз Ігар. — Прычына духоўнага зла — сатана. Ён робіць усё, каб закамуфляваць сябе. Прычына зла — носьбіт зла. У людзей павінна быць павага адзін да аднаго. Хто б ты ні быў. Ці ты бедны, ці ты

багаты — ушануем адзін аднаго. Ці ты ўладны, ці падуладны — таксама. З павагай, пашанай, зь любоўю падыдзем да кожнага чалавека, і навучым гэтаму дзяцей. Зайздрасьць — прычына зла.

## „Забойца ня быў д'яблам"

На другі дзень пасьля забойства кіраўнік Беларускай праваслаўнай царквы, мітрапаліт Менскі і Заслаўскі Павел, накіраваў спачуваньне на імя старшыні Стаўпецкага райвыканкаму Дзяніса Каласеня з нагоды нападу ў школе № 2.

„З пачуцьцём глыбокага смутку і болю даведаўся пра трагедыю, якая адбылася ў сярэдняй школе № 2 Стоўпцаў, дзе ў выніку нападу зламысьніка загінулі настаўніца і адзін з вучняў, а два атрымалі раненьні. Просім перадаць шчырае спачуваньне і словы падтрымкі родным і блізкім загінулых і пацярпелых", — гаварылася ў тэлеграме.

Як адзначыў мітрапаліт, забойства нявінных людзей сьведчыць пра „глыбокае маральнае пашкоджаньне душы юнага злачынцы". Герарх выказаў спадзяваньне, што супольнымі намаганьнямі дзяржавы і грамадзтва будзе зроблена ўсё магчымае для расьсьледаваньня абставінаў надзвычайнага здарэньня і прадухіленьня падобных трагедый у будучыні.

Пасьля суду для грамадзтва так і засталося няясным, якія былі абставіны гэтай трагедыі і што ды каму неабходна рабіць для таго, каб такія



Айцец Сяргей Лепін

здарэньні больш не паўтараліся. Па тлумачэньні я зьвярнуўся да старшыні сынадальнага інфармацыйнага аддзелу Беларускай праваслаўнай царквы, айца Сяргея Лепіна.

— Яшчэ гадоў сорак-пяцьдзясят таму забойства ў беларускай школе ўявіць было проста немагчыма. Што тады было інакш?

— Агульны псыхалягічны настрой грамадзтва быў трохі іншы. І тэхнічная база была трохі іншая. Нашы ўяўленьні наогул былі абмежаваныя — як аб'ектыўна, так і суб'ектыўна. Прэса пра страшныя выпадкі лічыла за лепшае маўчаць, а людзі лічылі за лепшае думаць пра сьветлую будучыню. Жорсткасьць была і тады, але выяўляла яна сябе інакш. Узгадайце, хаця б, гэтыя жудасныя бойкі „сьценка на сьценку". Пры тым мілы нам спакой у рамках натуральнага хвалевага перападу гісторыі ці не прыйшоў на зьмену больш страшнаму часу, чым той, у якім мы жывем цяпер: рэвалюцыя, бандытызм, рэпрэсіі, вайна?

— Што і як зьмянілася за апошні час, што мы часьцей чуем пра падобныя выпадкі? Казакевіч з бэнзапілой у гандлёвым цэнтры, гісторыя Даната Скакуна, цяпер Стоўпцы.

— Звар'яцелага хлопчыка з бэнзапілой цяжка было ўявіць, згодны. А як наконт таварыша з рэвальвэрам у лубянскіх сутарэньнях, напрыклад? Мяркую, што сёньня мы так часта чуем пра такія сумныя выпадкі ня толькі таму, што яны часьцей адбываюцца, але і таму, што пра іх часьцей і больш маляўніча пішуць. Смакуюць. Ведаеце, у мяне ёсьць знаёмы музыка, які распавядаў, як за часам, калі ён яшчэ не зьвярнуўся да Бога, ён граў у жалобным аркестры. Ён казаў, што музыкі ведалі, як і ў які момант зрабіць належны акцэнт на патрэбнай ноце, каб у людзей пачалася гістэрыка. Я вельмі добра бачу падобнае і ў дзейнасьці музыкаў ад СМІ.

Людзі робяцца далейшымі адзін ад аднаго, больш чужымі, але разам з тым іх расьсяленьне робіцца больш шчыльным — няхай і не заўсёды ў фізычным, а ў эмацыйным сэнсе. Сёньня ў мэгаполісе прасьцей адчуць сваю адзіноту, а ў глухамані — што табе не хапае месца ў гэтым сьвеце. Вельмі моцна зьмянілася матэрыяльна-тэхнічная база грамадзтва. Яе разьвіцьцё нейкім гранічным чынам упіраецца ў магчымасьці разьвіцьця чалавечнасьці. Сьвет губляе сваю людзкасьць. Тэхналёгіі і гаджэтызацыя робяцца самамэтай — напэўна, гэта адзінае, што мы сёньня можам разьвіваць. Больш нічога. Хочаш нешта зьмяніць у жыцьці? Купі новы тэлефон!..

Ну і плюс гэты шквал інфармацыі. Вось, калі няправільна разьлічыць фізычныя парамэтры электраправодкі, то яна пачне плавіцца і загарыцца… Мяркую, што сёньня інфармацыйны ціск выйшаў за межы антрапасуразьмернасьці, і гэта не прадвяшчае нічога добрага: ці інфляцыя сэнсаў, якая прыводзіць да паталягічнай абыякавасьці і раўнадушша ў грамадзтве, ці зрыў у самых розных сцэнарах.

Напрыклад, у Сярэднявеччы дзеля таго, каб выклікаць шокавы эфэкт у грамадзтве, нашаму ўмоўнаму маладому чалавеку ў стане псыхічнай роспачы і адчаю дастаткова было прыйсьці на плошчу і, скажам, плюнуць у абраз або зрабіць якое іншае блюзьнерства. Але сёньня гэтага ніхто не заўважыць. Паталягічнаму экстравэрту ўжо ні да каго не дакрычацца „звычайнымі“ шляхамі. Мова, на якой будуць трансьляваць сябе д’яблы разбурэньня, вызначаецца адчувальнасьцю культурнага асяродзьдзя. А са слыхам і чуласьцю ў грамадзтве, як я казаў, ёсьць праблемы. Таму псыхапату нават проста суіцыду ці сэлфхарму можа быць недастаткова. Яму можа здацца, што патрэбны пашыраны суіцыд — у прамым ці ўскосным сэнсе. Герастратам сучаснасьці без бэнзапілы ўжо ніяк, таму што людзі, хоць у іх і айподы ў вушах, пакуль яшчэ чуюць і рэагуюць на такія навіны.

— Зь іншага боку, свабоды цяпер і так больш, чым у СССР. Цэрквы, касьцёлы…

— Ня думаю, што выпадак, які мы разьбіраем, — вынік непасрэдна злоўжываньня свабодай.

Мне цяжка ўявіць грамадзтва, у якім малады чалавек фізычна несвабодны ўзяць у рукі нашу ўмоўную бэнзапілу. Радыён Раскольнікаў — і той у пошуках пытаньня „істота ён дрыжачая або права мае“ ўзяў у рукі сякеру. Актывацыя тэмы тэрміновага абмежаваньня нейкіх свабод — гэта пра тое, як спрабуюць скарыстацца сытуацыяй менавіта розныя прыгнятальнікі. Пад шумок.

Вядома, ва ўсіх падобных выпадках ніхто ня мае права адчуваць сябе невінаватым. Цэрквы таксама нясуць свой цяжар адказнасьці. Праўда, прызнаюся, ад факту нашай усеагульнай і прыватнай віны вельмі цяжка перайсьці да нейкіх канкрэтных высноў. Вось як дакладна адказаць на пытаньне, што менавіта трэба было зрабіць царкве, менавіта ў Стоўпцах і для таго, каб не адбыўся менавіта гэты выпадак? Я ня ведаю. Ведаў бы, хто дзе ўпадзе — падаслаў бы саломкі. Але ў кожным разе ўплыў царквы на сытуацыю ў



школах нельга пераацэньваць. Я магу дапусьціць, што больш цесная інтэграцыя царквы і адукацыі магла б што-небудзь зьмяніць да лепшага і ўжо ў кожным выпадку не нашкодзіла б, але я не змагу прывесьці вам таму ніякіх доказаў.

— Амаль усе мае суразмоўцы ў Стоўпцах характарызуюць забойцу як ціхага і спакойнага хлопца. І школа, нібыта, добрая. Адкуль тады бярэцца агрэсія, калі навокал усё добра?

— Для мяне гэта эпізод больш агульнай філязофскай і багаслоўскай праблемы прычыны зла і добрасьці Божай. Гэта так званая праблема тэадыцэі. Пра яе шмат гавораць на багаслоўскіх катэдрах і пішуць у артыкулах, але маралізатарства і філязофстваваньне перад абліччам чужой, а не сваёй бяды выглядае так сабе… Агрэсія не ўзьнікае ніадкуль, бо нішто не паўстае зь нічога. Усё добра навокал, кажаце? Як бачыце, ня ўсё. Не падманвайцеся.

— У Стоўпцах вельмі многія людзі шкадуюць забойцу, бо лічаць, што ён эмацыйна ня вытрымаў ціску, магчыма, цкаваньня іншых вучняў. Ці трэба шкадаваць забойцу, ці ўсё ж кожны павінен адказваць за свае грахі сам?

— Усякае злачынства, калі яно ўчыняецца сьвядома, мае свае прычыны — то бок можа быць растлумачана з пункту гледжаньня матываў, мэт і іншых фактараў. Але тлумачэньне ня трэба блытаць з апраўданьнем. Хлопец-забойца ўчыніў страшнае злачынства і вялікі грэх. Калі ён захоча, яму давядзецца прайсьці вялікі шлях пакаяньня. Бог ёсьць Міласэрнасьць. І Яго Царква не выра-

каецца ніякага грэшніка, але кожнага кліча да пакаяньня. І сапраўднае правасудзьдзе — заўсёды міласэрнае, таму што заўжды супрацьстаіць усяму несправядліваму.

Забойца ня быў д'яблам. У кожным чалавеку ёсьць штосьці добрае — багасловы ў гэтым пытаньні цалкам згодныя з трансплянтолягамі. Усялякі чалавек зьяўляецца вобразам Бога, які часам немагчыма разгледзець за тымі калецтвамі, якія ўносіць грэх у наша жыцьцё. У нас у галаве жыве зборны вобраз ліхадзея са скошанай патыліцай, драпежным позіркам, зьвярыным подыхам. І мы зьдзіўляемся, калі бачым, што жудаснае злачынства ўчыніў чалавек падобны да нас, такі як мы, які ня жыў у лесе з ограмі, а суседнічаў з намі. Сябры, у турмах сядзяць такія самыя людзі, як і мы з вамі. Я гэта кажу не для таго, каб у нас зьявілася манія перасьледу, а для таго, каб мы памяталі, што ў кожным з нас жыве грэх, і вельмі важна не пераблытаць: свабода — яна для нас, а не для зла. Калі страціць кантроль, то можа адбыцца страшнае. Ня трэба занадта ўяўляць пра сябе.

— Як грамадзтва, школы, сем'і павінны сябе паводзіць, што зьмяніць, каб такія жудасныя рэчы не паўтараліся?

— Пытаньні пра тое, што трэба рабіць, каб нішто падобнае не паўтаралася, мне нагадваюць пытаньні пра тое, што трэба рабіць, каб ніколі не памерці. Грамадзтва па меры разьвіцьця будзе ўсё больш і больш назапашваць свае як генэтычныя, так і духоўныя памылкі, што і вызначыць надыход апошніх часоў, якія Біблія апісвае ў тэрмінах

татальнай нянавісьці і варожасьці. Таму і сказана: „Дзень жа Гасподні прыйдзе, як злодзей уначы, і тады нябёсы з грукатам прамінуць, а стыхіі, распаленыя, разбурацца, а зямля і ўсё, што на ёй, будзе спалена“ (2 Пят. 3:10).

Тым, хто хоча ўратавацца, настойліва рэкамэндую трымацца бліжэй да царквы. Гэта датычыць ня толькі асобных людзей, але і ўсіх магчымых і немагчымых іх аб'яднаньняў. Я думаю, што не сэгрэгацыя, а менавіта каапэрацыя царквы, дзяржавы і грамадзкіх інстытутаў здольная зьнізіць хуткасьць нарастаньня гэтай нянавісьці ў грамадзтве, стаць прафіляктыкай правакацыйных сытуацый, згладзіць наступствы трагедый, якія ўжо адбыліся. А так што яшчэ казаць сьвятару на такое пытаньне? Ну, вядома ж: трэба маліцца, пасьціцца, чытаць Пісаньне, рабіць добрыя справы, любіць адзін аднаго… Тут я наўрад ці скажу вам нешта арыгінальнае. На такім агульным узроўні абмеркаваньня праблемы магчымыя толькі самыя агульныя словы, карысьць якіх, дарэчы, пад пытаньнем.

## Справы Скакуна, Казакевіча і „Калюмбайну“

Вадзім М. некалькі разоў мяняў свае паказаньні. Пасьля затрыманьня ён казаў адно, падчас нагляду спэцыялістаў тлумачыў тое, што адбылося, інакш, а ў судзе агучыў зусім іншае. Сваю віну ён прызнаў часткова.

Марыну Пархімовіч ён забіў сьвядома, бо яна ўвасабляла зборны вобраз настаўнікаў і магла б перашкодзіць яму ўчыніць масавае забойства ў школе. Акрамя таго, настаўніца рабіла яму заўвагі, калі ён карыстаўся смартфонам падчас урокаў. Сашу Раманава, паводле словаў Вадзіма, ён забіў выпадкова.

Стаўпецкая трагедыя стала першым у гісторыі сучаснай Беларусі забойствам у школе. Але выпадкі нападаў на настаўнікаў здараліся і раней. Адным з самых гучных быў працэс Даната Скакуна, менскага школьніка, якога суд прызнаў вінаватым у нападзе з нажом на настаўніцу.

Данат Скакун вучыўся ў 9-й клясе гімназіі. Быў ціхім і спакойным хлопцам. Так казалі людзі, якія яго ведалі. Вучыўся ён таксама някепска — сярэдні бал вышэйшы за 8. Паводле сьледзтва, 23 траўня 2016 году, за некалькі дзён да заканчэньня школьнага году, ён зайшоў у кабінэт да настаўніцы расейскай мовы і нанёс ёй ня менш за 17 удараў нажом і тупым прадметам. Прычынай стала, нібыта, заніжаная ацэнка па літаратуры. За нявывучаныя вершы настаўніца паставіла Данату дзьве двойкі. Хлопец зайшоў у кабінэт, каб пераказаць вершы, але замест гэтага, нібыта, напаў. 15-гадоваму вучню прысудзілі 8 гадоў выхаваўчай калёніі. Сьледчыя перакананыя, што на такі крок хлопец пайшоў з помсты.

Спачатку Скакун прызнаўся ў спробе забойства настаўніцы і ўсё падрабязна апісаў у заяве. Але гэтае прызнаньне было атрыманае без прысутнасьці адваката, псыхоляга, бацькоў і ўначы,

а таму ў выніку было прызнанае незаконным. Пазьней хлопец зьмяніў свае паказаньні і віну не прызнаваў ажно да канца суду. Пацярпелая настаўніца ад пачатку да канца справы сьцьвярджала, што на яе напаў менавіта Данат Скакун.

Справа 15-гадовага вучня зь Менску падобная да стаўпецкай толькі формай нападу вучня на настаўніцу. Між тым, настаўніца, бадай што, не пацярпела, а ў сеціве разгарнулася грамадзкая кампанія ў падтрымку Даната. Людзі ўсталі на бок асуджанага, бо вырашылі, што настаўніца яго абгаварыла.

Больш падабенства ў стаўпецкай справе можна знайсьці зь іншым здарэньнем, якое адбылося ў тым самым годзе, што і напад на настаўніцу ў менскай гімназіі.

У кастрычніку 2016 году ў менскім гандлёвым цэнтры „Эўропа“ 17-гадовы Ўладзіслаў Казакевіч напаў з бэнзапілой і сякерай на наведнікаў. Загінуў адзін чалавек, двое былі параненыя. Казакевіча асудзілі на 15 гадоў калёніі. Праз год пасьля гэтага ён напаў з нажом на супрацоўнікаў калёніі, маючы плян адпомсьціць кіраўніцтву турмы за спагнаньні. Але свой плян масавага забойства яму ажыцьцявіць не ўдалося. У сваім апошнім слове ён заявіў, што яшчэ вернецца, каб завяршыць распачатае.

Казакевіча знаёмыя называлі ціхім і сарамлівым хлопцам, у якога амаль не было сяброў. Паводле заключэньня Дзяржаўнага камітэту судовых экспэртыз, у хлопца зьмешаны разлад асобы і ён можа адказваць за свае дзеяньні. Ба-

цька забойцы і адвакаты настойвалі на іншым дыягназе.

За некалькі гадоў да нападу з бэнзапілой той спрабаваў тройчы ўчыніць суіцыд. Пасьля гэтага ён ляжаў у Навінках. Там у Казакевіча быў дыягназаваны шызатыпічны разлад. Яго сымптомы нагадваюць шызафрэнію — дзівацкія паводзіны, схільнасьць да ізаляцыі, цяжкасьці ў навязваньні знаёмстваў. Бацька і адвакаты казалі, што гэты дыягназ, згодна з пастановаю Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства аховы здароўя № 54/15, знаходзіцца ў сьпісе хваробаў, якія не дазваляюць адбываць пакараньне ў калёніях і турмах. Але з уліку хлопца зьнялі яшчэ ў 2015 годзе. Для гэтага было дастаткова простай заявы.

Паводле бацькі Казакевіча, хвароба ў сына абвастраецца ў псыхатраўматычных сытуацыях.

Але дзяржаўныя экспэрты сьцьвердзілі, што выказваньні забойцы пра тое, што ён ня любіць людзей і хоча іх забіваць, зьяўляюцца



Уладзіслаў Казакевіч

асаблівасьцямі сыстэмы ягоных каштоўнасьцяў. Інтравэртнасьць Казакевіча яны зьвязвалі з тым, што ў яго ёсьць цяжкасьці ў адносінах зь іншымі. Нават словы пра жаданьне „паліць цэрквы і рэзаць людзей“ эксперт Дзяржаўнага камітэту судовых экспэртызаў Юлія Лісіцына не палічыла супярэчлівым з дыягназам „зьмешаны разлад асобы“. Пасьля нападу ў калёніі яго зноў накіроўвалі на дасьледаваньне, але вынік быў той самы – дыягназу няма.

Бацькі Ўладзіслава Казакевіча запрасілі для ацэнкі паводзінаў сына незалежнага экспэрта з Масквы з 19-гадовым досьведам Аляксандра Крывашэева. Паводле яго, Казакевіч зь дзяцінства хварэе на простую форму шызафрэніі, якая прагрэсуе пасьля перанесенага псыхозу. Адной з прычынаў пагаршэньня хваробы, на думку спэцыяліста, стала адмова ад лекаў, якія ён прымаў. І менавіта гэта, маўляў, прывяло да нападу з бэнзапілой і сякерай. На думку Крывашэева, Казакевіч небясьпечны нават у калёніі і яго неабходна абавязкова лячыць.

Трэцяя справа, якая нагадвае напад у стаўпецкай школе — гэта трагедыя ў школе „Калюмбайн“ у ЗША. У Амэрыцы напады са зброяй, у тым ліку і ў школах, нярэдкія. Галоўная прычына — лёгкая даступнасьць зброі. Да восені 2019 году пісталеты, стрэльбы і амуніцыю можна было набыць у самай вялікай амэрыканскай сетцы супэрмаркетаў. Але выпадак у школе „Калюмбайн“ стаў, бадай, самым гучным сярод нападаў са зброяй у амэрыканскіх школах.

20 красавіка 1999 году двое старшаклясьнікаў, Эрык Гарыс і Дылан Клібалд, забілі ў сваёй школе 13 чалавек і паранілі 37. Напад працягваўся менш за гадзіну. З сабою хлопцы мелі два абрэзы і самаробныя бомбы для падрыву школьнай сталоўкі. Ахвяраў магло быць значна больш, але бомбы не спрацавалі. Пасьля масавых забойстваў у школьнай бібліятэцы і праходу па клясах і кабінэтах, абодва нападнікі ўчынілі самагубства.

У Вадзіма М. з сабою былі нож, малаток і дымавыя шашкі. Ён таксама праходзіў па клясах, зазіраў у настаўніцкую. На ягоным рахунку ня толькі сьмяротныя ахвяры, але і два аднаклясьнікі, якіх ён параніў нажом, дзяўчына, якой ён прыставіў нож да горла, і найлепшы сябра, якога ён ударыў малатком. Выглядае, што Вадзім цікавіўся гісторыяй „Калюмбайну“, шукаў пра яго інфармацыю і, відавочна, узяў сабе за ўзор. Ягоным плянам перашкодзілі іншыя вучні.

У стаўпецкай трагедыі і масавага забойства ў „Калюмбайне“ ёсьць і іншае падабенства. Знайшлося нямала людзей, якія шукалі апраўданьне злачынцам. Напад зьвязвалі з рэакцыяй на цкаваньне ў школе і сацыяльную ізаляцыю (адзін з нападнікаў прымаў антыдэпрэсант) нягледзячы на тое, што самі забойцы ніяк не патлумачылі свой учынак, не пакінулі ніякіх перадсьмяротных запісак. Менавіта такі характар дыскусіі і пошук апраўданьня забойцаў, паводле некаторых, і стаў прычынай таго, што ўсьлед за Гарысам ды Клібалдам і іншыя вучні пачалі выказваць свой пратэст са зброяй у руках.

На судзе над Вадзімам М. пракурор Ягор Сітнік паведаміў, што злачынства было ўчыненае „з хуліганскіх памкненьняў“, а 13 гадоў калёніі — максымальна магчымае пакараньне ў дадзеным выпадку.

Непаўналетняга Даната Скакуна прызналі вінаватым у замаху на забойства з асаблівай жорсткасьцю асобы ў сувязі з ажыцьцяўленьнем ёю службовай дзейнасьці. Суд прызначыў яму пазбаўленьне волі на 8 гадоў.

Вадзіма Казакевіча суд прызнаў вінаватым па ўсіх пунктах абвінавачаньня — падрыхтоўка да забойства дзьвюх і больш асоб, замах на забойства дзьвюх і больш асоб, забойства, учыненае з асаблівай жорсткасьцю з хуліганскіх памкненьняў, хуліганства. Яму прысудзілі 15 гадоў калёніі. У турме Казакевіч напаў з нажом на ахоўнікаў, і яго асудзілі на 22 гады, абодва пакараньні былі аб’яднаныя.

Пасьля стралянiны ў „Калюмбайне“ пацярпелыя і сем’і забітых склалі агулам 17 судовых пазоваў супраць бацькоў забойцаў, школы, паліцыі, тых, хто дазволіў Гарысу і Клібалду атрымаць зброю і яе прадаўцам, вытворцам, а нават вытворцам кампутарных гульняў. Сям’я аднаго з забітых вучняў першапачаткова зажадала ад бацькоў нападнікаў 250 млн даляраў. На іх думку, менавіта адсутнасьць кантролю бацькоў забойцаў над дзецьмі дазволіла ім сабраць вялікую колькасьць зброі і прывяла да сьмерці іх сына. У выніку яны атрымалі 250 тысячаў з сумы 1,5 млн, якую бацькі забойцаў падзялілі паміж сем’ямі ахвяраў.

## Што сказаў псыхіятар

За Вадзімам М. месяц назіралі спэцыялісты — псыхіятры і псыхолягі. Па выніках гэтай экспэртызы было абвешчана, што ў момант забойства ён быў прытомны, меў кантакт з рэальнасьцю. Пра магчымыя псыхічныя хваробы сьледзтва не паведаміла.

Што можа сказаць пра матыў забойцы, почырк злачынства, яго характар і асобу Вадзіма М.? Пра гэта я спытаўся ў псыхіятра Андрэя Пекара. Калісьці ён скончыў Віцебскі мэдычны інстытут, а цяпер працуе ў псыхіятрычным шпіталі ў Празе.

— Ці можа такое забойства ўчыніць цалкам здаровы псыхічна чалавек?

— Так, гэта магчыма. Я насамрэч ня ведаю, ці прызналі яго псыхічна здаровым, ці ў яго ёсьць нейкі дыягназ. Тут лёгка зрабіць памылку, бо ў псыхіятра магла быць задача і ня ставіць дыягназаў, а адказаць на галоўнае пытаньне: ці быў забойца падчас забойства ў стане ўспрымаць рэальнасьць і несьці адказнасьць за свае дзеяньні? Я магу толькі меркаваць, на што трэба зьвярнуць увагу — што забойства ён плянаваў. Але зь іншага боку, ён не хаваўся, рабіў усё гэта адкрыта. Уявіце, што нехта хоча кагосьці забіць. Ён пастараецца зрабіць так, каб пра яго ніхто не даведаўся, або прыдумае шляхі, як уцячы. А ў Вадзіма не было ніякіх запасных варыянтаў. Я таксама зьвярнуў увагу на тое, што ён цікавіўся анатоміяй. Ён збольшага можа быць здаровым, але мець псы-

халягічныя праблемы. У яго ў дзяцінстве магла быць нейкая псыхічная траўма, якая з часам перарасла ў навязьлівую ідэю. Я схіляюся да думкі, што ён усё ж мае псыхапатычныя асаблівасьці. Але нейкай вострай паталёгіі я ня бачу.

— З таго, што нам вядома, ён забіваў без адзінага слова, з каменным тварам і спакоем. Пра што гэта можа сьведчыць?

— Гэта падобна на сацыяпатыю. Думаю, што ў яго, магчыма, ёсьць такое парушэньне асобы, і яно можа быць зьвязанае з тым, як функцыянавала яго сям'я. Мы ведаем, што ён большасьць часу праводзіў дома, сяброў ня меў. А дома сядзеў у сваім пакоі. У самоце. Ён закрыты чалавек.

— Ці можа забойства быць наступствам гібоіднага сындрому, калі падлеткі ўпадаюць у паталёгіі, алькаголь, робяцца псыхічна інфантыльнымі?

— Не. Гібоідныя рысы звычайна іншыя. Такія людзі парушаюць грамадзкія нормы. Тут было наадварот. Ён хаваўся. А такія падлеткі вылазілі б, рабілі б розныя глупствы. Ён бы на судзе стаяў і рагатаў. Калі паглядзець на забойцу ў нашым выпадку, то гібоід — гэта яго супрацьлегласьць. Ён бы таксама мог забіць, але яму было б усё роўна, ён бы сьмяяўся. Гэта іншы тып.

— Усё, што мы пра яго ведаем, — ён адчуваў сваю слабасьць і бездапаможнасьць, ня мог сябе неяк праявіць.

— Няўпэўненасьць у сабе, неразуменьне і пошук свайго месца ў жыцьці ўзьнікае ў падлеткавым узросьце ва ўсіх. Тут ёсьць яшчэ адзін нюанс.




У дзень пахаваньня

Падлеткавы ўзрост — гэта калі чалавек павінен адарвацца ад сваёй сям'і і акунуцца ў асяродзьдзе сваіх аднагодкаў, каб асоба пачала разьвівацца самастойна. У гэтым маленькім горадзе ў яго не было сяброў. Акрамя таго, у бацькоў быў аўтарытарны стыль. Яны забаранялі яму з кімсьці сустракацца. Сказалі: сядзі дома. Як псыхіятар, каб знайсьці прычыну ці зразумець, чаму гэта адбылося, я б рухаўся ў двух напрамках. Я б паспрабаваў даведацца, што ён рабіў у інтэрнэце. У якія гуляў гульні. Цалкам магчыма, што ў яго сфармавалася сваё ўяўленьне пра сьвет, якое вельмі адрозьнівалася ад рэальнасьці. Другое, мне было цікава, што ні ў яго, ні ў хлопчыка, якога ён забіў, ані слова не гаварылася пра іх дзяўчат. Я б паспрабаваў дазнацца пра гэтую рэч. Цалкам

магчыма, што яму падабалася дзяўчына, якая магла і ня ведаць, што яна таму другому падабаецца. Ён мог уяўляць нешта ў сваіх думках. А той мог нават не сустракацца зь ёй. Мог ёй проста ўсьміхнуцца. Або забойца мог, напрыклад, даведацца, што тая дзяўчына таемна кахае таго або проста яго пахваліла. А ў гэтага пачынаецца рэўнасьць на пустым месцы, бо ён ня быў у рэальнасьці. Калі б у яго былі сябры, яны б вярталі яго ў рэальнасьць, а так іх не было. А для такіх, як ён, людзей, якія сядзяць дома, самотных, гэта можа быць цэлы сусьвет. Ён мог стварыць такую дзівосную ўнутраную карціну, якая нам звонку будзе цалкам незразумелай.

— Ці магла быць каталізатарам для яго размова з дырэктаркай, якая перад урокам зрабіла яму заўвагу пра пропускі?

— Нож ён купіў да гэтага. Малаток ён таксама прынёс ужо з сабою. Сябру ён пазваніў да гэтага, каб той не ішоў у школу. І анатоміяй ён цікавіўся. Выглядае, што ўсё было сплянавана загадзя. У ім ішлі ўжо нейкія працэсы. Хутчэй гэтай размовай ён проста шукае прычыну, каб сябе неяк апраўдаць. І ня толькі перад грамадзтвам, бацькамі. У мяне пакуль што такое ўражаньне, што і сам ён да канца не зразумеў, што здарылася, чаму ён зрабіў так, а не інакш.

— Ён пачаў трохі выпіваць, курыць, апошнія два гады сапсаваліся адзнакі.

— Я б зусім не акцэнтаваў увагу на тым, што ён курыў. Мне здаецца, гэта нармальна, нешта забароненае спрабаваць для падлетка ў ягоным

узросьце. Больш за тое, нават калі б выявілася, што ён каштаваў з кімсьці траву, таксама ня варта зьвяртаць на гэта ўвагу.

— А якую выснову можна зрабіць пра адносіны з бацькамі?

— Бачна, што кантакт быў кепскі. Ён сядзіць у сябе дома. Дзе ён? Сядзіць. А, ну няхай сядзіць. Цэлы вечар прасядзіш у сваім пакоі, галоўнае, што дома. Магчыма, падчас выхаваньня мела месца эмацыйная дэпрывацыя, калі бацькі не праяўлялі да яго дастаткова любові або нават проста эмоцый. Бо некаторыя бацькі лічаць, што калі ў дзіцяці ёсьць што паесьці, ёсьць што апрануць, лэптоп, то ўсё добра, сядзі дома. А для дзіцяці вельмі важна, каб яго проста прытулілі, пасядзелі разам. Калі ён гэтага не атрымліваў, то гэта спрыяе разьвіцьцю схільнасьці да хворага ўспрыманьня сьвету.

— На першым допыце ён казаў, што не хацеў забіваць Сашу. А забойства настаўніцы ён, нібыта, учыніў сьвядома, бо яна яго нэрвавала.

— Забойца ў нашай гісторыі бачыў у сваёй ахвяры супрацьлеглы сьвет, які ён ненавідзіць. Яны былі сымбалем таго сьвету, які быў яму ненавісны. Ён не пайшоў забіваць дзяўчат. Калі б ён хацеў проста забіць як мага больш дзяцей, направа і налева, то ён бы пачаў зь дзяўчат. А ён забіў настаўніцу, якая магла рабіць яму заўвагі на ўроках, хваліла Раманава. Вось табе і перанос нянавісьці. Што да Сашы, то неабавязкова кагосьці добра ведаць, або размаўляць, каб яго ненавідзець.



Першы званок у школе № 2

Насамрэч, тут могуць быць розныя дэталі. У яго магло быць трошкі тое, і трошкі тое. Думаю, калі ён гэта зрабіў, то пасьля быў спачатку трохі дэзарыентаваны. Што рабіць далей, ён яўна гэтага не прадумаў. І, магчыма, ён толькі потым пачаў задумвацца, а навошта я гэта зрабіў, а што са мною адбылося. І самае галоўнае, каб не адбылося самаперакананьня. Бо, можа стацца, ён пачуе, што забіў таму і таму. Прачытае ці паслухае пра нейкія прычыны ў мэдыях і возьме іх за аснову. Калі ён некалькі разоў мяняў паказаньні, гэта сьведчыць аб тым, што калі ён гэта зрабіў, ён да канца не разумеў, навошта ён гэта зрабіў. Тут патрэбны глыбінны псыхатэрапэўт, які б зь ім разьбіраўся. Магчыма, прычыны тут такія, пра якія мы ўвогуле ня ведаем.

— Быў эпізод цкаваньня тры гады таму, калі яны пераехалі ў горад. Пра гэта расказвалі бацькі.

— Цалкам магчыма, што ўсё тады і пачало разьвівацца. Калі яны пераехалі, гэта было як пераключальнік. Магчыма, у вёсцы ён быў першы хлопец на сяле, а тут яго псыхічна апусьцілі. І таму адтуль магло пачацца назапашваньне напружаньня.

— У яго быў толькі адзін сябар.

— У ягоным узросьце гэта вельмі важна: знайсьці сяброў і пачаць павольны адыход ад бацькоў. Пачаць кудысьці хадзіць зь сябрамі з клясы, са знаёмымі. Думаю, што ён моцна ад гэтага пакутаваў, нават калі ён гэтага не паказваў. Гэта той узрост, калі пачынае сасьпяваць асоба. Бяз гэтага асоба не сфармуецца. Я часта бачу, як у Беларусі бацькі штучна аберагаюць сваіх дзяцей, трымаюць пры сабе. І, як вынік, дзеці ня могуць супрацьпаставіць сваю асобу асобе бацькоў, і ў выніку атрымліваюцца слабыя і залежныя. Залежныя, у першую чаргу, ад чужога меркаваньня, безыніцыятыўныя. У падлеткавым узросьце, і гэта найперш датычыць хлопцаў, дзіця павінна пачаць пярэчыць бацькам, рабіць наадварот. А наадварот можа быць па-рознаму. Калі тата курыць і п’е, дзіця можа рабіць роўна наадварот. Але самае галоўнае — знайсьці сяброў, якія застануцца сябрамі па жыцьці. Нават калі яны потым разыдуцца, але яны будуць узгадваць адзін аднаго. Што першы раз кудысьці ты пайшоў не з бацькамі, а зь сябрамі. Бо да гэтага ты не ўяўляў сябе асобна ад сям’і, а тут раптам ты сам кудысь-

ці ідзеш. Гэта пачатак станаўленьня асобы. Калі ў яго няма такіх сяброў, яму не хапае важнага фактару фармаваньня сябе як асобы. А пакуль у яго няма яшчэ свайго меркаваньня. А бацькі тут, хутчэй за ўсё, былі аўтарытарныя і падаўлялі яго асобу. У Беларусі да ўсяго ў сем'ях здараецца і фізычны гвалт. І атрымліваецца такім чынам клясычны „Калюмбайн“, калі чалавека цісннуць-ціснуць, і потым гэта выліваецца вось так.

— Абодва забойствы ўчыненыя са сьпіны. Хлопца малатком ён параніў не наўпрост, гледзячы яму ў твар. Ён папрасіў спачатку пагледзець, што нешта, быццам бы, упала пад парту. Дарэчы, гэта быў яго найлепшы сябра.

— Мне падаецца, што гэты чыньнік важны ў ягоным сьветапоглядзе. Магчыма, ён таксама выбраў такую форму, бо баяўся, што яны будуць абараняцца, і таксама хацеў, каб удар быў першы і сьмяротны. Я думаю, што яму не хапала сьмеласьці. Забіваў са сьпіны, а ня сьпераду, сам сябе таксама не забіў. Нікому не расказаў. І гэта зноў сьведчыць пра тое, што ў ім была падаўленая асоба. Ён быў слабой і залежнай асобай.

— Ці штосьці нам можа казаць той факт, што пасьля забойства ён пабег да чужога чалавека, жанчыны, у якой яго бацькі калісьці здымалі пакой?

— Тое, што ён не пабег да сваіх бацькоў, шмат пра што кажа. Гэта значыць, што ў іх дома з эмацыйнага пункту гледжаньня быў поўны нуль. У цяжкой сытуацыі людзі ў гэтым узросьце ідуць да мамы і да таты.

— У горадзе людзі вельмі шкадуюць забойцу, шукаюць матыў, які б яго апраўдваў.

— Хутчэй за ўсё, яны ўспрымаюць яго за свайго, бо ён блізкі паводле сацыяльнага становішча. Гэты бяднейшы, значыць наш, бо і мы такія. Той багацейшы, значыць ня наш, і яны яму зайздросьцяць. Гэта вельмі дзіўны фэномэн. Я з такім сутыкнуўся ў родным Слуцку. У нас там калісьці быў леспрамгас, і да нас прыехаў з Расеі адзін бізнэсовец. Ён купіў дом, рабіў вокны, дзьверы, умеў працаваць. Мы былі знаёмыя. Быў добры гаспадар. І 3-4 мясцовыя выпівохі, якім нешта не падабалася, пайшлі і спалілі ягоны бізнэс. Іх схапілі на месцы, і яны тлумачыліся: а чаго ён прыехаў аднекуль там, на нашым месцы нешта робіць, разьвіваецца. А я ведаў гэтых хлопцаў зь дзяцінства. І я памятаю, што глядзеў на гэта ўсё і думаў: ну ніколі б у жыцьці не здагадаўся, што яны могуць спаліць чужое. Зайздрасьць такая. Яны ўсё жыцьцё сядзелі, пілі, а тут раптам нехта прыяжджае невядома адкуль, купіў дом, і яны бачаць, што выяўляецца, можна і па-іншаму жыць. Замест таго, каб перастаць піць і зрабіць нешта самім, яны лепш спаляць чужую майстэрню. А той расеец потым расстроіўся, сабраўся і зьехаў. Цікавы і наступны фэномэн. Калі пабудуе дом у Стоўпцах мэр або іншы начальнік, усе будуць казаць: а, дык нармальна, ён жа мэр. Яны яго ня будуць недалюбліваць, бо там усё ясна, адкуль грошы, гэта быццам нармальна, усе так робяць. А калі гэта бізнэсовец, які сам усё зрабіў, яны яго

ненавідзяць. Гэта ўжо ўзьнікае нейкая паталёгія сьветапогляду грамадзтва.

— Гэтую трагедыю ніяк ня выправіш. Але многія хвалююцца за сваіх дзяцей. На што ім варта зьвяртаць увагу найперш?

— Проста быць зь дзецьмі эмацыйна. Менавіта ўдзельнічаць у эмацыйным жыцьці свайго дзіцяці. Самае галоўнае — гэта ня даць яму ноўтбук ці пляншэт, але проста зь ім пагаварыць, пайсьці зь ім кудысьці, спытаць пра нешта. Нашыя людзі, на жаль, вельмі эмацыйна халодныя. Яны часта не дадаюць сваім дзецям дастатковага эмацыйнага адказу. І не таму, што нейкія благія ці злыя, не, яны проста ня ўмеюць, бо самім гэтага ад бацькоў не ставала, не навучыліся. Так, эмацыйнасьці трэба вучыцца. А дзеці потым да гэтага спосабу ўспрыманьня рэчаіснасьці прызвычайваюцца, ім падаецца, што гэта нармальна. У Беларусі вельмі не хапае эмацыйнасьці. Я пажыў на Захадзе, і калі я прыяжджаю дадому, бачу, якія людзі эмацыйна закрытыя. Ты прывітаесься з прадавачкай у краме, а яна на цябе скрыва глядзіць, маўляў, чаго ты ад мяне хочаш.

— Вадзім прызнаны здаровым. Вы кажаце пра нейкія яго асаблівасьці, рысы. Чаму пра гэта ня кажуць публічна лекары? Чаму аналіз не публічны?

— Такія заключэньні ўсюды непублічныя, гэта лекарская таямніца. І яшчэ раз: быць псыхічна здаровым — гэта адно, а быць падчас злачынства ў стане ўспрыманьня рэчаіснасьці, а таксама несьці адказнасьць за свае ўчынкі — гэта іншае.

## Найлепшы кадар Стоўпцаў

Васіль Зянько — гэта вочы Стоўпцаў. За 52 гады ў фотажурналістыцы, якія ён правёў тут, была зробленая незьлічоная колькасьць здымкаў гораду і яго жыхароў. Здымкамі спадара Зянько ўжо больш за паўстагодзьдзя ілюструецца амаль кожная падзея ў горадзе на старонках стаўпецкай раёнкі „Прамень“.

Я іду да яго адразу пасьля пахаваньняў Марыі Пархімовіч і Сашы Раманава з надзеяй, што ён бачыў у Стоўпцах усё і раскажа пра самы лепшы кадар гэтага гораду і яго жыхароў. Мы сустракаемся ў сядзібе рэдакцыі. Гаварыць пра забойства сп. Васіль ня хоча. Але ён ахвотна пачынае гаварыць пра Стоўпцы, дзе жылі ахвяры і забойца, і пра сябе.

— А мне тут камфортна, — кажа спадар Зянько. — Я тут асоба і аўтарытэт. А там я ніхто. Хто мяне будзе ведаць у Менску? Хто са мной будзе вітацца ў вялікім горадзе ранкам і вечарам на вуліцы? Трэба было таксама аддаваць сябе сям'і, падымаць сыноў, вучыць іх. Застацца тут — мой сьвядомы выбар. І лічу, што слушна. „Народная газета“ чакала мяне цэлы год, штурмавалі мяне. Але я не пайшоў. І нават цяпер кажу — правільна. Тыя, з кім я там працаваў, хто кідаўся ў гарачыя тэмы, тых, на жаль, ужо няма.

Васіль Зянько пайшоў іншым шляхам. Ён працаваў „вольным стралком“. Друкаваў свае здымкі па ўсіх выданьнях. Але найбольш для раёнкі — у

месяц па 80-90 штук. А гэта наўскідку амаль 200 тысяч ад пачатку кар’еры.

Пасьля пытаньня пра самы лепшы свой кадар у Стоўпцах сп. Васіль ажывае. Спачатку шукае той здымак у шафе з альбомамі, але знаходзіць праз пару хвілінаў у кампутары.

— Вось ён, „Піянэр пад дажджом“. Гэта было пару гадоў таму, на Дзень Перамогі. На Плошчы Бесьсьмяротнасьці стаяла ганаровая варта. А ў ёй школьнікі, піянэры. Пачынаецца залева, і ўсе



Васіль Зянько

разьбягаюцца. А гэты хлопчык з паста ня ўцёк. Як стаяў, так і стаяў. А ўсе шуснулі ў кусты, пад ёлкі. На гэтым здымку ёсьць адказнасьць чалавека за свой пост. Яму, можа, гадоў 12. Паводзіны хлопца паказваюць яго характар, упартасьць, адказнасьць. Гэты хлопчык пад грымотамі не рвануў. Разьбегліся ўсе, нават начальства. Але гэты лівень быў на 15 хвілін, потым хмара прайшла. Сонейка потым выглянула, было цёпла.

За гэты здымак Васіль Зянько атрымаў другое месца ў конкурсе „Прэс-фота Беларусі“. Хачу зразумець, чаму фота мокрага школьніка — адзін з найлепшых кадраў стаўпецкага майстра. Няхай бы аўтар паразважаў пра цяперашнюю моладзь. Магчыма, праз гэта можна будзе лепш зразумець трагедыю ў Стоўпцах.

— Ён паслухмяны, і гэта вельмі добра. Цяпер моладзь стала дзіўнаю. Скачуць уніз, каб зрабіць сэлфі, чаго толькі ня робяць. А ў яго ёсьць пачуцьцё доўгу, і ён ня кінуўся за натоўпам. Гэта ж вахта, гэта сьвятая справа. Можа, ён стаіць і думае пра тых, хто пакутаваў падчас вайны. Пра тое, як яны параненыя ляжалі ў сьнезе. Часам, калі табе цяжка, ты думаеш, што камусьці яшчэ цяжэй. Трэба перацярпець, бо камусьці горш. У цябе, можа, боты проста працякаюць, а ў іншага можа і даху няма над галавой.

Спадар Зянько перакананы, што цяперашнія людзі ў Стоўпцах зусім іншыя, чым тады, калі ён пачынаў сваю кар’еру. Раней яны былі прасьцейшымі. А цяпер, кажа, астылі да вясёлых сходак, неахвотна ідуць пабачыцца зь іншымі.

— Прага да таго, каб ня быць горшым, трохі псуе людзей. Некалі ў вёсках была такая прымаўка: „Калі ў суседа добрая карова, то пажадана, каб яна здохла“. Зайздрасьць заўсёды псуе чалавека і ягонае жыцьцё. Зайздроснае вока выбівае і з каляі таго чалавека, які жыве трошкі лепш за таго зайздросьніка.

Дапытваюся ў Васіля Зянько, калі яму ў Стоўпцах было найцікавей.

— Ня ведаю. Тут нічога не мяняецца. Характар Стоўпцаў — спакой. Нават бывае, што гэты спакой раздражняе. Часам здаецца, што горад завалакла нейкая ціна. А потым падумаеш, а можа гэта ня ціна, а прынёманскі спакой.

Спадар Васіль гаворыць гэта, смакуючы кожнае слова, павольна, паважна і раздумліва. Ён бачыў у Стоўпцах усё, але не пра ўсё хоча гаварыць. У часе забойства ў школе яго не было. Ён не здымаў гэта на свой фотаапарат.

## Горад водблеску сонца

Гісторыя Стоўпцаў зьвязаная ажно з двума прэзыдэнтамі. Тут жыў і вучыўся ў школе трэці прэзыдэнт Ізраілю Залман Шазар. Тут нарадзілася і жыла прэзыдэнтка Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні Івонка Сурвіла.

Яна сьцьвярджае, што яе першы ўспамін пра Стоўпцы — гэта водблеск сонца на Нёмне. Будучая прэзыдэнтка пабачыла яго, маючы ўсяго 2 гады. Другі раз пабачыць Нёман і паспрабаваць

знайсьці ў ім водблеск сонца яна змагла праз 50 гадоў.

Івонка Сурвіла пражыла ў Беларусі ўсяго 9 гадоў, а ў Стоўпцах і менш. Яна зьмяніла не адну краіну, і не адзін горад: ад Парыжу, праз Капэнгаген і Мадрыд, ажно да Атавы ў Канадзе. Але яе шлях пачаўся ў 1936 годзе менавіта тут.

У сваіх успамінах, якія пачыналіся ад слова „Стоўпцы“, спадарыня Івонка пра родны горад амаль не ўзгадала. Няўжо прычына ў нейкай траўме або крыўдзе, падумалася. Калі я патэлефанаваў да яе ў Атаву з пытаньнем, чаму, спадарыня Івонка разьбіла маю кансьпіралягічную тэорыю. Бо ў Стоўпцах, як яна патлумачыла, зь ёю нічога не магло адбыцца. Калі яна пакінула горад, ёй



было ўсяго 2 гады. Але памяць пра мястэчка, пра значэньне гэтага месца для яе сям'і, захавалася праз бацькоў.

— У Стоўпцах я жыла ўсяго два гады. Памятаю як праз смугу, што ляжала над вадою, каля Нёмна і бачыла водблеск сонца на вадзе. Гэта было недзе тады, калі я мела год ці паўтара. Цяпер я перакананая, што гэта быў мой першы ўспамін, маё першае ўражаньне ад жыцьця — водблеск ад Нёмна.

Мой тата з Засульля, гэта непадалёк ад Стоўпцаў, адтуль ягоны род. Мама — з Ішкалдзі. Яна скончыла гандлёвую школу ў Баранавічах, а тата скончыў тэхнічную школу ў Вільні. І яны спаткаліся акурат у Стоўпцах. Мама распавядала, што працавала тады ў судзе. Першы раз яны пабачыліся на вуліцы і абое абярнуліся, каб паглядзець адно аднаму ў плечы, і іхныя позіркі сустрэліся. Тата ня раз узгадваў, як ёю тады захапіўся. А пасьля яны спаткаліся на беларускай п'есе „Птушка шчасьця". Мама прыйшла туды зь нейкім іншым хлопцам, але той устаў і дзесьці выйшаў, а тата сеў на ягонае месца. Так яны і пазнаёміліся. Пажаніліся яны 17 чэрвеня 1935 году. Я нарадзілася 11 красавіка 1936-га, а праз год нарадзіўся брат Лёнік.

Шлюб яны бралі ў Стоўпцах у айца Віталя Багаткевіча. Шлюб адбыўся з пэўнымі цяжкасьцямі. Мама была каталічка, а тата праваслаўны. Касьцёл каталіцкі хацеў, каб тата перавярнуўся ў каталіцтва. Тата адмовіўся, і яны пайшлі браць шлюб у праваслаўнай царкве. І вось у той час,

калі яны бралі шлюб, іх пракліналі палякі. У касьцёле, які побач з царквою, званілі жалобныя званы. Мая мама ўзгадвала гэта як вельмі прыкрае здарэньне.

Мяне хрысьцілі таксама ў той царкве, хрысьціў айцец Багаткевіч. Бацькі расказвалі, што ён не жадаў нават чуць, што маё імя Івонка, бо яго, маўляў, няма ў праваслаўным календары. Таму афіцыйна ён пахрысьціў мяне як Іяанну.

І так жылі ў Стоўпцах. Бацькі часта ўзгадвалі, што былі там вельмі шчасьлівыя. Тата меў працу, на станцыі. Бацькі жылі б у Стоўпцах і далей, але калі мне было 2 гады, тату перавялі на працу ў Берасьце. Бацькі казалі, што гэта быў элемэнт дыскрымінацыі. Палякі прыціскалі дзе маглі, бо нам было ў Стоўпцах задобра. Побач у Засульлі былі татавы бацькі, якія прыяжджалі і памагалі. Займаліся намі, дзецьмі. Для мяне гэта быў рай, было шмат увагі і ад бацькоў, і ад дзядоў. У Стоўпцах бацькі мелі невялікае памяшканьне, але зьбіралі грошы і жылі штораз лепш. Пры тым, што заробак у таты быў у разы меншы, чым у ягоных калегаў-палякаў з той самай тэхнічнай школы ў Вільні. Тата зарабляў 160 злотых у месяц, а палякі з тымі самымі дыплёмамі — 800 злотых.

І вось калі бацькоў перавялі са Стоўпцаў, дык для іх была бяда. Яны ўжо плянавалі адкрыць там краму электрычных прыладаў. У таты была адпаведная адукацыя, а мама была здольная ў гандлі, бо скончыла гандлёвую школу.

Потым нас ізноў перавялі, гэтым разам у Баранавічы. Там тата быў намесьнікам дырэктара



Архіў Івонкі Сурвілы

Івонка Сурвіла, 1955

электрастанцыі. Неўзабаве, калі прыйшлі бальшавікі, яго арыштавалі. Ён не хацеў даносіць на рабочых, кантраляваць іх палітычна. Яго асудзілі на 5 гадоў. Але не пасьпелі выслаць. Выйшаў ён тады, калі ў горад прыйшлі немцы. Вязьні выламалі сьцяну ў турме. І калі бальшавікі прыехалі іх расстрэльваць, ужо перад уцёкамі, у турме ўжо

нікога не было. Мы з мамай і братам былі тады ў Засульлі. Тата за тыдзень прыйшоў да нас. Гэта быў час, калі фронт перамяшчаўся на ўсход. Мы з мамай хаваліся ў склепе ад немцаў. Памятаю, як тата прыйшоў, мама, калі яго ўбачыла, была вельмі шчасьлівая. Да 1942 году мы былі ў дзядоў. А ў 1942 годзе брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч паклікаў тату працаваць у Баранавічы, выкладаць там. Мама таксама настаўнічала ў Засульлі. І нехта маму папярэдзіў, што яе расстраляюць. Дзед тады завёз нас у Баранавічы на кані і мы там былі ўжо да адʼезду на Захад. 3 ліпеня мы адʼехалі.

У 1992 годзе я ўпершыню прыехала ў Беларусь пасьля эміграцыі. Я займалася дапамогай дзецям-ахвярам Чарнобыльскай катастрофы. Прыехала ў красавіку і правяла ў Беларусі цэлыя два тыдні. Брат мой быў тады ў Менску, бо працаваў прадстаўніком эўрапейскай энэргетычнай кампаніі ў Беларусі. Мы зь ім езьдзілі і ў Засульле, і ў Стоўпцы.

Былі мы ў царкве, дзе бацькі бралі шлюб і дзе нас хрысьцілі. Я яшчэ купіла там іконку, якую маю да гэтай пары. Пры царкве спаткала старую жанчынку. Яшчэ было даволі холадна, і яна мела на сабе шмат хустак. Я пачала зь ёю гаварыць. Кабета гаварыла са мною па-беларуску і пачала наракаць, што так добра было пры саветах, а цяпер такое няшчасьце, няма грошай і няма чаго есьці. Мяне тады гэта моцна зьдзівіла. Гэта было нейкае адкрыцьцё, пабачыць Беларусь у тым часе.

Першае ўражаньне — гэта Нёман. Тата вельмі часта распавядаў мне пра раку. Казаў, што як ён

быў яшчэ вучнем, дык разам зь сябрамі яны скакалі зь нейкага мосту ў Нёман. Каб можна было даваць нырца зь вялікай вышыні, Нёман мусіў быць тады вельмі глыбокім. А тут рака мне падалася зусім вузенькай і маленькай. Я не магла паверыць, няўжо гэта Нёман.

Дзень той у Стоўпцах быў даволі пахмурны. Але мястэчка падалося чыстым, акуратным. Хаця да гэтага я ўяўляла яго як Баранавічы, з вуліцамі і мураванымі дамамі, з ходнікамі. А гэта было маленькае мястэчка. Пахадзілі трохі пешшу па вуліцах, але так і не змаглі пабачыць цэнтар гораду. І мы хуценька адтуль паехалі. Зь дзяцінства я запамятала Стоўпцы інакш. Гэта быў іншы горад.

Апошняй навіной пра Стоўпцы для Івонкі Сурвілы стала забойства ў школе № 2.

— У маім дзяцінстве я проста ўявіць сабе такога не магла. Тады адносіны паміж людзьмі, а асабліва ў школе, былі іншымі. Я расла ў Францыі. Настаўнікі там ня толькі вучылі, але і выхоўвалі дзяцей. Кожны дзень у школе пачынаўся з Уроку маралі. Настаўніца нам дыктавала паўстаронкі тэксту пра нейкую якасьць. Якім варта быць і чаго ня варта рабіць. І гэтыя лекцыі былі штодня. Мне тады было 12 гадоў, і я была пад моцным уплывам такога падыходу. Цяпер гэтага няма. Цяпер іншы сьвет. Адукацыйная філязофія цяпер у імя свабоды, каб дзеці рабілі тое, што хочуць, каб на іх не ўплываць. Цяпер дзяцей проста не выхоўваюць. Дзецьмі трэба займацца. А іх сёньня вельмі часта ўспрымаюць як дарослых.

## Палітвязень Шыдлоўскі

Апошні раз да 11 лютага 2019 году пра Стоўпцы пісалі на першых старонках газэт амаль 20 гадоў таму. І ня толькі ў Беларусі.

У жніўні 1997 году ціхія і спакойныя Стоўпцы стаялі на вушах. На будынку райвыканкаму нехта замяніў чырвона-зялёны сьцяг на бел-чырвона-белы, напісаў „Жыве Беларусь!“ і „Пазьняк — наш прэзыдэнт!“, а на помніку Дзяржынскаму зьявіўся надпіс „Кат“. Лёзунгамі „Жыве Беларусь!“ былі расьпісаныя гарадзкія агароджы.

На паўтара года пазбаўленьня волі ў калёніі ўзмоцненага рэжыму за гэта асудзілі 18-гадовага стаўпецкага жыхара Аляксея Шыдлоўскага. Сёньня ён палітычны ўцякач і ўжо больш за 10 гадоў ня быў у родным горадзе.

У Стоўпцах я сустрэўся з маці Аляксея спадарыняй Раісай, каб прыгадаць тыя дні, калі падзеі ў горадзе сталі нацыянальнай навіной.

— Лёшу затрымалі 25 жніўня. Я ў той дзень была ў Менску, на нейкай нарадзе. Я працавала ў той час намесьніцай старшыні пошты. І ледзь не адразу, як толькі я зайшла ў хату, прыяжджае міліцыя. Я пытаюся: А што нарабілася? Вот, кажуць, будуць шукаць нешта. А гэта былі свае, мясцовыя. Ну, кажу, шукайце. Аблазілі і нічога не знайшлі. Кажу, вот добра, хоць пыл паганяеце. Абышлі ўсё, усе хлявы. Але што яны шукалі, я тады не магла зразумець.

Затрыманьне Лёшы — гэта быў шок. Мы на яго не злаваліся, што так выйшла, а моцна шкадавалі.



Фота з архіву Аляксея Шыдлоўскага

Аляксей Шыдлоўскі з партрэтам зьніклага бязь вестак апэратара Дзьмітрыя Завадзкага. Менск, 2001 год

Ён быў спакойны хлопец. Вельмі любіў спорт і сам займаўся. Езьдзіў у Менск са сваімі сябрукамі глядзець матчы. Там ён і пазнаёміўся з той кампаніяй, якая потым моцна на яго паўплывала. Ён вельмі ганарыўся, што хлопцы там спакойныя, добрыя, ня кураць і ня п’юць. І так зацягнуўся зь імі ў гэтыя справы.

Калі казаць шчыра, то каб ягоныя погляды неяк яўна выражалася дома, дык гэтага не было. Тады яшчэ і БНФ не ўспрымаўся, як цяпер, не было такой варожасьці з боку ўлады. І людзі тады па-іншаму гэта ўсё ўспрымалі. Пытаньні ўзьніклі толькі тады, калі яго ўзялі і прыйшлі да нас у хату. А да гэтага я ні пра што і не здагадвалася.

Калі ўсе пачалі пісаць, што арыштавалі патрыёта, то ўжо шум падняўся. Нам не хацелася розгаласу. Каму гэта патрэбна, каб былі такія сытуацыі? Але ад свайго дзіцяці я ніколі не адмаўлялася. Я давала і інтэрвію газэтам, незалежна ад таго, што я тады была кіраўніком, працавала на пошце. Я не баялася, што магу страціць працу. Я нават пра гэта тады ня думала. Дзіця маё мне было важнейшае.

Людзі ў нас тут па-рознаму ставіліся да гэтай сытуацыі. Інтэрнэту тады не было, і я ня ведала, хто там што пісаў. Але, думаю, што нават калі нехта і казаў, ой, шкада, шкада, то чыста па-чалавечы мала хто ставіўся. Знаўшы нашых людзей… Я ня верыла ў іх шчырасьць і спачуваньні. А яшчэ што начальніца, дык так ёй і трэба. Але я ніколі ня падала духам. Я ніколі на людзях не паказвала, што мне цяжка. Я ня плакала і ўсё рабіла, як трэба. Першыя два тыдні я не магла спаць. Я ўяўляла, як ён там, у той турме, і як яму цяжка. Да гэтага часу так. Як пачынаю ўзгадваць, дык баліць.

У турме да яго ставіліся добра. У мяне ёсьць усе лісты, якія ён мне тады пісаў. Тады мала можна было бачыцца, і перадача была 8 кг раз на паўгода. Гэта цяпер можна 30 кг кожны месяц. Адразу

калі яго прывезьлі ў Жодзіна, дык пабілі там. Ён трапіў у бальніцу, але трапіўся добры доктар, які яму сказаў: „Шыдлоўскі, цябе ведаюць і памятаюць. Не здавайся“.

У Стоўпцах было па-рознаму. Ведаеце, часам ёсьць такія людзі, якія суперажываюць, як быццам бы гэта сваё, хаця і ня ведалі і ня зналі. А другі скажа: вот, нарабілася ў іх, і добра. Нават у тых Раманавых, дзе хлопца пахавалі. Там жа бацька бізнэсовец, багатыя людзі, дом прыгожы. Вы думаеце, што ўсе будуць ім спачуваць? Не паверу ў жыцьці.

Памятаю, як вызвалілі Лёшу, я пайшла ў пашпартны стол яго прапісваць. І мне пашпартыстка кажа: Чаго вы хочаце яго прапісаць? Вам гэта трэба? Я кажу: Не зразумела. Гэта маё дзіця. Што значыць трэба?

У горадзе не было пытаньняў да яго, ніхто не казаў нічога адкрыта. Усе ведалі, што Лёшка харошы. Муж мой падтрымліваў яго цалкам. Нават езьдзіў зь ім на дэманстрацыі. Тады яшчэ так не было, што ціснулі на бацькоў за дзяцей і ўвогуле. Я тады яшчэ была намесьніцай, і потым райвыканкам зацьвярджаў маё павышэньне. Цяпер такое немагчыма. Цяпер і самога пасадзяць.

Калі ён выйшаў, я ўжо яго не ўгаворвала ўсё кінуць і ўсё забыць. Не. Ён сам сабе гэта выбраў. Я ў яго пыталася неяк раз, можа б, ты, кажу, памяняў нешта? Ён сказаў мне: ужо не, мама. Гэта стала яго мэтай. Адзінае, што калі нешта пачыналася, мітынгі ці што, я не знаходзіла сабе месца. Я ведала, што могуць пасадзіць, забраць. А колькі,

аказваецца, я яшчэ і ня ведала. Што і забіралі, і садзілі. Ніхто мне гэтага не казаў. Адседзеў 3-5 дзён і выйшаў, а я нічога пра гэта ня ведала. Мабільнікаў жа не было, былі пэйджары. Скінеш на яго, а там цішыня.

Тады, калі на Нямізе была бяда… Лёша ж там быў таксама. Ня можам дазваніцца на гэты пэйджар. Раніцай а 6-й гадзіне садзімся на машыну і едзем у яго кватэру. Заходзім, а там нешта мокрае вісіць. Божа, у мяне гістэрыка. Але яны выйшлі раней, ня трапілі туды. Толькі пад дождж трапілі, дык прамоклі.

Па-мойму, у 2007 годзе ён зьехаў зь Беларусі. Спачатку ў Кіеў. Бо была нейкая бойка, ён піхнуў партрэт Лукашэнкі. Ён мне пазваніў і сказаў: мама, так трэба. І мы туды да яго таксама езьдзілі, перад тым, як яны далей на Захад паехалі. У 2008 годзе яны ўжо паехалі ў Брно. Цяжка яму там было. Ён кажа мне: мама, я кепскі эмігрант. Але як бы ні было, горш ці лепш, я была спакойная, што яго больш ня будуць браць. А так забіралі ў Менску з хаты, быццам бы спраўляў патрэбу ў пад'езьдзе або лаяўся матам. Ведаеце, як мне гэта было цяжка вытрымаць. Я ведала сваё дзіця і ведала, што ён у страшным сьне такога б не зрабіў. А сьведкамі, быццам бы, былі міліцыянты. Паехаў за мяжу, мне цяжка, але спакайней усё роўна. Ёсьць скайп, дык пазваню, пагаворым, унука ўбачу. Часам ежджу туды да іх, — завяршае свой расповед маці.

У 2011 годзе, праз 14 гадоў пасьля ўчынку Аляксея, з будынку райвыканкаму ў Стоўпцах

ізноў быў скрадзены дзяржаўны сьцяг. Адбылося гэта зноўку ў жніўні, як і ў 1997 годзе.

Міліцыя праводзіла размовы зь мясцовымі актывістамі і здымала адбіткі пальцаў. Вінаватага не знайшлі. Але, як у тым самым 1997 годзе, міліцыянты наведалі ў Стоўпцах Шыдлоўскіх.

## Калі Стоўпцы рабіліся каляровымі

З Аляксеем Шыдлоўскім я сустракаюся ў Празе, дзе ён жыве апошнія 11 гадоў. Ён прыходзіць з сынам, школьнікам малодшых клясаў, які нарадзіўся ўжо тут. Мы сядаем у кутку праскай гасподы і вяртаемся ў той час, калі Аляксей быў ва ўзросьце свайго сына.

— У Стоўпцах адбывалася маё сталеньне. Гэта быў канец 80-х, пачатак 90-х. Пераломны для краіны час. З шэрага і ніякага гораду, як мне падавалася, Стоўпцы рабіліся больш каляровымі. Зьявіліся колеры шапікаў, прыватнага гандлю. Зьявіліся першыя палякі, якія прыяжджалі прадаваць першыя жуйкі. Гэта быў час майго першага прадпрымальніцтва. У мяне няма нэгатыву, зьвязанага з 90-мі. Усё неяк давалася само сабою, я вучыўся ў школе, і мне ўдавалася яшчэ і зарабляць нейкія грошы, меў тое, што хацеў. Бацька быў кіроўцам, маці паштаркай, грошай вечна не ставала, але памагала гаспадарка ў вёсцы. У 17 гадоў я зьехаў у Менск і ўжо больш не вяртаўся.

— Ці не было ў цябе адчуваньня, што ты жывеш у дэпрэсіўным месцы, як мне казалі многія людзі ў горадзе?

— Калі б я зараз туды прыехаў, пасьля Прагі ці Менску, мне б так і падалося. Але тады я думаў, што так і мае быць. З 11 гадоў я пачаў езьдзіць у Менск на хакей і футбол, хаця б раз на тыдзень. І я плянаваў зьвязаць сваё жыцьцё зь Менскам. А потым у маім жыцьці ўзьнік БНФ.

— Ці людзі неяк зьмяніліся ў Стоўпцах? Нечым адрозьніваліся ад цяперашніх?

— У Стоўпцах былі розныя раёны, дзе жылі розныя людзі. У прынцыпе, тыя раёны і цяпер існуюць. Напрыклад, раён, які называюць Балота. Ён знаходзіўся за чыгуначнымі рэйкамі, якія дзеляць горад, у бок Акінчыцаў. Там жылі людзі, якія ўсе хадзілі ў касьцёл. Але пасьля Чарнобылю Акінчыцы засялілі перасяленцамі. Да гэтага яны былі маленькай вёсачкай, на некалькі дамоў. А потым туды прывезьлі паўтары тысячы чалавек, у асноўным з Нараўлянскага раёну. Яны ня вельмі інтэграваліся ў горад. Або не знаходзілі працу, або ня тую працу, якую хацелі. Той раён пачаў алькагалізавацца, а потым ператварыўся ў сталіцу стаўпецкага наркагандлю. Там і цяпер з гэтым змагаюцца. Але ў Стоўпцах ведаюць, калі хочаш набыць наркотыкі — трэба ехаць у Акінчыцы.

— Акінчыцы — гэта музэй Якуба Коласа, асацыяцыі ў шараговага беларуса з гэтым месцам зусім іншыя.

— Варта наведаць Акінчыцы ня толькі дзеля музэю Якуба Коласа, а прайсьціся цёмнымі вул-

камі ў выходны дзень. Можна пабачыць, як там ходзяць паўпрытомныя ад наркотыкаў школьнікі. Памятаю, у свой час былі хлопцы з паралельнай клясы, якія зь цяжкасьцю скончылі 9 клясаў. Яны ўвесь час былі пад дозаю.

Я быў прыпісаны да 3-й школы, новай. Але мне да яе было далей. І бацькі папрасілі, каб мяне перавялі ў 1-ю. У 2-ю хадзілі часткова з Балота і каляшкольных ваколіцаў. Цяпер Акінчыцы ходзяць у 2-ю, бо 1-я школа стала гімназіяй, і яны адсейваюцца.

Калі я вучыўся ў школе, самай лепшай лічылася 3-я. Там былі новабудоўлі, і ў новай школе быў басэйн, першая кампутарная кляса, вялікая спортзаля. Усе хацелі ў 3-ю школу. Памятаю, як мой сябра гуляў на футбольным полі каля школы № 2 і праваліўся ў дзірку, знайшоў золата. Там жа быў касьцёл да гэтага, яго падарвалі і зрабілі стадыён.

— Ці былі ў тым часе падобныя да гэтай трагедыі здарэньні? Агрэсія, гвалт такіх маштабаў?

— Такога не было. Быў у мяне такі сябрук на прозьвішча Шкодзік. Яму ў 15 гадоў далі 9 гадоў за рабаўніцтва. І больш я нейкіх такіх выпадкаў не ўзгадаю. Бывала, біліся школа на школу. Мы хадзілі ў 3-й клясе ў кінатэатар. Глядзелі „Айвэнга“, а калі выходзілі, настаўнікі казалі: Дадому ідзіце самі. А там нас ужо чакалі хлопцы з 2-й школы, каб адмалаціць. І на тым стадыёне мы рабілі бойкі, з прутамі і палкамі.

— Трэцяклясьнікі?



Аляксей Шыдлоўскі заўзятар

— Так. Зраненьні былі нармалёвыя. Калі дубцом б’еш па твары, дык зраненьні застаюцца. Яшчэ памятаю, што калі нехта з Цэнтру заходзіў у Балота, дык з таго боку яго мог нехта затрымаць і спытаць: Эй, ты чаго рэйкі перайшоў? Маглі добра пакалаціць. Калі я ўжо вырас, гэта пачало зьнікаць. Але горад быў падзелены рэйкамі на дзьве часткі. З таго боку людзі былі менш адукаваныя, але больш баявыя. А ў Цэнтры былі дзеці інтэлігенцыі, райвыканкамаўскіх працаўнікоў. А з таго — мясакамбінат, агракамбінат. Часам пра такія выпадкі казалі падчас школьных сходаў. Але некаторыя бацькі прыходзілі на сход у такім стане, што лепш бы яны ўвогуле там не паказваліся.

— А ці ў самой школе такое было магчыма?

— Не. У нас быў здаровы фізрук, былы вайсковец. Ён бы даў нам прасрацца, калі б нешта такое было. У школе быў парадак, а па-за школай усялякае бывала. Ён ня біў, але мог узяць за шыварат, правесьці ў спортзал і зачыніць там. Быў

„трудавік“, ад якога заўсёды пахла алькаголем. Але гэта яго ня моцна вылучала. Пасьля ўрокаў школьнікі ішлі на стадыён, вечна нейкія п’янкі, цыгарэты курылі. У маёй клясе масавае п’янства пачалося, калі я быў у 9-й клясе. Тады ня трэба было ехаць у Акінчыцы. Была куча крамаў у цэнтры, у любой краме прадавалі ўсё, што хочаш, нават дзецям. У перапынку дзеці бегалі туды. На пальцах выкідалі, хто пабяжыць. Усё было танна, скідваліся. Пілі „Асеньнюю таску“. Нават на ўроках. Настаўніца адвернецца да дошкі, і чувак — дзынь, нехта п’е. Былі выпадкі, што кагосьці выклікаюць да дошкі, а чалавек стаіць і трымаецца за дошку, бо ня можа пісаць.

— А ці баяўся ты выходзіць на вуліцу?

— Там, дзе я жыў, каля стадыёна і пошты, было бясьпечна. Там былі мае сябры. А туды, у Балота, я хадзіў да сяброўкі-аднаклясьніцы. Падышлі раз хлопцы і сказалі, каб больш не прыходзіў. Забралі пальчаткі і капялюш, запужалі. Горад маленькі, усе адзін аднаго ведалі. І ўсе гэтыя людзі потым пайшлі сядзець. І я пайшоў, але пазьней і за іншае.

— А ці мог ты ўявіць сабе такую сытуацыю, што вучань у тваёй школе можа забіць або зьбіць настаўніцу ці іншага вучня?

— У той час былі толькі няшчасныя выпадкі. Памятаю, хлопец паехаў з бацькам на паляваньне, і казалі, што выпадкова бацька застрэліў сына 10-клясьніка, у галаву. Яго хавалі ўсім горадам, усе школы закрылі. Мы стаялі 3 гадзіны ў чарзе, каб зайсьці ў царкву. Гэта пачатак 90-х. Хлопец, дарэчы, быў з 2-й школы. Быў адзін аднаклясьнік,

які памёр у 7-й клясе. Кажуць, што ўжыў першы раз наркотыкі. Там цікавая гісторыя, бо ён быў вельмі самастойны, і бацькі зьнялі яму пакойчык, каб ён жыў асобна. Хаця быў у 7-й клясе. І яго знайшлі ў ваньне мёртвага, сэрца спынілася. Але каб нехта нападаў на настаўніка, не прыгадаю. Не было таксама такой зайздрасьці, усе былі аднолькавыя, і не было чым мерацца. Самай вялікай раскошай у нас быў польскі пэнал, гэта была вяршыня багацьця. Бо нават калі б у цябе былі грошы, не было чаго купіць. Усе хадзілі ў аднолькавай вопратцы і з ранцам „Залатая шайба“. Каталіся з горкі на поліэтыленавых пакетах, а маці пасьля сварылася, бо пакет таксама быў дарагі. Не было нейкай гонкі за прэстыжнае ВНУ, проста казалі — стань нармальным чалавекам. Цяпер іншыя дзеці. Я ведаю выпадак, як у чэскай школе дзіця заявіла бацькам, каб яны аддалі яго ў сям’ю багацейшага аднаклясьніка, бо яны, маўляў, ня могуць нічога яму купіць, а тыя змогуць.

— Што ты падумаў, калі дазнаўся пра забойства ў школе?

— Шок, што такое магло адбыцца ў Стоўпцах. Людзям рабіць няма чаго. Я некалі чытаў, спортам займаўся. А іншыя раён на раён хадзілі. Я хадзіў на футбол, баскетбол, шахматы, лёгкую атлетыку. Я заўсёды вучыўся ў школе ў другую зьмену, а ранкам хадзіў у музычную. А пасьля школы ў спортзал. У мяне быў расьпісаны цэлы дзень. Калі б было інакш, магчыма і я б пайшоў бы рабіць нейкую лухту. Плюс кніжкі. Я быў запісаны ў дзіцячую бібліятэку і ўсё там перачытаў. А потым

запісаўся ў дарослую. А некаторыя аднаклясьнікі пачалі курыць у 3-й клясе. Цыгарэты называліся „Любітельскіе“. На іх было напісана „3-й класс“. І яны кажуць: Ну вось, бачыш, ужо можна курыць.

— А быў булінг у школе?

— Для кагосьці быў, але для мяне не. Цкавалі слабейшага ў сацыяльным пляне. Казалі: бацька твой беспрацоўны бухарык, маці працуе за капейкі. Апранаўся ён горш, выглядаў горш. Пачынаў раней курыць, але не цыгарэты, а махорку. Я стараўся яго абараняць. Ён трошкі, нібыта, уліўся, але стаў потым нефармалам, цалкам адасобіўся. Потым паехаў у Расею на заробкі і загінуў. Шмат у мяне сяброў загінула. Наркотыкі. І на дзяўчат шмат яны ўплывалі. Займаліся прастытуцыяй, каб зарабіць на наркату. Стаялі на менскай трасе. Самая буйная кропка была тады пад Дзяржынскім. Там іх была процьма. Усе ведалі Зінку, першую гарадзкую прастытутку. Усе яе паважалі, бо яна была першым прасунутым чалавекам, як многія казалі.

— А ці была мафія ў горадзе твайго юнацтва?

— Мафіяй была міліцыя. Цяпер ужо іншы склад, там навялі парадак. Але быў такі пэрыяд, мянты масава канфіскоўвалі ў Акінчыцах наркату. А потым прыходзілі з Акінчыц наркаманы, бо не было дзе ўзяць, а мянты ім прадавалі. Наўпрост у пастарунку ляжала нарката, і яе там прадавалі. Быў у мяне сябра, які гандляваў наркатой. Ён такі адважны быў, не здаваўся. І мянты яго ў Стоўпцах забілі да сьмерці. Памёр ад пабояў. Я быў на пахаваньні. Было бачна, што ён у труне

ляжаў увесь зьбіты, але не было ніякай справы. Сказалі, што ў камэры шмат разоў падаў. Я не кажу, што мой той сябра быў добры чалавек, але ж гэта міліцэйскі самасуд.

— І як ты ў такім горадзе пачаў займацца актывізмам, адкрыў для сябе БНФ?

— У 1995 годзе партыя БНФ дзейнічала абсалютна адкрыта, усё было больш адкрытым. Мы ніколі нават улётак ня клеілі па начах, толькі днём. Асабліва і не хаваліся. КДБ нас шукаў і ня мог знайсьці. І калі нас потым затрымалі, гэты КДБэшнік ня мог паверыць. Ён лічыў, што гэта мае быць хтосьці зь беднай і сацыяльна слабой сям'і, які чымсьці незадаволены. А ўсе былі з забясьпечаных сем'яў. Падпольшчына пачалася пазьней, пасьля рэфэрэндуму 1996 году. А да гэтага ў нас была адкрыта зарэгістраваная суполка.

— А як дайшло да таго гучнага выпадку?

— Насамрэч выпадкова. Вадзім Лабковіч быў ініцыятарам, ён сабраў хлопцаў і пазваніў мне. Маўляў, мы прыедзем, трэба твая дапамога, бо мы ня ведаем горад, а ў нас ёсьць адна ноч. Так сустрэліся, я іх правёў, паказаў, дзе райвыканкам і іншае. Але склалася так, што нас выпадкова пабачыў сьведка, які вельмі хацеў працаваць у міліцыі і падумаў, што гэта яму дапаможа. Нікога з прыежджых ён ня ведаў, ведаў толькі мяне. Таму і заяву ён напісаў на мяне. Цяпер гэты чалавек вельмі важная шышка ў горадзе. Бярэ хабары. Усе ведаюць, але ніхто нічога ня робіць. Мы якраз тады пісалі на бібліятэцы надпіс „Пазьняк – наш прэзыдэнт!“ А ён акурат праяжджаў, спыніўся і

кажа: Шыдлоўскі, я цябе заўважыў. Потым мы трошкі пахадзілі, павесілі сьцяг на выканкаме, і я іх правёў на вакзал. Гэта было 2-га жніўня. Але ж міліцыя ў нас нясьпешная. Пакуль тую заяву ад яго прынялі, пакуль пусьцілі ў ход. Пакуль яны перакінулі яе на КДБ. Кадэбіст думаў, што той памыліўся, і спачатку ня верыў і вырашыў правесьці вобшук дома. А дома былі сьцягі, улёткі, кніжкі кшталту „Вясна-96“. Усё канфіскавалі. Ён зьдзівіўся, але затрымалі мяне. Потым стала вядома, што на падставе тых паказаньняў. Я сам бачыў данос. Калі б гэта не дайшло да гэбіста, то яны б проста гэта замялі пад дыванок. Але той даносчык сам не чакаў такога выніку, думаў, што нас проста адчытаюць і ўсё. Але мы пасьля бачыліся, калі я прыяжджаў у Стоўпцы пасьля турмы. Ён не папрасіў прабачэньня і сказаў, што ўсё па справе. Гнілы чалавек.

— А як ставіліся мясцовыя міліцыянты да цябе, калі ты сядзеў у ІЧУ?

— ІЧУ быў у былой польскай стайні. Бо там, дзе былы РАУС, стаяла некалі польскае войска. Аднойчы там быў цікавы выпадак. Былі адтуль уцёкі. Стайня была драўляная, гэта ўжо пазьней яе абклалі цэглай. Страха падымалася. Усе дамовіліся, паднялі страху, і адзін пералез. Потым ужо ўсё ўмацавалі. І памятаю, калі я сядзеў, дык чуў, як заціскалі вязьням пальцы дзьвярыма. Каб выбіць прызнаньні, нават калі нічога не рабіў. Большасьць там была па справе. Але ніхто не пераймаўся доказамі. Процівагаз на морду і ўсё. Ніхто не правяраў адбіткаў пальцаў. Пабілі,

той падпісаў і ўсё. А потым я сядзеў на зоне са стаўпецкімі былымі міліцыянтамі, якія сядзелі за хабар. І быў там адзін добры дзядзька, міліцыянт. Яму здрадзіла жонка, і яго гэта нешта піліла, што можа ён вінаваты. І ён дастаў пісталет і стрэліў ёй у галаву. Яму далі 10 гадоў, але ён адседзеў толькі 5. Ён зрабіў страшнае злачынства, але быў добрым чалавекам.

— А як людзі да цябе ставіліся, калі ты вярнуўся?

— Вясною я прыехаў на тыдзень да бацькоў. На стадыёне было нейкае сьвята. Людзі гулялі ў шахматы. Прыйшоў і пачаў гуляць. І заўважаю, што ззаду людзі кажуць: о, дык гэта ж Шыдлоўскі, падыходзілі, паціскалі рукі. Больш было пазытыву. Потым быў вечар сустрэчы выпускнікоў. Падыходзілі, выказвалі сваю павагу. Некаторыя за ідэалы і прынцыпы, а некаторыя за тое, што проста адседзеў. Бо для іх я быў выдатнік і ціхоня. А яны кажуць: ну, ты нечакана вырас у маіх вачах. Там і цяпер дамінуе такая ідэалёгія, што калі ты адседзеў, то ты круты. Шансон з кожнага праса.

— А як ты лічыш, што магло быць прычынай забойства ў Стоўпцах?

— Я лічу, што гэта нейкі псыхаэмацыйны разлад, калі ты ня можаш адаптавацца ў новых умовах, ня здольны сацыялізавацца. Я назіраю за сваім сынам у школе, які ў клясе адзіны замежнік. Яму цяжкавата. Бо для чэхаў ён ня свой. Я некалі пляную вярнуцца ў Беларусь, але ня ведаю, якім будзе выбар сына. Часам ён прыходзіць са школы ў вельмі цяжкім псыхічным стане. Калі б

быў сябра ці брат, было б прасьцей. Ну і павінны быць стасункі з бацькамі добрыя. Бацька павінен быць сябрам.

— Думаеш пра вяртаньне ў Стоўпцы?

— Мне сьняцца часам бацькі. Сьніцца вёска Вішнявец, там быў вялікі дом, сад. Яблыкі, грушы, вішні. Вялізная тэрыторыя. Возера, лес. А Стоўпцы мне ня сьняцца.

## Горад „палітычнай анамаліі“

Некалькі гадоў таму ў Стоўпцах здарылася тое, ад чаго даўно адвыклі беларусы. За шмат гадоў менавіта тут дэпутатам Палаты прадстаўнікоў стаў чалавек, якога называюць апазыцыянэрам. Дакладней, апазыцыянэркай. Гэта Алена Анісім. Са 118 раёнаў Беларусі такое здарылася менавіта тут. Анісім і сама амаль стаўпецкая, нарадзілася і вырасла побач, у вёсцы Савоні.

Апрача таго, што спадарыня Анісім дэпутатка, яна яшчэ і кіруе Таварыствам беларускай мовы. Сябрам стаўпецкай філіі гэтай арганізацыі быў Саша Раманаў.

На другі дзень пасьля забойства дэпутатка таксама выказалася пра двайное забойства ў сярэдняй школе № 2.

Алена Анісім праблему ўбачыла ў тым, што ў дарослых вельмі часта няма шчыльных кантактаў зь дзецьмі, страчаная камунікацыя.

— Раней у вёсцы дзіця не магло прайсьці па вуліцы, каб зь ім не загаварыў дарослы. Цяпер ба-

цькі занятыя працай, зарабляюць грошы, а дзеці жывуць у віртуальнай прасторы, у інтэрнэце, і сваімі праблемамі яны не прывыклі дзяліцца з бацькамі ці сябрамі.

У сілу разьвіцьця цывілізацыі, я б сказала, залішняга абвалу інфармацыі, нашы дзеці аддадзеныя самі сабе. Мы мала часу трацім на глыбокія кантакты зь дзецьмі, мы мала іх выхоўваем у духу любові і клопату, — сказала Анісім.

Яна мяркуе, што гэта той нэгатыўны прыклад цывілізацыі, рытму і ладу жыцьця, які мы сёньня маем.

— А дзеці часьцяком у сілу свайго падлеткавага ўзросту, калі ў іх павышаная псыхічная эмацыйнасьць, дробныя праблемы ўспрымаюць як глябальныя і альбо канчаюць жыцьцё самагубствам, альбо ідуць на нейкую агрэсію. Вядома, нешта ж справакавала агрэсію ў стаўпецкага падлетка, а ніхто гэтага не заўважыў.

Амаль пяць гадоў Алена Анісім сустракаецца з жыхарамі гораду на размовах пра „набалелае“. Часта гэта крык аб дапамозе. Бо хто яшчэ можа выслухаць, як не дэпутат. Прынамсі па інэрцыі з ранейшых часоў людзі жаляцца найперш дэпутатам, хаця рэальнай улады ў іх няма.

Я спытаўся ў Алены Анісім, пра што кажуць на сустрэчах зь ёю жыхары гораду.

— Маладзейшых хвалюе праца, заробкі, месца адпачынку для дзяцей і для сябе, пэрспэктывы росту і аблічча гораду. Для старэйшых людзей — пытаньне побыту, абслугоўваньня, рамонту дарог, вуліц. Ад часу майго школьнага дзяцінства



Алена Анісім

і студэнцтва горад значна зьмяніўся. Калі раней на аўтавакзале яблыку не было дзе ўпасьці, так было людна, то цяпер людзей нашмат меней. Гэта зьвязана і з разьвіцьцём уласнага аўтатранспарту, але таксама са скарачэньнем вясковага насельніцтва. Відавочныя зьмены і ў гандлёвых аб'ектах. На плошчы замест унівэрмагу — Эўраопт, пасьля рэарганізацыі вайсковай часткі таксама адбыліся зьмены. Ну і зусім відавочнае — новы мікраараён з высотных дамоў.

Зрабіць рывок Стоўпцам замінае залішняя цэнтралізацыя, лічыць Алена Анісім. Усе пытаньні, на яе думку, можна вырашыць, калі разьвіваць

самакіраваньне, каб людзі выбіралі кіраўніка выканаўчай улады гораду, каб маглі наўпрост уплываць на выкарыстаньне бюджэтных грошай, каб бралі ўдзел у абраньні пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця гораду. Але пакуль гэта марныя спадзяваньні. Дэпутатку засмучае, што нават на сустрэчах зь ёю мясцовыя жыхары не заўсёды шчыра кажуць пра асобныя праблемы.

— Зьмяніць нешта можна толькі з удзелам саміх людзей. Трэба арганізоўваць моладзь для таго, каб абмеркаваць, што не падабаецца, што хацелася б мець. І далей працаваць разам, каб атрымалася тое, пра што марыцца. Хочацца верыць, што Стоўпцы пэрспэктыўны гарадок, які моладзь палюбіць і будзе тут рэалізоўваць свае мары. Але, як на мой погляд, ёсьць нейкая зацятасьць, калі размаўляеш тут зь людзьмі, і яна спараджае панурасьць. Часам гэта прыводзіць да трагедыі.

Першыя рэчы, якія б Анісім зрабіла ў Стоўпцах, гэта выбары мэра і адкрыцьцё краязнаўчага музэю, пра які гаворыцца амаль 20 гадоў. Выбары мэра — гэта на сёньня ня меншая ілюзія, чым 100-тысячныя Стоўпцы за 20 гадоў. Краязнаўчы музэй мог бы пачаць працу даўно. На яго быў нават вылучаны вялікі будынак у старой частцы гораду. Але неўзабаве будынак прадалі прыватнаму інвэстару, і пра музэй усе забылі. Спытаць пра гэта ў тагачаснага старшыні райвыканкаму або загадчыцы раённага аддзелу культуры ўжо немагчыма. Абое ўжо не працуюць на сваіх пасадах. І, як кажуць у Стоўпцах, не выпадкова.

## Стоўпцы ў дэпрэсіі, бо людзі — у сабе

Некалі ў 1990-я ў Івянец прыехаў ураджэнец гэтага краю, які ўсе пасьляваенныя гады правёў у Вялікабрытаніі. Калі ў яго спыталіся, што зьмянілася ў мястэчку за паўстагодзьдзя, той адказаў двума словамі: „Платы памалявалі“. Неяк так і ў Стоўпцах. Праўда, узімку незаўважна і гэта. Рэшткі бруднага сьнегу, шэры краявід, бледныя будынкі, брудныя аўтамабілі на дарогах, рэдкія мінакі.

— Дэпрэсіўнасьць гэтага гораду — вялікая праблема. Уся Беларусь дэпрэсіўная, і яна даўно дэпрэсіўная. Некалі Стоўпцы мне падабаліся. Тады горад быў іншым і не шакаваў мяне. Мяне прывозіў нармальны аўтобус за 3 капейкі. Калі я прасіў недзе спыніцца, ён там спыняўся. То бок акружэньне, людзі, была дабрыня людзей. Было спрыяньне, — кажа мне блогер і эколяг Валер Дранчук, калі мы скачам з купіны на купіну, каб не ўваліцца ў бруд каля стаўпецкага аўтавакзалу.

У школьныя гады гэтае месца нагадвала мне Індыю. Прынамсі так я яе ўяўляў. Натоўпы людзей, крыкі, сваркі, торбы, ванзэлкі, цьвярозы і п’яны сьмех, семкі, пакеты. Сёньня тут амаль поўная цішыня і адзін невялікі аўтобус на вялізнай пасадачнай пляцоўцы.

Валер Дранчук нарадзіўся побач са Стоўпцамі, на хутары Гавязна, дзе ён і праводзіць цяпер большасьць часу, хаваючыся ад мітусьні. Калісьці



Валер Дранчук

гэты горад быў іншым. Цяпер ён, кажа Дранчук, страціў прыцягальную сілу.

— Мне здаецца, што раней у Стоўпцах было больш дабрыні, больш усьмешак, больш увагі адзін да аднаго, цябе неяк больш заўважалі. Цяпер людзі больш у сабе. Чаму людзі паглыбляюцца ў інтэрнэт і знаходзяць там нейкую асалоду, а тут, у бібліятэцы, напрыклад, не знаходзяць? Тут жа ты камунікуеш з блізкімі. Мне здаецца, што не напрацаваная нейкая новая практыка. Пайшло адчужэньне, людзі ў шматпавярховіках адзін аднаго ня ведаюць. Гэтым жа павінен займацца нехта. Чым займаецца аддзел ідэалёгіі? Гэта справы ўлады, калі яна сама ўзяла на сябе такую місію.

Спадар Дранчук згадвае былога кіраўніка стаўпецкага аддзелу культуры Анатоля Грэкава, які памёр 10 гадоў таму ад раку. Яго ён называе стваральнікам камунікацыі паміж людзьмі ў Стоўпцах. Грэкаў выдаваў кнігі, рабіў прэзэнтацыі, выставы, ставіў помнікі, ствараў мастацкія калектывы. Менавіта яму належала ідэя адкрыць у горадзе краязнаўчы музэй, у якім ня ўбачыла патрэбы ягоная наступніца.

— Грэкаў быў службай. Яго няма — і няма той службы. Я памятаю, як людзі гаварылі з Грэкавым. Ён — іх памочнік. Ён кажа: давай, давай, я прыеду, далучуся. Ён не камандаваў, а дапамагаў, і даваў людзям 100% свабоды. І раённая газэта. Беларускамоўнасьць яна вытрымлівае, але па зьмесьце зусім ня тое, што было. Я ў маладосьці працаваў у „Прамяні“, у аддзеле лістоў, дык колькі лістоў было. Яны ішлі чарадой. За месяц ад 30 да 50. Гэта ж таксама камунікацыя паміж людзьмі. А цяпер паўсюль паказушнасьць.

Пляцоўкі, дзе людзі маглі б сустракацца, павінен ствараць горад, лічыць Валер Дранчук. Але праблема ў заганным коле.

— Людзі працуюць на свае гаспадаркі, жывуць спажывальніцтвам. Я ўсяляк намагаюся адбіцца ад гэтага спажывальніцтва. Я б таксама мог сабе знайсьці мноства заняткаў, але тады я ведаю, што не напішу кніжку, артыкул і г. д. Калі я прыяжджаю на хутар, дык іду на рэчку. Калі я прыходжу ў грамадзкую лазьню, бачу вельмі цікавых людзей і думаю, чаму яны не актыўныя. У грамадзкім жыцьці, яны лічаць, за іх усё нехта зробіць.

Нічога добрага ў тым, што надыходзіць, Валер Дранчук ня бачыць. І лічыць, што ўсё імкліва будзе мяняцца ў горшы бок. Людзі будуць яшчэ больш разьяднноўвацца і гэта будзе спараджаць праблемы.

— Памятаю, прыехалі мы калісьці ў Аахен у Нямеччыне. Вечарам ідзе насустрач натоўп. І ўсе з намі вітаюцца. А мы абсалютна новыя людзі. Нам усьміхаюцца. А яны ідуць у свой рэстаран. І мы паглядзелі, чым людзі там займаюцца. Яны ідуць камунікаваць. Нават не ў бібліятэку. Камунікацыя — гэта нават паклон незнаёмаму чалавеку. Ці іх так навучылі, ці газэта, ці радыё, ці гэта нацыянальная прыкмета. Мы павінны вельмі шмат пра гэта дыскутаваць — якімі нам быць. Мы павінны быць вельмі адкрытай, усьмешлівай і камунікатыўнай нацыяй. Як гэта, каб ты некуды прыйшоў і не адкрыў рот? Людзі баяцца проста адкрываць рот. Я на другі дзень пасьля здарэнь-



ня ў школе № 2 наведаў яе. Там няма аніводнай кветачкі. Хто забраў адтуль кветкі і зьнічы? А я ведаю хто. Улада. Кветкі ж там былі. Адна асоба мне тэлефанавала і кажа: Я ж кветкі занесла. І ад суседзяў таксама. Цэлы букет занесла. Я пытаюся, а куды яны дзеліся? Я там быў і кветак ня бачыў. Ніводнай. Машын процьма, а кветак няма. Людзі хочуць выказаць свой боль і спачуваньне, яны пра гэта гавораць дома. Гэта вельмі важны чын. А яго не было падчас гэтага болю. Або быў ён недастатковы.

## Начальства мяняецца часта

Начальства мяняецца ў Стоўпцах часта і, здаецца, безвынікова. Ад яго гораду ані горача, ані холадна.

У 2009 годзе былога старшыню Стаўпецкага райвыканкаму Ігара Радзюка асудзілі за тое, што ён незаконна павялічыў зямельны ўчастак, добраўпарадкаваў яго, адрамантаваў дом і абнёс усё гэта жалезабэтонным плотам. У выніку двум унітарным прадпрыемствам былі нанесеныя страты больш чым на 165 млн рублёў. Гэта было да дэнамінацыі.

Разам з Радзюком суд асудзіў ягонага намесьніка і дырэктара дзяржаўнага будаўнічага прадпрыемства ў Стоўпцах. Яны атрымалі тэрміны ад 3 да 4 гадоў зьняволеньня.

Высокапастаўленыя дзяржаўныя службоўцы паўсюль любяць жыць прыгожа. І часта ім гэта

ўдаецца. Але ў такой прафэсіі ёсьць вялікі мінус. Грымнуцца з вышыні таксама можна вельмі „прыгожа“, бо да такога жыцьця ня ўсе ідуць законна. У маленькіх гарадах начальству здаецца, што ніхто гэтага не заўважыць, бо ўся ўвага на сталіцу і абласныя гарады. Памылка. Тут, у правінцыі, акурат усё, як на талерачцы. Таму і ратацыя ў такіх мясцовасьцях імклівая.

У Стоўпцах за 10 гадоў зьмянілася чацьвёра старшыняў райвыканкаму. Яшчэ аднаго звольнілі падчас праверкі фэрмаў раёну, дзе заўважылі вялікую безгаспадарнасьць. Хаця да гэтага ён хваліўся, што паказьнікі выканаў больш як на 100%, а пасьля звальненьня нават атрымаў грамату. Цяпер ён узначальвае іншы вялікі калектыў у раёне. Трэцяга ціхенька перавялі ў іншы раён, без публічнага скандалу. Чацьвёрты заступіў на працу зусім нядаўна, але доўгай кар’еры стаўпецкія жыхары яму не прадказваюць. Пакуль ня надта гучна крычыць на падначаленых.

У паселішчы, дзе працоўных месцаў што кот наплакаў, дзе зачыняюцца прадпрыемствы і самыя актыўныя вырашаюць працаваць на сябе, стаць начальнікам для многіх — самы заўважны аванс. Нібыта збоку, нібыта невялікая адказнасьць, варочаць горы таксама не патрабуюць. Сядзі і даводзь паказьнікі па малаку і мясу. Але начальнікі таксама людзі, і бывае, што даюць слабіну.

У горадзе поўна прыватных крамак, шапікаў, лавак, дзе стаўпецкія самі зарабляюць сабе на

жыцьцё, тым часам як дзяржаўныя прадпрыемствы пакрысе даходзяць да ручкі.

„Белкаапсаюз“ у Стоўпцах у вартым жалю стане і абʼядноўваецца зь Нясьвіскім. Мясцовая пошта ўжо абʼядналася зь Дзяржынскай. Філіял Менскага маторнага заводу, які чвэрць стагодзьдзя зьяўляецца галоўным магнітам прыцягненьня ў Стоўпцы маладой крыві, свае найлепшыя гады ўжо пабачыў, і яны наўрад ці паўторацца. На заводзе, дзе працуе тысяча чалавек, каторы год адбываюцца скарачэньні, рабочыя скардзяцца на мізэрныя заробкі і на тое, што самі вымушаныя прыносіць на працу сьвердлы і сьпяцоўкі.

Мне распавядаюць, што ўсіх старшыняў стаўпецкага райвыканкаму за апошняе дзесяцігодзьдзе здымалі „ня проста так“. Справы не хацелі агалошваць, каб не псаваць і так ня вельмі добрую марку беларускага чынавенства. У выніку жаданьне цішыні ў любой справе стала ледзь не галоўнай рысай у працы дзяржаўных службоўцаў.

Калі я спрабую дазнацца пра самага гаспадарлівага начальніка раёну, то пытаньне павісае ў паветры. Узгадваюць хутчэй самыя шалёныя пляны некаторых зь іх. Юры Горлаў, напрыклад, хацеў быў увогуле ачысьціць цэнтральную плошчу Стоўпцаў і з рынку прыбраць гістарычныя будынкі. Начальнік загарэўся зьнішчыць плошчу, каб было месца для правядзеньня сьвятаў. І старыя будынкі хацеў пазьнішчаць. Але яго своечасова спынілі. Цяпер ён кіруе яшчэ больш раёнам.

## Сьледчы Бець

Празь некалькі дзён пасьля майго вяртаньня са Стоўпцаў у Прагу — званок з малой радзімы.

— Ці чуў ты, што ў нас ізноў нарабілася? У Стоўпцах бяда. Зьнік сын настаўніцы з суседняй вёскі, ён там сьледчым працаваў. Другі дзень знайсьці ня могуць.

Пакуль я дайшоў з дому да працы, маладога сьледчага Станіслава Беця знайшлі павешаным у ляску на выезьдзе са Стоўпцаў. Сьледчы камітэт патлумачыў, што ён ніяк ня быў зьвязаны са справай аб забойстве ў школе. Але другое трагічнае здарэньне ў „Горадзе Міру“ з розьніцай у два тыдні прымушае задаць пытаньне: што тут адбываецца?

Гэтаксама больш за 10 гадоў таму знайшлі павешаным у Стоўпцах майго школьнага знаёмага, на год за мяне маладзейшага Дзіму Макася. Дзіма пасьля вучобы пачаў працу ў падатковай інспэкцыі. Быў вельмі дакладным і абавязковым. Яго бацькі ніколі не зьмірыліся з тым, што гэта было самагубства.

З бацькамі Станіслава Беця яшчэ перад пахаваньнем сына размаўляла мая калега Інэса Студзінская. Яны таксама ня вераць, што іх дзіця адабрала сабе жыцьцё.

Маці Станіслава Ірына працуе настаўніцай пачатковых клясаў у Дзераўной, дзе вучыўся і яе сын. Кажа, што той марыў паступіць у Акадэмію МУС, стаць сьледчым.



Архіў сям'і Бецьі

Станіслаў Бецьь

— Мы з бацькам вельмі асьцярожна адгаворвалі, казалі, што вельмі адказная і цяжкая прафэсія, мо выбірай якую іншую, дзе лягчэй — сувязістам, настаўнікам. Але сын настаяў на сваім.

Здаецца, у 10-й клясе яму прыйшло запрашэньне паступаць у Акадэмію, ён вельмі гэтым ганарыўся. У школу прыяжджалі спэцыялісты ў прафарыентацыі, і Станіслаў быў вельмі рады, калі сказалі, што ён падыходзіць да працы ў міліцыі. Быў увесь натхнёны, акрылены: „Мамачка, я так хачу туды паступіць!“ Сэрца маё працівілася, я ж разумела, што прафэсія цяжкая, адказная, далёка не рамантычная. Але блаславіла сына, сказала, што ўсім дапамагу.

Калі паступіў, і я, і бацька вельмі ганарыліся сынам.

Ён добра вучыўся, заўсёды на павышаную стыпэндыю. На ўрачыстасьці з нагоды заканчэньня Акадэміі мы паехалі з бацькам у Менск, імпрэза была на плошчы Дзяржаўнага сьцяга, ён прымаў прысягу — вельмі кранальна гэта было.

І тут я адчуваю сваю віну... Станіслаў скончыў сьледча-экспэртны факультэт, яму прапанавалі выбіраць працу: было месца ўчастковага і месца сьледчага. Ён яшчэ вагаўся, што выбраць. І раіўся з намі. А я кажу: „Сынок, выбірай сам. Але ты скончыў такі прэстыжны факультэт, можа, усё ж ідзі сьледчым. Я прыму любы твой выбар“.

Пайшоў працаваць сьледчым. Дняваў і начаваў на працы ў прамым сэнсе. Тэлефаную а сёмай вечара — кажа, што ён на працы. Кладуся спаць аб 11-й, званю — „Мама, я яшчэ на працы, шмат спраў“. Тэлефаную раніцай — „Мама, вельмі позна прыйшоў, паспаў дзьве гадзіны, памыўся і вось іду на працу“.

Яму праца падабалася. Хлопец ён вельмі адказны, усе, хто яго ведае ў нашай вёсцы, пацьвердзяць мае словы. Адказна ставіўся да ўсяго, што рабіў. Але ніколі не распавядаў пра тое, чым канкрэтна займаецца, не дзяліўся, якія справы разглядае.

Не магу зразумець, не магу патлумачыць, што здарылася. Не магу прыняць. Але сэрца мамы кажа, што ня мог ён так зрабіць, ня мог! І калі мне ўчора патэлефанавалі, што Станіслаў ня выйшаў на працу, я кажу: „Ня можа быць!“ Да чаго-чаго, а да працы вельмі адказна ставіўся.

Апошнім часам рэдка прыяжджаў дадому, хаця ад Стоўпцаў да Дзераўной 35 кілямэтраў. Пытаюся: чаму так рэдка прыяжджаеш? Адказвае: „Мама, працы шмат, я малады спэцыяліст, хачу ўсё дасканала вывучыць, усё ведаць“.

У мінулыя выходныя таксама ня змог прыехаць, але да мяне заехаў яго сябар Андрэй, зь якім яны разам вучыліся ў Акадэміі МУС, цяпер разам працуюць, жывуць на здымнай кватэры. Прывёз нам кантэйнэры, у якіх я перадачкі перадаю. Я іх зноў напоўніла. Пытаюся: „Сынок, колькі табе яек пакласьці: дзясятак ці два?“ Адказвае: „Кладзі паболей, няма часу на гатаваньне, вельмі люблю раніцай яечню падсмажыць“.

Учора, калі мне патэлефанавалі пра няшчасьце, зайшла я на кватэру, дзе ён жыў. Парадак ідэальны, кашулі папрасаваныя, акуратна разьвешаныя на плечыках, усё чысьценька: маечкі, шкарпэткі складзеныя. Вельмі акуратны, глядзеў сябе.

У 10-11-й клясах была ў яго дзяўчына, сябравалі яны. А потым вучоба, праца. Я часьцяком пыталася: ці ёсьць у цябе з кім-небудзь сур'ёзныя стасункі? Жартаваў: „Мама, калі будуць, ты першая даведаесься“. Я таксама жартавала: „Твая дзяўчына — гэта твая праца“...

Апошні раз ён прыяжджаў дадому ў канцы студзеня. Мы заўсёды ў нядзелю ўсе разам, усёй сям'ёй ходзім у касьцёл, які побач з нашым домам. І калі Станіслаў вучыўся ў школе, таксама заўсёды хадзіў у касьцёл.

Ня веру, не магу зьмірыцца, не магу прыняць, што ён сам гэта зрабіў... Мы ўчора ўспаміналі з

бацькам, што некалі, даўным-даўно, былі размовы, глядзім жа тэлевізар, чытаем пра нейкія падобныя выпадкі. Дык Станіслаў заўсёды казаў: „Я люблю жыцьцё“. Ну ня мог ён сам, ня мог...

## Пасьля прысуду

За двайное забойства ў стаўпецкай сярэдняй школе № 2 11 лютага 2019 году Менскі абласны суд прысудзіў Вадзіму М. 13 гадоў каленіі і 110 тысяч рублёў кампэнсацыі для сям'і забітай настаўніцы.

Абвінавачаны прызнаў сваю віну часткова.

Дзяржаўны абвінаваўца пасьля паседжаньня выйшаў да журналістаў, але на большасьць пытаньняў адказаць ня змог, бо працэс быў закрыты.

Судзьдзя зачытаў толькі рэзалюцыйную частку прысуду, гэта заняло каля трох хвілін. Потым родныя ахвяр і асуджанага хутка сышлі з залі. Даць невялікі камэнтар пагадзіўся толькі сын загінулай настаўніцы:

„Гэта максымальны тэрмін, але людзей усё адно не вярнуць. Ён забіў чалавека, які даваў іншым веды. Такім, як Аляксандар Раманаў. Раманаў мог праславіць ня толькі Стоўпцы, але і краіну ў цэлым. Грамадзтва страціла такіх людзей, а атрымала аднаго такога. Чалавек проста беспрычынна забіў людзей, як выявілася. Што яму перашкодзіць паўтарыць гэта? Ці раскаяўся ён? На словах можна раскаяцца. Вы бачылі яго вочы?“

Судовы працэс і яго заканчэньне прайшлі жорстка паводле сцэнару, які ў першыя дні пасьля забойства вызначыла ўлада і ейная прапаганда: чым менш ведае грамадзтва, тым лепш будзе спаць.

Пракурор паведаміў, што злачынства было ўчыненае „з хуліганскіх памкненьняў“.

Фармулёўка нагадвае звычайную бюракратычную адпіску. Грамадзтву цікава, а ці быў каталізатар і матыў забойства? Калі так, то які? Калі не, дык што падштурхнула падлетка забіць сваю настаўніцу і іншага вучня? Ці хтосьці акрамя забойцы нясе за гэта адказнасьць? І нават не юрыдычную. Што ня так было ў сям’і, ці былі памылкі ў школе або ў грамадзтве, дзе жылі забойца і ягоныя ахвяры? З забойцам шмат разоў размаўлялі псыхолягі і псыхіятры. Што яны пабачылі, які знайшлі адказ? Навошта суд, які не



дае адказаў на гэтыя пытаньні ў справе, дзе ад пачатку было ясна, хто і як забіў?

У крымінальных кодэксах краінаў Захаду ўвогуле не існуе хуліганскага матыву забойства. Гэта спадчына савецкіх часоў. Хуліганства згадваецца ў некаторых крымінальных кодэксах постсацыялістычных краінаў, напрыклад, Польшчы ці Чэхіі, але яно зьвязанае з бойкамі і вандалізмам, з парушэньнем грамадзкага парадку, з выклікам уладам. Не з забойствам. У Крымінальным кодэксе Чэхіі, напрыклад, існуе паняцьце „забойства сьвядомае ці з папярэднім замыслам“. На Захадзе тэрмін хуліганства зьвязаны з футбольнымі псэўдазаўзятарамі, але не з матывам забойства. Забойства з хуліганскага матыву немагчымае ў прынцыпе.

Калі б забойца быў хворы або пад узьдзеяньнем наркотыкаў, справа была б вельмі простай. Усё было б ясна без суду. Але нас пераконвалі, што забойца быў цалкам нармальны.

Тады што хаваў суд пры зачыненых дзьвярах? У чыіх гэта было зроблена інтарэсах і што нас можа напалохаць яшчэ больш, чым забойства, якое ўжо адбылося?

Адказы на гэтыя пытаньні патрэбныя не дзеля таго, каб задаволіць звычайную цікаўнасьць падчас гучнай справы. Яны патрэбныя для таго, каб спыніць усялякія інсынуацыі, якія могуць кідаць цень на забітых. Яны павінны, каб паставіць кропку на фэйках, а не спараджаць новыя. Іхная задача — сфармуляваць памылкі і заахвоціць грамадзтва зрабіць над імі працу. Гэта ня верне

Раманавым і Пархімовічам іхных родных людзей. Але бяз гэтага хаваць сваіх родных давядзецца іншым.

Празь некалькі дзён пракамэнтаваць суд пагадзіўся і бацька Сашы Раманава Сяргей.

„Падсудны не шкадуе пра тое, што зрабіў. Хто прысутнічаў на працэсе, гэта разумее. Калі б людзі пачулі яго першыя паказаньні, многім стала б дрэнна. Гэта ня словы падлетка, гэта словы закамплексаванага монстра. Ён пашкадаваў сябе, калі панюхаў камэрнага жыцьця і стаў зьмяняць паказаньні. І суд гэта таксама, я думаю, разумеў. Калі б мог, тэрмін быў бы большым.

Што прывяло яго да такога дэпрэсіўнага стану, я ня ведаю. Сваё жыцьцё ён ацаніў на 30%“.

Бацькі Вадзіма М. адказалі адмовай на маю просьбу паразмаўляць як да суду, так і пасьля. Яны, як і бацькі Сашы, надалей жывуць у Стоўпцах.

Забойцу затрымалі. Забітых пахавалі. Кіраўнік краіны сказаў, што вінаватыя ўсе. Адбыўся суд, высноваў якога жыхары гораду ня ведаюць. Таму ўсе высновы яны робяць з чутак. Што працэс куплены, што працэс несумленны, што праўда схаваная.

Жалоба скончылася, і горад вярнуўся да ранейшага жыцьця.

## Памылка Ганны Арэнт. I мая

„— Дык ты, бабка, ня ведаеш, чаго мы на сьвеце жывем?

— Не, панічок, ня ведаю! Каб вы запыталіся ў дрэва, чаму яно расьце, дык хіба ж бы яно вам адказала? Так і я не магу адказаць вам. Жывем, покі жывецца, бо жывы ў зямлю не палезеш, а прыйдзе сьмерць, тады пахаваюць“.

Гэта эпізод дыялёгу не са Стоўпцаў, хаця пытаньне задаваў, бясспрэчна, самы вядомы іх ураджэнец у гісторыі. Гэта фрагмэнт дыялёгу героя Якуба Коласа са старой паляшучкай 100 гадоў таму, апісанага ў трылёгіі „На ростанях“.



Калі мы не шукаем адказаў на пытаньні, не прымушаем сябе думаць крытычна і сумнявацца, мы ствараем урадлівую глебу да пашырэньня зла, пісала Ганна Арэнт: „Каб учыняць зло, ня трэба быць дэгенэратам, чалавекам бяз этыкі і маралі. Зло ўчыняюць самыя звычайныя людзі, якія прымаюць за норму пэўны парадак і правілы ў грамадзтве. Мы можам прыняць і трымацца самых абсурдных правілаў, нават калі яны наскрозь паталягічныя. І мы будзем кіравацца імі ў сваім жыцьці, пакуль не пачнём задаваць сабе пытаньні пра іх сутнасьць“.

Арэнт лічыла, што ўсе ня могуць быць вінаватыя, і была супраць калектыўнай віны. „Там, дзе вінаватыя ўсе, не вінаваты ніхто“, — пісала яна.

Я цяпер думаю, што гэта так і ня так. Проста „так“ — справа суду, а „ня так“ — людзей. Журналістаў, суседзяў, настаўнікаў. Ад таго, што мы „як дрэва“, мы не перастаем быць лесам. У гісторыі Стоўпцаў цяпер заўсёды будзе гэты шнар ад нажавой раны. І адзінае суцяшэньне, адзіная перавага будучыні перад мінуласьцю ў тым, што мы можам спрабаваць яе зразумець.

Ня можам не спрабаваць.

# Паказьнік асобаў

**Р**



**С**

**Ш**



**Э**



**Ю**

## Пра аўтара

Дзьмітры Гурневіч — нарадзіўся ў 1983 годзе ў вёсцы Дзераўное Стаўпецкага раёну. Пасьля заканчэньня сярэдняй школы ў вёсцы Налібакі вучыўся ва Ўнівэрсытэце Кардынала Стэфана Вышынскага ў Варшаве (Інстытут мэдыяасьветы і журналістыкі). З 2006 да 2016 году працаваў на Польскім радыё і тэлеканале Белсат. З 2016 году працуе на Радыё Свабода. Жыве ў Празе.

## Summary

On September 11, 2019, the Minsk regional court rendered its verdict in the case of a double murder at school Number 2 in the town of Stoupcy.

Author Dźmitry Hurnievič paints a portrait of the town, it's denizens,  history, and urban legends and, through the prism of Hanna Arendt's philosophy on the nature of totalitarianism, seeks to discover the causes and motives behind a crime that rocked the country.

A native of the region, Hurnievič was born in 1983 in the Stoupcy district's village of Dzieraunoje. Upon graduating from Nalibaki high school, he began his pursuit of a degree in journalism and mass media at the university of Cardinal Stefan Wyszynski in Warsaw. From 2006 to 2016 he worked as a journalist for Polish radio and the Belsat television channel. Hurnievič joined the Belarus Service of Radio Free Europe/Radio Liberty in 2016 and currently lives in Prague.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.* **Прыгоды АРА ў Беларусі.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** 2-е выд., дапоўненае. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.* **Вострая Брама.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Беларуская Атлянтыда.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03–25.03.2006.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.* **Альбом сямейны.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода.
Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар.
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.